ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

22 жніўня 1997 г. № 34/3910 Кошт 3 000 руб.





Заўтра народнаму паэту Беларусі Пімену Панчанку спаўняецца 80 гадоў. Так, спаўняецца, бо хоць Пімен Емяльянавіч пайшоў з жыцця 2 красавіка 1995 года, ён па-ранейшаму — жывы. Жывы сваімі неўміручымі творамі, жывы памяццю тых, каму давялося з ім сябраваць ці проста сустракацца. І будзе жыць вечна, таму што людзі, падобныя Панчанку, у нябыт не адыходзяць. Іх талент неўміручы, а напісанае імі не проста застаецца, а і актыўна працуе на дзень сённяшні і будучы. Бо яно значнае сваім агульначалавечым зместам. Бо напоўнена клопатамі пра лёс свайго народа, лёс нацыі...

*Матэрыялы, прысвечаныя 80-годдзю Пімена Емяльянавіча Панчанкі — на стар. 6-7.*

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы, працягваецца падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 1997 г. Падпісацца на тыднёвік можна ў любым паштовым аддзяленні да 10 верасня.*

*Кошт падпіскі на квартал — **30 тысяч рублёў**, на месяц — **10 тысяч**.*

**Наш індэкс — 63856.**

## АМ КОЛА ДЗЁН

***Паслухаеш беларускае радыё, паглядзіш тэлебачанне, а потым пачытаеш газеты і міжволі падумаеш: пра якую гэта "міжнародную ізаляцыю" нашай краіны трубіць апазіцыя! Ледзь не штодня прэзідэнт, прэм'ер-міністр ці кіраўнік МЗС сустракаюцца з замежнымі дэлегацыямі — то з Германіі, то са Швейцарыі, то з Італіі, не кажучы ўжо пра Расію... Але варта толькі больш пільна ўглядзецца ў змест гэтых "кантактаў", дык адразу ж узнікае пытанне пра іх вартасць. Беларускія ўлады апошнім часам рэалізоўваюць найноўшую канцэпцыю міжнародных зносінаў: з аднаго боку, у супрацоўніцтва ўключаецца дзяржава (у дадзеным выпадку Беларусь), з другога — вобласць, край, штат, зямля, кантон і г.д. нейкай іншай дзяржавы, а то і проста буйная фірма... Вялікія дзяржавы нібыта не заўважаюць "маленькую хітрасць" маленькай дзяржавы і заплюшчваюць вочы на кантакты з ёй сваіх рэгіёнаў. Тым болей, што кантакты гэтыя выгадныя: дзеля іх Беларусь гатовая пайсці на любыя саступкі. Да таго ж, такое высокае афіцыйнае значэнне гэтым стасункам надаецца толькі на Беларусі і больш нідзе. Але ж знаходлівасць — ёсць знаходлівасць. Хай сабе яна і "дамашняга прызначэння" — выключна для падняцця настрою ў "электарата"... Але павышаючы гэткім чынам "імідж" сваёй дзяржавы дома, нашы палітыкі ўшчэнт разбураюць яго за межамі, у свеце, дзе, гледзячы на гэткае "супрацоўніцтва на найвышэйшым узроўні", толькі пацепваюць плячыма.***

### *СКАНДАЛ ТЫДНЯ*

На мінулым тыдні ўсе чакалі аднаго: чым жа скончыцца канфліктная сітуацыя, што склалася пасля затрымання групы журналістаў ГРТ на чале з П.Шараметам. А яна атрымала нечаканы працяг — на тым жа месцы была затрымана яшчэ адна група расійскіх журналістаў, якія прыехалі на беларуска-летувіскую мяжу з падобнаю мэтаю. Аднак самае сенсацыйнае было наперадзе: кіраўнік гэтай групы ГРТ малады журналіст А. Адамчук зрабіў прызнанне: ён "гэтае заданне атрымаў ад кіраўніцтва ГРТ і шчыра шкадуе, што быў уцягнуты ў гэтую несумленную гульню". Беларускія ўлады настолькі абрадаваліся такой заяве, што тут жа прызналіся — больш за тыдзень яны, аказваецца, сачылі за групай ГРТ і... праслухоўвалі тэлефонныя размовы... Такім чынам, яшчэ ўчора, у чацвер, у Беларусі ў следчых ізалятарах Гародні і Ліды ўтрымлівалася 6 расійскіх тэлежурналістаў. Хоць ужо паступілі звесткі, што Масква заняла жорсткую пазіцыю адносна Беларусі і патрабуе неадкладнага вызвалення ўсіх затрыманых журналістаў.

### *АБСУРД ТЫДНЯ*

У Гародні адбыўся незвычайны судовы працэс. Бацька вучаніцы 5-га класа СШ N 10 Агаты Мацко падаў у суд на кіраўніцтва школы з патрабаваннем забяспечыць магчымасць для ягонай дачкі вучыцца на роднай мове. Суд прыняў беспрэцэдэнтнае рашэнне: "Адмовіць у аднаўленні навучання Мацко Агаты на беларускай мове", бо "пераход" 5 "г" класа на рускую мову не супярэчыць арт. 17, дзе ўказана, што дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца як беларуская, так і руская". Разумеюць гэта ўлады альбо не, аднак суд тым самым пацвердзіў факт, што на Беларусі праводзіцца палітыка дыскрымінацыі мовы карэннага насельніцтва. Правы выбару мовы навучання дзяцей у бацькоў забіраюць з дапамогай Канстытуцыі, паводле якой гэтае права нібыта гарантавана.

### *УГОДКІ ТЫДНЯ*

19 жніўня 1991 года практычна знікла з карты свету дзяржава пад назвай СССР. Гэты дзень стаў пачаткам канца вялізнай савецка-рускай імперыі. "Парад суверэнітэтаў" у адзін месяц зрабіў незалежнымі дзяржавамі ўсе 15 рэспублік-сясцёр (у тым ліку і Расію). Падштурхнулі іх да гэтага "гэкачэпісты", якія хацелі ўсялякага ўмацавання СССР. Дабіліся ж адваротнага. Гісторыя пачынаецца трагедыяй, а заканчваецца фарсам. Менавіта такое "класічнае" развіццё меў і СССР. ГКЧП і задуманы ім пераварот ужо праз дзень-другі сталі відавочным фарсам...

### *АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ*

З 18 жніўня павінны былі пачаць дзейнічаць новыя мытныя правілы пры перасячэнні мяжы Беларусі. Уводзяцца яны для абароны не столькі беларускага, колькі расійскага рынку (найперш — аўтамабільнага). Аднак у чарговы раз (у чацвёрты!) тэрмін уступлення ў сілу гэтых правілаў перанесены — на 15 верасня. Бо да ўвядзення іх зноў аказалася негатовай... Расія.

### *НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Незалежны і залежны друк часта праводзіць розныя сацыялагічныя даследаванні. Падобным у іх выніках было адно: найвышэйшы рэйтынг даверу сярод насельніцтва Беларусі заўсёды меў прэзідэнт. Апошнія ж сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя лабараторыяй "Новак", далі нечаканы вынік: у рэйтынгу даверу на Беларусі на першае месца выйшла царква. Прэзідэнт — толькі на трэцім месцы. Аднак на палітычным небасхіле канкурэнтаў у прэзідэнта па-ранейшаму няма. У іншых, былых, лідэраў, чые імёны яшчэ нядаўна "грымелі", рэйтынг стаў блізкім да нуля. А новыя, пэўна, яшчэ пакуль не нарадзіліся. У палітычным сэнсе...

### *ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ*

З гэтае восені на Беларусі яшчэ адной савецкай традыцыяй стане больш: зноў паедуць студэнты дапамагаць калгасам і саўгасам капаць бульбу. Такое рашэнне прыняло... Міністэрства адукацыі разам з Дзяржкамітэтам па справах моладзі. Вёска, вядома, сёння састарэла і мае патрэбу ў дапамозе. Але ці не варта было б і пашукаць новыя — "рынкавыя" — формы "шэфства", а не вяртацца да добра забытых старых.

### *ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Беларусі павіншаваў студэнтаў і выкладчыкаў Магілёўскага педінстытута з пераўтварэннем яго ва універсітэт. Такім чынам, яшчэ на адну найвышэйшую навучальную установу у нас стала больш і яшчэ адзін горад стаў універсітэцкім. Чарада перайменаванняў (чыста механічных), спадзяёмся, на гэтым скончыцца. Бо павышаючы статус адных ВНУ ці не паніжаем мы тым самым статус другіх і, адначасова, статус самой вышэйшай (універсітэцкай!) адукацыі?

АНОНС

# Чакаюць нас дні... еўрапейскія

### 12—15 ВЕРАСНЯ НА БЕЛАРУСІ ПРОЙДУЦЬ ЕЎРАПЕЙСКІЯ ДНІ СПАДЧЫНЫ

Гэта маштабная міжнародная акцыя распачата ў 1991 годзе па ініцыятыве Савета Еўропы пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза. Сёлетнім вераснем у ёй удзельнічае ўжо больш як 40 краін, у тым ліку — Беларусь. Але запытайцеся сёння ў жыхара Беларусі, што ведае ён пра будучую падзею, — пераканаецеся: ні-чо-га. Ведаюць, бадай, толькі тыя працаўнікі айчыннай культуры і асветы, якія, нягледзячы на летнюю часіну, займаюцца падрыхтоўкай Дзён.

Асноўная мэта акцыі — далучэнне ўсіх грамадзян Еўропы да выключнага багацця культурнай спадчыны, якое надае ixнiм рэгіёнам асаблівую, індывідуальную адметнасць. Арганізатары, часцяком добраахвотнікі, імкнуцца да таго, каб усе пласты насельніцтва былі ўключаныя ў ахову гэтай спадчыны і ў працэс спасціжэння яе каштоўнасці. Статыстыка сведчыць, што летась больш як 15 мільёнаў еўрапейцаў удзельнічалі ў шматлікіх вераснёўскіх імпрэзах, скіраваных на ўсведамленне агульнай еўрапейскай ідэнтычнасці людзей, спасціжэнне разнастайнасці іх культур, узаемнае ўзбагачэнне ведамі.

Каштоўнасць культурнай спадчыны не толькі ў тым, што яна ёсць сведчанне мінулага, а і ў тым, што з яе дапамогай можна высветліць прычыны цяперашніх разыходжанняў і падабенства паміж рознымі грамадствамі. Ці не таму так мацнее салідарнасць паміж людзьмі, асабліва — моладдзю, якіх хвалюе іх культурная спадчына?

Савет Еўропы бачыць важнасць правядзення Дзён дзеля такіх мэтаў, як паляпшэнне ведаў народа пра іншыя культуры; захаванне культурнай спадчыны ў найшырэйшым сэнсе гэтага слова; услаўленне ўсіх культур, незалежна ад таго, наколькі "малыя" яны самі ці іхні ўзаемаўплыў (міжкультурны падыход) і да т.п. Еўрапейскія Дні Спадчыны скіраваныя на тое, каб кожны меў магчымасць у выхадныя дні верасня бясплатна агледзець помнікі і мясціны, найперш тыя, што звычайна недаступныя для шырокага наведвання.

Якія ж магчымасці атрымаюць сёлета нашы грамадзяне?

Праграмай прадугледжаны выезд у Мір (агляд замка) і Нясвіж, адкрыццё выставак "Зямля апалена бусла" ("Сучасныя сталкеры"), "Маляванка-97" "Ручніком знітаваныя", экспазіцыі творчасці юных у Івацэвіцкім дзіцячым доме. Плануюцца экскурсіі навучэнцаў і студэнтаў Беларусі па гістарычных мясцінах сваіх гарадоў і паселішчаў, па выставачных залах і музеях; экскурсіі па маршрутах Мінск—Мір— Нясвіж", "Магілёў—Шклоў—Навагрудак, Шчорсы". Ва ўсіх навучальных установах краіны пройдуць тэматычныя кінавідэазаняткі, лекцыі "Спадчына". У кіназалах будуць дэманстравацца дакументальныя і мастацкія стужкі студыі "Беларусьфільм", а ў Саюзе кінематаграфістаў —прэм'ера фільмаў "Першая муза Нясвіжа" і "Макбет".

Еўрапейскія Дні Спадчыны на Беларусі маюць тэматычную назву: "Рухомыя каштоўнасці, зборы і калекцыі". З улікам гэтай тэмы распрацаваны пытанні віктарыны, якая прапануецца нашым школьнікам. На гэтую тэму арыентуецца і выніковая гутарка за "круглым сталом", дзе будуць падведзены вынікі акцыі, а рупліўцы на ніве захавання гісторыка-культурнай спадчыны атрымаюць узнагароды — адмыслова выробленыя знакі Дзён.

ІМПРЭЗЫ

# Ад фонду Крапівы

Месяц таму Мінюстам быў зарэгістраваны "Міжнародны культурны фонд Кандрата Крапівы". Пасады прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта фонду займаюць унукі Кандрата Кандратавіча, сярод членаў праўлення — памочнік прэзідэнта РБ С.Посахаў, кіраўнік групы радцаў прэм'ер-міністра І.Лемяшэўскі, народны пісьменнік Беларусі І.Шамякін, народны мастак Беларусі В.Шаранговіч. Фонд мае мэтай стварыць у Мінску Музей Кандрата Крапівы, паставіць народнаму пісьменніку помнік, займецца уласнае перыядычнае выданне, ладзіць мастацкія выставы — лакальнага, агульнанацыянальнага і міжнароднага маштабу.

З 12 па 17 жніўня прайшла першая публічная акцыя фонду. У рэспубліканскай мастацкай галерэі (Палац мастацтваў) — выстава пяці мастакоў. Жывапісцаў Руслана Вашкевіча, Вольгі Даманавай, Барыса Казакова, Сяргея Рымашэўскага і скульптара Канстанціна Селіханава. Падборка, шчыра кажучы, даволі дзіўная, але экспазіцыя атрымалася.

Руслан Вашкевіч — мастак іранічнага складу і вельмі выразнага почырку. Сваім стаўленнем да жыцця (адлаведна і да мастацтва) ён чымсьці нагадвае мне Міколу Селешчука. Аднак у разуменні мастацкай формы, жывапіснай пластыкі яны хутчэй антыподы.

Вольга Даманава працуе, так бы мовіць, "пад Сальвадора Далі". Але някепска асвоіўшы стылёвыя прыёмы мэтра сюррэалізму, яна пакінула па-за ўвагай філасофію гэтай мастацкай плыні.

Барыс Казакоў — "класічны" рэаліст. Ягоныя сюжэты немудрагелістыя, але творы прыцягваюць увагу эфектнай жывапіснай тэхнікай.

Сяргей Рымашэўскі — адзін з найбольш вядомых маладых творцаў Беларусі. Пры ўласцівай ягоным сюжэтам фантастычнасці, у іх лёгка прачытваюцца нашы побытавыя рэаліі. І што вельмі важна, у палотнах Сяргея ёсць водгулле "старых добрых часоў", калі неад'емнымі рысамі жывапіснага палатна былі колер, каларыт, кампазіцыя. Бо сёння часам бывае цяжка знайсці стылёвую розніцу паміж карцінай і, скажам, афішай альбо рэкламным шыльдай.

Скульптурная пластыка Канстанціна Селіханава вызвалена ад апавядальнасці. Яна — ні пра што, але здольная нарадзіць мноства асацыяцый.

Мяркуецца, што гэтая выстава распачынае маштабную праграму "Сучаснае мастацтва Беларусі". З такіх вось экспрэс-выстаў павінна сфармавацца калекцыя, якую не сорамна экспанаваць дома і везці за мяжу. Калекцыя адначасова высокамастацкая і рынкава-канвертуемая. Задума добрая. На карысць краіны. А што атрымаецца — пабачым.

Занепакойвае сёння ў праграме фонду, бадай, адно: небяспечны ўхіл у "славянскасць" і занадта шчыльныя стасункі з афіцыёзам.Тут можа атрымацца сітуацыя, якую расійцы характарызуюць словамі "на чьей телеге едешь, тому и песенки поешь".

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

ЗАЯВА

# Яшчэ адна спроба запалохаць?..

Прадстаўнікі беларускай дэмакратычнай грамадскасці прынялі заяву ў сувязі з тым, што на 25 жніўня прызначаны суд над старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады) Мікалаем Статкевічам. "Лідэр беларускіх сацыял-дэмакратаў, — гаворыцца ў ёй, — ужо чацвёрты раз за апошнія восем месяцаў прыцягваецца да судовай адказнасці за арганізацыю і кіраванне мірнымі дэманстрацыямі пратэсу супраць дыктатуры. Апошнюю дазволеную ўладаю дэманстрацыю ён узначаліў 27 ліпеня — у Дзень Незалежнасці. Як і тры папярэднія, гэтае шэсце не суправаджалася парушэннем грамадскага парадку ці сутыкненнямі дэманстрантаў з сіламі аховы парадку.

У выпадку, калі суд прызнае Мікалая Статкевіча вінаватым, ён можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і зняволены на некалькі год.

Пераслед кіраўніка БСДП(НГ) — гэта прыклад грубага парушэння правоў чалавека ў нашай краіне, а таксама акт помсты палітычнаму лідэру, які, нягледзячы на перашкоды ўладаў, шмат зрабіў для ператварэння сацыял-дэмакратычнага руху ва ўплывовую палітычную сілу. Гэта яшчэ адна спроба запалохаць партыю, якая цвёрда стаіць на пазіцыях дзяржаўнасці, дэмакратыі і абароны правоў наёмных работнікаў.

Мы выказваем рашучы пратэст супраць судовага пераследу Мікалая Статкевіча і ўсіх судовых пераследаў удзельнікаў мірных дэманстрацый і мітынгаў. Мы заклікаем грамадскасць у нашай краіне і за мяжою выступіць супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі".

Заяву падпісалі вядомыя палітыкі, дзеячы культуры і літаратуры, прафсаюзныя лідэры, у тым ліку Г. Бураўкін, В. Быкаў, Г. Быкаў, С. Багданкевіч, Н. Гілевіч, М. Грыб, А. Дабравольскі, І. Сярэдзіч, Г. Таразевіч, Ю. Хадыка і інш.

ВЫСТАВЫ

# Беларускае Палессе з польскага архіва

Да 20 верасня ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры будзе працаваць фота-этнаграфічная выстава"Палессе, якога мы не ведаем". Выстава арганізавана амбасадай Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь, консульствам Польшчы ў Берасці, Міністэрствам культуры РБ, Беларускім інстытутам праблем культуры, кафедрай этналогіі і антрапалогіі культуры Варшаўскага універсітэта. Выстава ўжо экспанавалася ў Берасці, Пінску, Кобрыне. У Мінску турнэ завяршаецца. Камісары выставы з польскага боку Ганна Энгелькінг і Катажына Домбэк, куратар ад Беларусі — Вольга Лабачэўская.

Шэсць дзесяцігоддзяў таму, у 1934—1937 гадах на Палессі праводзіў доследы вядомы этнограф і сацыёлаг Юзаф Абрэмскі. Вынікі тых даследаў былі апрацаваны і апубліканы толькі часткова, бо перашкодзіла вайна. Трэба дзякаваць Богу, што гэтыя унікальныя матэрыялы, па якіх можна ўявіць жыццё заходнебеларускай глыбінкі напярэдадні Другой сусветнай вайны, не згарэлі, не згубіліся. Юзаф Абрэмскі змясціў іх у металічныя скрыні і закапаў у агародзе каля свайго дома. У зямлі яны і праляжалі ўсю вайну.

У 1995—1996 гадах маладыя польскія навукоўцы прайшліся палескімі сцежкамі Юзафа Абрэмскага. Сабраныя ў той вандроўцы матэрыялы разам з фотаздымкамі 1934—1937 гадоў экспанаваліся ў Варшаве, зараз, дзякуючы супрацоўніцтву дзяржаўных органаў і культурніцкіх устаноў Польшчы і Беларусі, азнаёміцца з выставай маюць магчымасць і грамадзяне нашай краіны.

Гэта сапраўды Палессе, якога мы не ведаем. Гэта пласт культуры, які ў СССР атаясамліваўся з "праклятым мінулым" і свядома ігнараваўся сацыёлагамі, этнографамі, культуролагамі. Ды і сёння стаўленне да гэтага неадназначнае. Калісьці музыказнаўца і этнограф Зінаіда Мажэйка расказвала, што калі нейкі партыйны начальнік, пабачыўшы адзнятыя яе здымачнай групай народныя абрады, заявіў: "Ну вот, я увидел на экране то, с чем всю жизнь боролся!" Прыблізна так была ўспрынята выстава раённым начальствам на Палессі. Як ідэалагічная правакацыя. Нават былі лісты ў Адміністрацыю прэзідэнта ў Мінск... Асабліва не спадабалася мясцовым цэнзарам тое, што пры сапастаўленні здымкаў Абрэмскага і фотахронікі сённяшняга жыцця Палесся, міжволі думаеш, што тых шасцідзесяці гадоў — як не было. Тая ж натуральная гаспадарка, тыя ж людзі, той жа лад жыцця... Прынамсі, так падалося мне на выставе ў Мінску.




Па заканчэнні выставы плануецца правесці навуковы семінар, накшталт тых, якімі суправаджалася выстава ў палескіх гарадах. Рэалізаваны праект "Палессе, якога мы не ведаем" — выдатная падзея ў культурных стасунках Беларусі і Польшчы. Можа, яно і крыўдна, што сёння, пасля дзесяцігоддзяў бальшавіцкага панавання, беларусам даводзіцца шукаць сябе... у замежных архівах. Але такая наша рэчаіснасць. А зрэшты, рэалізаваны праект — гэта звычайная міжнародная кааперацыя.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



Традыцыйнае ўскладанне кветак на магілу Якуба Коласа, адбылася 15 жніўня, у дзень яго смерці. На сустрэчу з песняром прыйшлі пісьменнікі, навукоўцы, педагогі, вучні... Пра неўміручасць Коласавага слова, пра яго дзейнасць у нашы трывожныя дні гаварылі дырэктар музея Вялікага паэта З. Камароўская, пісьменнікі В. Зуёнак, У. Паўлаў, С. Грахоўскі, Я. Хвалей, М. Пазнякоў, дацэнт Белдзяржуніверсітэта В. Казлова.

Заслужаная артыстка Беларусі Т. Мархель праспявала народныя песні, сугучныя тэме сустрэчы.

*Фота Алеся ФЕДАРЭНЧЫКА*



# "Князь Вітаўт"

## З НАГОДЫ ПРЭМ'ЕРЫ

Рэкламныя шчыты гэтага спектакля з'явіліся ў сталіцы яшчэ на пачатку лета. Яны вабілі і назвай — "Князь Вітаўт", і імем драматурга — Аляксей Дудараў, і сузор'ем вядомых акцёрскіх імёнаў. Можа, яшчэ і гэтым тлумачыцца той незвычайны перааншлаг (і гэта ў жніўні!), што адбыўся на прэм'еры "Князя Вітаўта" ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

П'еса Аляксея Дударава распавядае пра вядомыя падзеі, якія былі на беларускай зямлі шэсцьсот гадоў таму: барацьбу стрыечных братоў Вітаўта і Ягайлы за ўладу, палон у Крэве, уцёкі з палону Вітаўта і забойства яго бацькі Кейстута, узыходжанне Ягайлы на польскі прастол, абвяшчэнне Вітаўта Вялікім князем. Пераход з аднаго вераванання ў іншае, здрада, узаемны недавер, змовы з крыжакамі — вось сродкі, накіраваныя "на карысць дзяржавы", якім не грэбуюць ні Ягайла, ні Вітаўт. Але і сярод вялікай палітыкі гучыць узвышаная тэма — гісторыя самаахвярнага кахання Алёны (Зоя Белахвосцік), дзяўчыны са світы жонкі Вітаўта Ганны, да самога Вітаўта.

Здаецца, усё гэта — "легенды сівой даўніны", але спектакль у пастаноўцы Валерыя Раеўскага атрымаўся надзвычай актуальным. Нездарма ж некаторыя слушныя рэплікі Ягайлы сваёй трапнасцю не раз выклікалі ў зале шквал апладысментаў. Ягайлу ўвогуле можна лічыць галоўнай дзеючай асобай спектакля нароўні з Вітаўтам (Генадзь Давыдзька), вельмі ўжо цікавым і нават шчырым атрымаўся ён у акцёра Мікалая Кірычэнкі.

Новая пастаноўка Купалаўскага тэатра ўражвае сваёй маштабнасцю. Тут сабраны ўвесь "цвет" галоўнага драматычнага тэатра рэспублікі: А. Мілаванаў, А. Гарцуеў, В. і З. Белахвосцікі, А. Гарбуз, Г. Маляўскі, В. Рэдзька, Г. Фёдарава, А. Падабед, Г. Гарбук, У. Рагаўцоў, А. Памазан, П. Дубашынскі і многія іншыя. Шматлікіх манахаў, дзяўчат з акружэння княгіні Ганны, крыжакоў іграюць студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў. Уражвае і манументальная сцэнаграфія Барыса Герлавана. Велізарная механічная канструкцыя, якая складаецца з вертыкальных шчытоў і займае ўсю сцэнічную прастору, нагадвае магутныя брамы старажытных палацаў-крэпасцяў, а выявы святых на адваротным баку — велічную царкву. Відовішчнасць, размах надаюць спектаклю шыкоўныя, адпаведныя часу касцюмы, танцавальныя сцэны прыгажунь-актрыс у пастаноўцы харэографа Марыны Дударавай ды ўдалая музычная афарбоўка кампазітара Віктара Капыцько.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

ЯК ПРА НАС

# "Мы душы страцілі, душы..."

***У апошнім ліпеньскім нумары "АІФа" пад загалоўкам "Булат Акуджава. Сарачыны" змешчана даўняе, яшчэ 1983, так, 1983 года, інтэрв'ю паэта, тады так і не апублікаванае. Сёння, праз чатырнаццаць гадоў, думкі і меркаванні Булата Шалвавіча не страцілі сваёй надзённасці і нават злабадзённасці.***

***Прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" адказ паэта ўсяго на адно пытанне аўтара інтэрв'ю Марыны Няўзоравай.***

**— Што вам выдае на сённяшні дзень самым трывожным?**

— Не толькі цяпер. Даўно ўжо. Маркую, самае страшнае, што адбылося ў наш час, — тое, што мы знішчылі трохсотгадовую дваранскую культуру і рэлігію, а хамства засталося ў чыстым выглядзе. Я не ідэалізую мінулае зусім, але тады гэтыя магутныя апірышчы неяк абвысакароджвалі грамадства. Мы шмат што страцілі, калі гаварыць пра культуру. Адсюль і стан душы няпоўнавартасны. Разумееце, мы можам і эканоміку аднавіць, можам і сельскую гаспадарку прывесці да ладу, але якія б рэформы мы ні ўводзілі, нам спатрэбіцца мінімум пяцьдзесят гадоў, каб маральнасць нашага грамадства зрабіць нармальнай. Мы душы страцілі, душы.

У семнаццатым годзе сталі свядома разбураць трохсотгадовую культуру. А ўзамен навязвалі іншыя ідэалы. Ідэалы гэтыя не маюць дачынення да культуры. Ідэалы — гэта катэгорыя палітычная, так бы мовіць, і грамадская. А вось культура... Цяпер, калі б не расчыненыя нашы дзверы, і не замежнікі ў вялікай колькасці, і не валюта, якая ад іх ідзе, і не выгада красавацца за мяжою, у нас бы не было балета, які мы ствараем не з любові да балета, а таму, што гэта палітычна зручна. У нас бы не было многіх цэркваў, якія мы таксама прыўкрашваем для інтурыстаў. А калі б мы гэтыя цэрквы зберагалі як помнікі гісторыі Айчыны?

І настаўнікі зробіць нічога не могуць. Ну што гэтая няшчасная настаўніца? Яна чытае падручнік, баіцца адступіць ад яго, нават калі яна мыслячая асоба, бо ёй па галаве дадуць за гэта. Я сам быў настаўнікам, ведаю, што гэта такое, калі ў школе 95 працэнтаў настаўнікаў — людзі, не па іх волі выкінутыя ў гэтую прафесію, раздражнёныя, якія ненавідзяць сваіх вучняў. А крывадушнасць якая працвітае ў школе! Душы стравваюцца яшчэ і на тым, што мы ўсё выхоўваем іншых, як бы забываючы, што зусім дастаткова выхаваць самога сябе... А ведаеце, што Чэхаў сказаў у сваіх запісных кніжках? Разумны любіць вучыцца, а дурань вучыць.

І кіруюць намі невукі. Ім важна цяпер пратрымацца на гэтым месцы. А што там будзе з маральнасцю... Яны і слова гэткага не ведаюць. Яны не ведаюць наогул нічога. Адзінае, чаго яны хочуць, — пратрымацца. Прабіліся на гэтае месца па трупах і хочуць пратрымацца. Гэта так проста. Галоўная бяда заключаецца ў аб'ёме хлусні, якой насычана грамадства...

ЭКСЛІБРЫС

# Аддай асалоду Богу

*Ларыса Раманава. Першая кніга паэта "Мастацкая літаратура", Мінск, 1997.*

**Разважаючы над асаблівасцямі сённяшняй беларускай жаночай паэзіі, прыходзіш да высновы, што паэткі значна болей за паэтаў схільныя адыходзіць ад рэальнага свету. Хіба ніводная з іх ужо не можа напісаць так, як у свой час напісала Цётка: "Бомба — трах! Сяргей у шматы". І тут ёсць пэўная небяспека. Размытасць думкі, яе, так бы мовіць, непрадуманасць, хаваецца за вэлюмам прыгожых слоў, якія падаюцца паэзіяй, але адрозніваюцца ад яе гэтаксама, як лубок ад карціны. Радкамі Л. Раманавай: "О, гэты дождж! О, гэта слота! Калі размыты ўсе абрысы лесу..." — можна акрэсліць крэда сучаснай беларускай жаночай паэзіі.**

**Такія практычныя і рацыянальныя ў жыцці, у паэзіі жанчыны раптам губляюцца, ніякавеюць, становяцца далікатнымі і легкадумнымі, і Л. Раманава тут не выключэнне. Паэтка спрабуе разважаць хрысціянскімі катэгорыямі, але яна не рупіцца пра іх дакладнасць: "Будзеш спаць, як не спаў і анёлак", піша яна, не задумваючыся, а ці спіць анёлак увогуле. Свой верш яна можа параўнаць з Богам, які схаваўся "па-за белай сцяной аблокаў". Гэтая, на першы погляд асацыятыўная недакладнасць, аказваецца, мае сваю логіку, якая вынікае са спрэчкі паэткі ў вершы з Богам і д'яблам: "Больш за ўсё чалавечае слова значыць, Бо ўсё існае — толькі тут". І нават назва зборніка не пераконвае нас, бо з лёгкасцю паэтка мяняе "бязгрэшнага анёла" на "гаспадара пекла".**

**Але і зямны свет не прыцягвае яе ўвагі: "І цягнецца жыццё зямное, Як нейкі жарт, як штось дурное...". "Ах!.. Няўтульна на свеце і горка!" — усклікае яна ў іншым вершы. І больш таго, яна не любіць гэты зямны свет і назірае ў сне, як "будзе рушыцца неба... захлынецца ў полымі свет". А што, як не сонныя ўявы, перадаюць самыя патаемныя жаданні чалавека?**

**Рэальнасць, якая ўвасабляецца нават усяго толькі ў слове, не задавальняе яе: "Ані на воднай мове не магу сказаць тое Слова, якое хачу... Душа акамянелай птушкай падае ў вір". І вось там, у "віры" мараў, крозаў і містыкі, паэтка знаходзіць сябе і сваіх герояў. Там яе свет, там яе другое сапраўднае жыццё. Таму і русалка-тапеліца, якая, "калі падплывае да берага, Спявае так светла і жаласна", ці не самая любімая яе гераіня. "Я сню твой сон, — уяўляе паэтка і бачыць той вырай, куды імкнецца яе душа, — Сады аж свецяцца налівам спелым, арэхі на галлі, І тыя ж пекныя суніцы на зямлі, і пчолкі ў старых вуллях" — вось яе сапраўдны свет сну.**

**Паэтку няўмольна цягне туды, там яна пачуваецца лепей за ўсё, і гэты ўяўны свет дапамагае ёй пераадольваць праблемы рэальнага жыцця: "Я жыву цяпер у тонкім шоўкавым сне. Дзіўна так неяк ведаць: "хутка не будзе мяне". У гэтым свеце "цені кладуцца далей за месяц", там "усё зразумела і проста... У садзе растуць камяні і матылі не любяць святла". Ён насычаны нейкім дзіўным наркатычным водарам, які пераўтварае звычайнае дрэва, і яно "цэнь скідае з самога сябе, і цень гэты, дзіўны мой госць".**

**"Які гэта дзіўны горад!" — здзіўляецца паэтка, разглядаючы свой свет мараў і фантазій, а разам з ёй здзіўляемся і мы.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## З гісторыі беларускіх родаў

**Гістарычныя дакументы, што захаваліся ў архівах і бібліятэках (хронікі, летапісы, прывілеі, павятовыя спісы і радаводныя кнігі губерняў) сведчаць аб тым, што не зніклі, не згубіліся на Беларусі звесткі пра старадаўнія роды. Сёння ўсё больш і больш людзей звяртаецца да гэтых гістарычных крыніц. Непадрыхтаванаму чытачу цяжка разабрацца ва ўзаемаадносінах дзеючых там асоб. На дапамогу павінна прыйсці генеалогія — спецыяльная гістарычная дысцыпліна, што вывучае паходжанне, гісторыю, сацыяльнае становішча, сваяцкія сувязі родаў і асоб.**

**У бюлетэні “Новыя кнігі. Па старонках беларускага друку”, 1997, N 3 і N 6, што выдаецца Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, змешчаны бібліяграфічны спіс “Старажытныя роды Беларусі”, які складаецца з дзвюх частак: “З гісторыі княжацкіх родаў” і “Магнацкія роды”. У першую ўвайшлі наступныя раздзелы: “Кароткія звесткі пра генеалогію Беларусі”, “Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага”, “Князі рускага паходжання”. Вялікую цікавасць уяўляе раздзел “Магнацкія роды”, які складае другую частку агляду.**

**Першая частка бібліяграфічнага спіса “З гісторыі княжацкіх родаў” знаёміць чытачоў з нашчадкамі дынастый літоўскіх “старэйшых” князёў (легендарныя роды Палямонаў і Даўспрунгаў), князёў полацкіх, тураўскіх, віцебскіх, смаленскіх (так званыя Рурыкавічы) і прыезджых князёў, а таксама з нашчадкамі вялікага літоўскага князя Гедыміна (дынастыі Гедымінавічаў і Ягелонаў). Увазе чытачоў прадстаўлены радаводы тых княжацкіх родаў, прадстаўнікі якіх валодалі ўдзельнымі княствамі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і на працягу сярэдніх вякоў стваралі асноўнае кіруючае кола спачатку старажытных княстваў, а потым і Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Прапануемыя матэрыялы адлюстроўваюць генеалогію родаў князёў Гальшанскіх, Гедройцаў, Чартарыйскіх, Алелькавічаў, Друцкіх, Астрожскіх, Агінскіх і Глінскіх.**

**Другая частка бібліяграфічнага спіса пазнаёміць чытачоў з найбольш славутымі магнацкімі родамі Вялікага княства Літоўскага: Кезгайламі, Гаштольдамі, Хадкевічамі, Сапегамі. Прадстаўнікі гэтых родаў здолелі пакінуць прыкметны след у самых розных галінах дзейнасці — ад грамадска-палітычнага жыцця да культуры і асветніцтва. Яны бралі ўдзел у ваенных дзеяннях, на свае грошы будавалі друкарні, стваралі тэатры, пісалі музыку, збіралі і захоўвалі калекцыі кніг, гістарычных дакументаў, карцін, зброі і каштоўнасцяў. Асноўным крытэрыем для вызначэння магнацкіх родаў, што падаюцца ў гэтым спісе, з’яўляецца ўстойлівае займанне іх прадстаўнікамі вышэйшых дзяржаўных пасад, якія давалі права на галоўныя месцы ў Радзе і Сенаце: ваяводы і кашталяна віленскага, ваяводы і кашталяна троцкага, біскупа віленскага. Усе радаводы магнатаў даведзены да канца XVIII ст. — часу, калі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Вялікае княства Літоўскае перастала існаваць, а яго тэрыторыя была далучана да Расійскай імперыі.**

**Галіна БАРЫГА**

## Вас вітае Шаперон Руж

**Як “Амаль неверагоднае здарэнне ў тэатры Жака-Гіньёля” вызначыў жанр сваёй новай пастаноўкі галоўны рэжысёр Берасцейскага тэатра лялек Зміцер Нуянзін, увасобіўшы на сцэне казку “Чырвоны Каптурык” паводле п’есы С. Когана і С. Яфрэмава. Як вядома, брацца за рэчы, што сталіся класічнымі, заўсёды рызыкоўна. Аднак любая рызыка апраўдваецца, калі з удалай задумы вынікае ўдалае ўвасабленне. Прэм’ерны дзень паказаў: намаганні пастаноўшчыкаў, а да зладжана падабранага акцёрскага ансамбля трэба дадаць добрыя работы мастака Міколы Данько і кампазітара Анатоля Мядзведзева, былі недарэмнымі. А калі яшчэ браць пад увагу, што беларускаму гучанню казкі (пераклад С. Пяткевіча) быў нададзены французскі каларыт, то “неверагоднае здарэнне” займела яшчэ ў сабе і элементы лінгвістычнага ўрока. Дый фінал, як ніколі, атрымаўся досыць гуманістычным: Воўк, у якога традыцыйна стралялі з усіх магчымых відаў зброі, гэтым разам застаецца жыць...**

**І. Х.**

# Адзін дух, адна царква...

***Беларускае праваслаўнае брацтва трох Віленскіх мучанікаў, што існуе пры Свята-Петра-Паўлаўскай царкве, адметнае не толькі царкоўнай, але і культурна-асветніцкай дзейнасцю, многімі ініцыятывамі. Праблема істотнай сувязі рэлігіі і культуры, на жаль, яшчэ не набыла належнага ўсведамлення; штучны разрыў паміж sacrum і profanum, секулярызаваным і царкоўным параненйшаму замінае мысліць наша адраджэнне ў кантэксце духоўна-рэлігійным, сакральным. Быць можа, менавіта ў духоўным сінкрэтызме — крыніца моцы і неўміручасці культуры?..***

***Падобныя думкі займалі мяне даўно, займаюць і цяпер, нягледзячы на адыёзны вобраз Рускай праваслаўнай царквы, сфармаваны адраджэнскай публіцыстыкай апошніх гадоў.***

***Рэлігія — найвышэйшая праява культуры, сфера трансцэндэнцыі чалавечага духу, усё іншае — ніжэй. Пяць гадоў я назіраю спробы брацтва паяднаць царкоўнае і мірское і бачу, што падстава іх дзейнасці значна глыбейшая, чым звычайная набожнасць. Дыялог, што адбыўся са старшынёй брацтва Міколам МАТРУНЧЫКАМ і актыўным братчыкам, філолагам Іванам ЧАРОТАМ пасля іх чарговага паломніцтва, закранае і гэты аспект.***

**— Сёлета паломніцтва да святых мясцін у Вільню было звязана з юбілейнымі царкоўнымі датамі. Раскажыце падрабязней пра іх, калі ласка.**

**М. М.:** Даты сапраўды асаблівыя ў гісторыі царквы Беларусі. У ліпені споўнілася 450 год Свята-Духава манастыра і адзначаліся 650-ыя ўгодкі трох Віленскіх мучанікаў, чые мошчы захоўваюцца ў манастыры. Дзве падзеі мелі вынікам трэцюю: адбыўся першы візіт у Літву Патрыярха Маскоўскага і Ўсяе Русі Алексія II.

**— На якім узроўні ладзілася святкаванне?**

**М. М.:** Без перабольшання скажу — на дзяржаўным. Былі выдзелены сродкі на рамонт манастырскага храма. Ва ўрачыстай багаслужбе бралі ўдзел кіраўнікі літоўскай дзяржавы: прэзідэнт В. Бразаўскас і спікер парламента В. Ландсбергіс. Патрыярху Алексію II уручылі ордэн — вышэйшую ўзнагароду Літоўскай рэспублікі. Былі запрошаны вышэйшыя іерархі Рускай праваслаўнай царквы, сярод якіх — тры пастаянныя члены Сінода, а таксама прадстаяцелі епархій РПЦ Латвіі, Эстоніі і Расіі.

**— А ў якім статусе прысутнічалі братчыкі з Беларусі?**

**І. Ч.:** Толькі не ў афіцыйным. Пяты год мы ездзім да святых мошчаў Віленскіх мучанікаў, якіх не без падстаў лічым “сваімі”, беларускімі. І не толькі таму, што іх духоўны подзвіг адбыўся на тэрыторыі поліэтнічнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, у горадзе, які, можна сказаць, стаў калыскай нацыянальнай ідэі. Ёсць звесткі, што віцебская князёўна Алена, жонка Альгерда, прывезла Антона, Іаана і Еўстафія з сабой у Вільню. Значыць, яны хутчэй за ўсё і нарадзіліся на нашай зямлі. Віленскія мучанікі, як вядома, уключаны ў сабор беларускіх святых. Іх памяць жыве ў народзе, асабліва ў заходніх абласцях Беларусі. У мяне на радзіме ў Вежыцкай царкве (цяперашні Жабінкаўскі раён) таксама вісіць старэнькая ікона гэтых святых братоў. І яшчэ пра повязі: апякун святы майго краю, Афанасій Брэсцкі, постРыг прыняў у Свята-Духавым Віленскім манастыры. Вядомы як пісьменнік Лявонцій Карповіч быў першым архімандрытам Свята-Духава манастыра і апекуном тамашняга брацтва, падобнага нашаму.

Між іншым, Мінскі Петра-Паўлаўскі сабор, дзе мы вядзём размову, у цяжкія для праваслаўя Беларусі часы падпарадкоўваўся гэтаму манастыру.

**— Аднак, выходзіць, беларуская царква не спрычынілася да святкавання ўгодкаў сваіх святых?**

**М. М.:** На сваім узроўні — спрычынілася. Пасля малебна за беларускі народ адбылася святочная літургія ў іх гонар, у Петра-Паўлаўскім саборы. Што ж да Вільні... Калі падчас урачыстасцей Алексій II і Архібіскуп Літоўскі абменьваліся прамовамі, я думаў пра тое, як не хапае тут, ля Вострай Брамы, прадстаўнікоў беларускага экзархата. Мы ж не дзе-небудзь за краем свету знаходзімся — мы побач, мы суседзі. І дзяржавы нашы ў добрасуседскіх адносінах. У самім Свята-Духавым манастыры клір і брація манастырская ў большасці паходзяць з Беларусі. Пра паломнікаў ужо не кажу...



**— Чаму, як вы лічыце, так адбылося?**

**М. М.:** Патрабавалася не так многа, апавешчанне і запрашэнне. На жаль, ні таго, ні другога не было. Ні епіскапаў нашых, ні вернікаў туды не паклікалі. Крыўдна, але даводзіцца канстатаваць, што з Літоўскай праваслаўнай епархіяй у нас няма належнай сувязі. Не дачакаліся запрашэння і праваслаўныя Беласточчыны, хаця, як нам сказалі, рыхтаваліся месяц.

**— Мо адсутнічае сам механізм такой сувязі?**

**І. Ч.:** Калі мець на ўвазе духоўную вернасць святыням, то тут нам ні дзяржаўныя, ні іншыя межы не перашкода. Ёсць такое паняцце: этнадухоўная прастора. Тое, што культ святых Віленскіх мучанікаў вытрымаў выпрабаванне часам — яскравы паказчык існавання гэтай прасторы. Яе адчувае ўцаркоўлены люд. Адчуваў яе і кананізаваны Рускай праваслаўнай царквой святы Патрыярх Ціхан, які прыйшоў на патрыяршы пасад якраз з Віленскай кафедры. У 1922-м годзе да яго і Папы Рымскага звярнуўся з мемарандумам урад БНР, заклапочаны станам царквы на Беларусі. Ад Папы адказу не прыйшло, а вось Патрыярх Ціхан прыслаў В. Ластоўскаму ліст, у якім блаславіў “труды” ўрада. Значыць, ён спрабаваў зразумець нашы нацыянальныя праблемы...

**М. М.:** Усведамленне беларускай этнадухоўнай прасторы (а ў яе ўваходзіць, я лічу, і Беласточчына) можа прыйсці шляхам асветніцкай работы, і не толькі на ўзроўні прыходаў. Павінна быць еднасць і сярод іерархаў нашай праваслаўнай царквы...

**— ...Якія не вельмі абазнаныя ў гісторыі Беларусі, з-за чаго не раз становіліся аб’ектам “мірской” крытыкі.**

**М. М.:** Цікава было назіраць, як і госці , і гаспадары падчас урачыстасцей у Вільні губляліся ў назове таго месца, дзе адбывалася свята. “Рускімі” пры ўсім жаданні тыя землі цяпер не назавеш. Таму ў асноўным карысталіся неакрэсленым азначэннем “наш край”.

**— І ніхто, вядома ж, “не памятаў”, што і сама Вільня, і святыя браты маюць дачыненне да гісторыі суседзяў-беларусаў...**

**І. Ч.:** Трэба прызнаць наяўнасць цэлага вузла палітычных і гістарычных пытанняў. І самае далікатнае сярод іх — пытанне юрысдыкцыі.

**— Калі я правільна зразумела, то Літоўская епархія ў ідэале магла б падпарадкоўвацца Беларускаму экзархату?**

**І. Ч.:** Марыць увогуле не забаронена... Але ёсць канкрэтныя і балючыя праблемы: напрыклад, намі страчана такая каштоўнасць, як Свята-Троіцкая царква і комплекс гістарычных будынкаў (больш вядомы як Базыльянскія муры), дзе смерць прынялі Віленскія мучанікі і дзе знаходзілася ў пачатку XX стагоддзя беларуская гімназія, першы беларускі музей, кватэра М. Гарэцкага і інш. Увесь гэты комплекс сёння аказаўся ў руках украінскіх уніятаў, якія абсталявалі сабе там невялічкую капліцу для малення. Інакш як гістарычнай недарэчнасцю гэта не назавеш!

**— Што можна зрабіць для ўмацавання нашай этнадухоўнай прасторы?**

**М. М.:** Я магу сказаць толькі за брацтва. Ёсць прапанова з наступнага года зрабіць паломніцкае кола па святых мясцінах Беларусі — у прыватнасці, манастырах, каб найперш агледзець той духоўны абсяг, пра які мы гаворым. Гэта Жыровічы, Супрасль, Яблачын, Гродна, Вільня, Полацк, Ляды... Дарэчы, беларускі фактар ужо прысутнічае ў канцэпцыі аднаўлення Супрасльскага манастыра. Там шлюз адкрыўся. Вільня выпадае з поля зроку яшчэ і таму, што нацыянальная інтэлігенцыя занята выключна свецкімі справамі.

**І. Ч.:** Культуртрэгерства з Мінска ў Вільню, як паказала жыццё, перспектыў не мае, а сама дыяспара беларуская ў Літве слабая, на вялікі жаль. Першыя нашы паломніцтвы туды прадугледжвалі сустрэчы з суайчыннікамі, пазней іх наладжваць ужо не ўдавалася. Раз’яднаныя пакаленні, страчаныя повязь і памяць. Для адных неістотная беларушчына, для другіх — царква (праваслаўная, прынамсі)...

**— Калі свецкая і царкоўная культура самі па сабе, то першая непазбежна дэградуе, а другая замыкаецца.**

**І. Ч.:** Тым больш важна ўсведамляць адзіную этнакультурную прастору. Аб’яднаная энергія цуды творыць. Усе мы, сябры брацтва, на гэта спадзяёмся.

**М. М.:** Мне прыгадваецца гаворка з віленскім земляком Лявонам Мурашкам. Ён прафесійны спявак, выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі, зараз — рэгент архіерэйскага хору. І ён сказаў: “Вы самі не ўяўляеце, якое вялікае значэнне мае для нас, беларусаў Віленшчыны, сам факт існавання ў Мінску праваслаўнага беларускага брацтва Віленскіх мучанікаў”. Над гэтымі словамі варта задумацца...

**Запісала**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

МЕРКАВАННЕ

# Калі ж пойдзе гадзіннік?

Неяк аднойчы ў часе роздуму пра сітуацыю ў нашай краіне ў маім уяўленні ўзнікла такая — досыць фантастычная — карціна. Чалавек прайшоў доўгі шлях па бясплоднай, спаленай гарачым сонцам пустыні. Ён ужо ледзь жывы ад стомы, смагі і голаду, ды не бачыць нідзе наўкол нічога жывога, ніякага для сябе паратунку. І раптам — цуд. Перад ім з'яўляецца яблыня, поўная спелых, буйных, сакавітых пладоў. Чалавек працягвае руку, каб сарваць жыццядайны яблык, але тут жа аднекуль чуецца голас: "Яблыкі атручаныя, памрэш адразу, ледзь толькі адкусіш!" Страх ахоплівае чалавека: тое, што здавалася паратункам, можа стацца хуткай, пэўнай смерцю. Што рабіць? Можа, не паверыць голасу ды пакаштаваць усё ж яблык? Толькі вось першая ж спроба можа аказацца смяротнай. Рука згаладалага падарожніка сама цягнецца да яблыка, але ў той жа момант голас паўтарае сваё страшнае папярэджанне. І застрашаны чалавек гатовы сканаць ад смагі і голаду побач з выратавальнай яблыняй, якая можа наталіць яго сваімі цудоўнымі пажыўнымі пладамі.

Такі вось казачны сюжэт. Ці ж не з'яўляецца ён алегорыяй нашай сённяшняй рэчаіснасці? Вось так і наш народ, як той згаладалы, змучаны падарожнік, не асмельваецца працягнуць руку да жыватворнага плода свабоды, незалежнага нацыянальнага развіцця. Нацыянальная летаргія зацягнулася, і Беларусь, нібы мёртвую, застылую льдзіну, нястрымна цягне плынь да краю бездані, а яна ніяк не можа адтаць і зрабіць намаганне выратаваць сябе (успомнім Багдановіча: "Процi цячэння вады зможа толькі жывое паплыць"). У той жа час навакольны свет імкліва змяняецца, усе нашыя суседзі смела ступілі на свае самастойныя шляхі, адгарнулі новую старонку сваёй гісторыі. Што ж так моцна трымае нас?

У спрэчках і дыскусіях пра тое, ад чаго ў першую чаргу залежаць станоўчыя змены ў нашым жыцці, часта даводзіцца чуць, што галоўным фактарам з'яўляецца эканоміка. Маўляў, эканоміка вырашае ўсё: пойдуць эканамічныя рэформы, запрацуе рынак, тады і пачнецца прагрэс ва ўсіх сферах жыцця, у тым ліку і ў культуры, і ў псіхалогіі людзей. Добра было б пагладзець, ды толькі штосьць пакуль не выпадае. Здавалася б, шляхі рэфармавання эканомікі даўно адкрытыя, шматкроць апрабаваныя і вывучаныя. Бяры гатовыя ўзоры, прыстасоўвай да мясцовых умоў, вучыся на чужых памылках, будуй, ствара́й, расці і прыгажэй (ды яшчэ калі такая краіна, з такім высокім патэнцыялам, багатымі магчымасцямі, працавітым народам). Замест гэтага — застой, развал, занепад. Беларусь дазваляе дабіваць сябе. І ўсё больш робіцца відавочным, што галоўнае, вызначальнае — у саміх людзях, у іх псіхалогіі, у іхніх уяўленнях. Каб запрацавала эканоміка, трэба, каб людзі гэтага захацелі; каб стварыць сваю незалежную дзяржаву, неабходна ўсенароднае імкненне да гэтай мэты. Жыццё ў чарговы раз даводзіць першаснасць свядомасці. І ў нашым выпадку вызначальнай з'яўляецца менавіта свядомасць, і ў першую чаргу нацыянальная свядомасць, бо ўсе мы бачым: змены да лепшага адбываюцца толькі там, дзе яна ёсць.

Нацыянальная свядомасць, або, іначай кажучы, нацыяналізм (здаровы, стваральны, звычайны для грамадзян любой свабоднай краіны) — гэта і ёсць той уяўна атрутны, а ў сапраўднасці жыццядайны яблык (з нашай казкі), які адзін толькі і можа ажывіць Беларусь і якога яна так моцна баіцца. Пра яго атрутнасць крычаць, галосяць, балабоняць на ўсе лады галасы з усіх скрынак ТБ, шыпяць са старонак усіх дзяржаўных выданняў. Усімі сродкамі падтрымліваецца стэрэатып адмоўнага разумення гэтага паняцця, які замацаваўся ў свядомасці народа за савецкія часы. Беларусы прывыклі баяцца нават самога слова "нацыяналізм", бо тут на працягу многіх гадоў яно выкарыстоўвалася ў якасці дубіны для вынішчэння ўсяго жывога. Гэты страх прасачыўся ў падсвядомасць і замацаваўся ў генетычнай памяці пакаленняў. Таму і сёння так лёгка ім палохаць і так цяжка прымусіць яго пераасэнсаваць. Таму так трагічна ўсё ў нашай краіне, такой лёгкай здабычай уяўляецца яна драпежніку, які ўжо падрыхтаваўся да апошняга скачка.

Пра тое, што адбываецца сёння ў краіне — у галіне сацыяльнай і нацыянальнай палітыкі, адукацыі, адносінаў да ўласнасці, — мы ўсе добра ведаем. Сённяшнія ўладатрымальнікі робяць у нашай Беларусі ўсё, што хочуць. З людзьмі ніхто не цырымоніцца: няхай людзі цярпяць, калі яны згодныя цярпець. Цярпенне народа, пасіўнасць і канфармізм эліты натхняе ўлады на ўсё больш нахабныя і цынічныя дзеянні. Сёння ў вас адбіраюць ваш дом, заўтра забяруць само паветра, якім вы дыхаеце. Таму ў нашых сённяшніх умовах згодніцтва і няўдзел у грамадскім супраціве можна расцэньваць як здрадніцкую, антымаральную пазіцыю. Кожны ўжо пастаўлены перад выбарам: альбо ты змагаешся са злом, альбо яго падтрымліваеш. Альбо абараняеш свой грамадзянскі і чалавечы гонар, альбо дазваляеш яго таптаць. Альбо клапоцішся пра сваю Радзіму, альбо аддаеш яе на ганьбаванне і вынішчэнне. Натуральна, каб разумець гэта, трэба мець грамадзянскую, чалавечую і нацыянальную свядомасць, карацей, трэба быць асобай. Магчыма, тут і палягае раздзел: калі ты асоба, то табе баліць усё тое, што адбываецца вакол цябе, калі ж не баліць, то... Што ж, тады няма з каго й пытаць.

Сёння, як ніколі, інтэлігенцыя павінна ўсвядоміць сваю вялікую адказнасць перад уласным народам. Асабліва, калі народ у большасці сваёй знаходзіцца ў стане несвядомасці і з'яўляецца ў поўным сэнсе масай для маніпуляцый, тым большую адказнасць нясе той, каму дадзена разуменне, хто мае веды, мысліць, валодае словам, аўтарытэтам. Калі цела народнае ахоплена летаргіяй, то няхай не спіць галава. Яна і павінна вывесці з бяды неразумнае цела, каб не ўвалілася куды ў яму (і не звалілася, дарэчы, разам з ім). Канфармізм, згодніцтва інтэлігенцыі на сёння аб'ектыўна робіцца злачынствам супраць свайго народа. Такая пазіцыя з'яўляецца здрадай і ў адносінах да тых, хто змагаецца.

Мне могуць запярэчыць, сёння грамадзянская актыўнасць патрабуе ахвярнасці, ледзь не гераізму. Нават удзел у масавых акцыях — небяспечная справа. Можна атрымаць дубінай, можна трапіць у пастарунак. Не кожны на гэта пойдзе. Але той, хто ў рашучыя моманты адседжваецца дома, змяншае тым самым шэрагі барацьбітоў, не толькі перакладаючы небяспеку на чужыя плечы, але і шматкроць павялічваючы яе. Бо АМОН і міліцыя тым агрэсіўней дзейнічаюць, чым меншую сілу бачаць перад сабой. Адна справа — стотысячная дэманстрацыя і зусім іншая — "кучка экстремистов". Недахоп грамадзянскай актыўнасці стварае ўмовы для гвалтаўнікоў. Калі ўдумацца, то мы самі паспрыялі гэтаму разбою на вуліцах сваёй нядружнасцю, адсутнасцю еднасці, згуртаванасці, салідарнасці. Такім чынам мы самі ўзмацняем дэспатыю, спрыяем такому развіццю падзей, калі ўжо ніхто і нідзе не будзе мець паратунку. Варта ўспомніць гісторыю.

На жаль, нават сярод больш актыўнай часткі духоўнай эліты краіны адчуваецца апошнім часам стомленасць і расчараванне. І гэта можна зразумець: цяжка бачыць гадамі на мітынгах адны і тыя ж твары, чуць усё тыя ж у асноўным прамовы, бачыць здраду палітыкаў у рашучыя, лёсавызначальныя моманты і не бачыць аніякіх станоўчых вынікаў сваіх шматгадовых высілкаў.

Усё гэта так... Але застаецца Беларусь, застаюцца яе балючыя праблемы. І нельга бразнуць дзвярыма і выйсці прэч. Ніхто не мае права на стомленасць, пакуль не дасягнута наша агульная мэта.

Асаблівасці барацьбы за Беларусь у тым, што палягае яна амаль цалкам у сферы духоўнай. У нашай сітуацыі змагацца — гэта зусім не значыць брацца за зброю або будаваць барыкады. Дзе той вораг, з якім трэба весці змаганне? Ці ён звонку, ці ўсярэдзіне? За мяжой? Наверсе? Унізе? Сярод нас? У нас саміх? Ён як бы нявызначаны. Фантасмагарычнае змаганне, як тое, што вядзе герой Ібсена з Вялікай Крывой. Душыць усходні сусед, выношвае планы канчатковага захопу, паглынання? Але ж мы і не супраціўляемся, здаёмся без бою. Дрэнныя ўлады? Дык жа мы самі іх і выбралі, лепшых выбраць пакуль не здольныя. У нас і формы барацьбы нейкія дзіўныя, дзе яшчэ такое ёсць? Вось, напрыклад, такая форма, як карыстанне ўсюды роднай моваі. Альбо шанаванне і сцвярджэнне паўсюдна нацыянальных каштоўнасцяў. Згадзіцеся, падкрэсленая беларускасць — гэта ўжо апазіцыйнасць, штосьць непажаданае, небяспечнае для сённяшняй улады.

Пры такім нашым змаганні, пры такіх рэаліях нашага жыцця нельга, вядома, разлічваць на хуткі поспех. Таму яно патрабуе вялікага цярпення, вытрымкі, пастаянства намаганняў, цвёрдасці і перакананасці. Тут патрэбна сапраўдная духоўная моц. І яшчэ — вера ў Божую дапамогу. Яна прыходзіць да таго, хто змагаецца, як і натхненне да творцы, які працуе. Рабі ўсё магчымае, тады і Бог табе дапаможа.

І на заканчэнне — яшчэ адзін вобраз, які дапамагае зразумець беларускі фенамен. Гэтае параўнанне з'явілася неяк у размове, падалося надзіва трапным і запомнілася.

Беларусь — гэта гадзіннік, які стаіць. Стаіць, таму што механізм руху не падыходзіць, не стасуецца да корпуса з цыферблатам. Механізм — гэта нацыянальны рух, гэта сілы, якія авалодалі ўжо нацыянальнай ідэяй і могуць зрушыць, павесці Беларусь — завесці нерухомы гадзіннік. Але тое можа адбыцца толькі тады, калі ўся Беларусь даспее да ўспрымання нацыянальнай ідэі, гэта значыць, калі корпус гадзінніка дапасуецца і састыкуецца, нарэшце, з механізмам. Тады гадзіннік пойдзе...

**Святлана БАГДАНКЕВІЧ**

# Што нам перашкаджае, або Донкіхоцтва ў нашы дні

Каму не даводзілася чуць размовы: прэзідэнт стараецца, каб народу было лепш, але яму не даюць, перашкаджаюць... Хто канкрэтна не дае і перашкаджае, звычайна не ўдакладняецца. Толькі можна здагадвацца, што маюцца на ўвазе "так званыя дэмакраты" і апазіцыя.

Нічога не скажаш, сапраўды прэзідэнт працуе, як гавораць, не пакладаючы рук. Паслухаеш па радыё інфармацыю пра чарговы яго рабочы тыдзень і дзіву даешся, як можна выканаць немагчымае — так ён насычаны важнымі апаратыўнымі справамі.

І навошта тое раздзяржаўленне і прыватызацыя, развіццё прадпрымальніцтва і рынкавых адносін, фарміраванне гаспадара-ўласніка і іншыя рэчы, звязаныя з рэфармаваннем эканомікі? Няхай адраджаецца, жыве і квітнее адміністрацыйна-каманднае кіраванне ва ўсіх сваіх атрыбутах, формах і відах! Да прыкладу, калі добра камандаваць, то можна жыць і пры калгасах-саўгасах. Трымаўся ж на тым "развіты сацыялізм", дык чаму не можа стаяць на тым "рынкавы сацыялізм" і сацыяльна арыентаваная эканоміка?

Энергія і воля, з якімі ажыццяўляецца кіраванне ў РБ, уражвае, асабліва заезджых гасцей. Але адно не дае супакою: калі ў нас такое эфектыўнае і дынамічнае кіраванне, то адэкватна сямімільнымі крокамі павінна рухацца наперад і эканоміка. Аднак падобны цуд нешта не назіраецца. Крызіс па-ранейшаму не спыняецца, а набывае новыя праявы. Напрыклад, у апошні час стварылася напружанне ў грашова-фінансавай сферы. Прадпрыемствы працуюць са збоем, растуць неплацяжы, колькасць ахвотнікаў стаць прадпрымальнікамі скарачаецца, жыццёвы ўзровень не павышаецца.

Калі падумаць і разабрацца, то інакш і быць не можа.

Якой ужо была адладжанай, дакладнай і адшліфаванай і таксама валявой і дынамічнай адміністрацыйна-камандная сістэма ў часы панавання КПСС, а ўсё адно не змагла забяспечыць прагрэс, чаго так дамагаліся крамлёўскія ўладыкі. Як вядома, справа скончылася тупіком, застоем, развалам усёй імперыі.

Вось, грэшнай справай, і думаецца: каб тыя энергію і волю, з якімі адраджаецца згубная адміністрацыйна-камандная сістэма, ды ў рэчышча хутчэйшага сапраўднага рэфармавання эканомікі, пераход яе на рэйкі рынкавых адносін, стымуляванне прыватнага прадпрымальніцтва, стварэнне і фарміраванне гаспадара-ўласніка як у горадзе, так і ў вёсцы, што і пачалося, калі Рэспубліка Беларусь стала суверэннай і незалежнай. Аднак неўзабаве справы пайшлі ў такім накірунку, што пра рэформы і гаварыць перасталі. Замест гэтага з лёгкай рукі прэзідэнта нарадзілася формула: "Якія там рэформы — трэба лепш працаваць. І ўсё тут".

У выніку рухаючай сілай у грамадстве сталі не эканамічныя законы, якія толькі і здольныя забяспечыць сапраўдны прагрэс — без гэтага, як вядома, шлях на могілкі, — а валюнтарызм, адміністраванне, патрабаванні і ўздзеянні ў розных формах і відах, закручванне гаек, штучнае стымуляванне зацікаўленасці да працы, шумныя кампаніі, накіраваныя на вырашэнне палітычных і гаспадарчых задач. Ну і, вядома, пампезныя святы і відовішчы.

Адсюль уладавыя вертыкалі і гарызанталі, бясконцыя нарады і семінары, галоўны змест якіх — адміністрацыйныя накачкі, указы, патрэбныя ці не надта патрэбныя, важныя візіты ў рэгіёны ці на асобныя аб'екты вытворчасці, ды небывалае разбуханне кіруючага апарату.

Аднак гісторыя пасведчыла, калі тыя ці іншыя грамадскія структуры няздольныя да самаразвіцця і самаўзнаўлення і заўсёды патрабуюць падштурхоўвання, далёка не паедзеш.

Бяда адміністрацыйнага кіравання не толькі ў тым, што яго энергія і воля ляцяць у трубу, з'яўляюцца работай на халастым ходу. Яно, гэтае кіраванне, яшчэ пазбаўляе простых выканаўцаў поўнасцю рэалізаваць свой працоўны і творчы патэнцыял, ператварае іх у раўнадушных "вінцікаў". Між іншым, у гэтым адна з глабальных прычын, чаму камуністычныя рэжымы не вытрымалі выпрабавання.

У гісторыі было нямала дзівакоў, якія спрабавалі адрадзіць аджыўшае. Ва ўсіх выпадках яны заканчваліся фарсам, пасмешышчам.

Канкрэтным прыкладам таму можа паслужыць і Рыцар сумнага вобраза Дон-Кіхот Ламанчскі з аднайменнага твора Сервантэса. Як вядома, адважны ідальга задаўся мэтай адрадзіць высакароднае рыцарства, якое было папулярным у раннім сярэднявякоўі. Хто чытаў гэты неўміручы твор, ведае, чым закончыліся спробы героя.

Я нікога не параўноўваю з гэтым высакародным рыцарам сумнага вобраза. Але хіба дзейнасць некаторых нашых кіраўнікоў па сваёй сутнасці не нагадвае (не з'яўляецца) донкіхотствам у іх імкненні адрадзіць тое, што не апраўдала сябе, аджыло свой век, у прыватнасці — адміністрацыйна-каманднае кіраванне, інакш кажучы, павярнуць кола гісторыі назад?

**Яўхім ІВАНОВІЧ,**
**выдатнік народнай адукацыі,**
**ветэран вайны і працы**

*г. Мінск.*

## Ладзяцца музейныя справы

Пяць гадоў споўнілася Жлобінскаму гісторыка-краязнаўчаму музею. Сёння гэтая ўстанова пераўтварылася ў сапраўдны культурны цэнтр Жлобіншчыны. Тут захоўваецца каля васьмі тысяч адзінак экспанатаў па этнаграфіі, народнага мастацтва, зброі, жывапісу, розных дакументаў, друкаваных выданняў і г.д. Акрамя гэтага, у сценах музея рэгулярна праходзяць выставы мясцовых прафесійных і самадзейных мастакоў, народных умельцаў, выстаўляюцца тут і розныя творчыя дзіцячыя аб'яднанні.

Музей наведала звыш 80 тысяч чалавек. У тым ліку нямала гасцей з іншых гарадоў і мясцін Беларусі, Прыбалтыкі, краін СНД, а таксама далёкага замежжа — Аўстрыі, Італіі, ЗША, Германіі, Сірыі, Лівана, іншых краін.

— Сёння наш музей жыве планамі пашырэння сваіх фондаў, — расказвае першы і нязменны дырэктар музея Яўген Карцаў. — Для гэтага гарадскімі ўладамі нам аказваецца рознабаковая падтрымка, будзе выдзелена і дадатковая плошча. Пачала ўжо рэальна ажыццяўляцца галоўная наша задума — пераўтварэнне тэрыторыі вакол музея ў гарадскую культурную зону, дзе будзе месца і для пастаянна дзеючай карціннай галерэі, і для батанічнага саду і г.д.

**Мікалай ШУКАНАЎ**

## "Тэатральная творчасць", № 4

Па традыцыі нумар адкрываецца драматургічнымі творамі — змешчаны казка для сцэны Г. Марчука "Чужое багацце" і камедыя ў адным акце Х. Жычкі "Сярэбранае вяселле". М. Гарэцкая ("Маладзечанская сакавіца-97") звяртаецца да нядаўняй тэатральнай вясны. Н. Загорская ("Архідзэ для Марыі") расказвае пра народную артыстку Беларусі М. Захарэвіч. М. Макарцоў ("Тэатр, народжаны душой") знаёміць з аматарскім тэатрам мімікі і жэста, што працуе пры Гомельскім абласным Палацы культуры Беларускага таварыства глухіх. А І. Курбека ("Чацвер у Коласавым доме") запрашае на вечарыну, што праходзіла ў сувязі з 95-годдзем з дня нараджэння народнага артыста СССР П. Малчанава. Змешчаны і такія матэрыялы, як "Семінар па нямецкай драматургіі" Л. Гаробчанкі (праходзіў у Рэспубліканскім тэатральным лабараторыі беларускай драматургіі "Вольная сцэна"), "Школьны тэатр у Друі" І. Алексінай, заканчэнне артыкула Г. Герштэйн "Шляхі дзяржаўнага яўрэйскага тэатра Беларусі". Пад рубрыкай "У Беларускім універсітэце культуры" публікуецца артыкул В. Ярмалінскай "Ад рэпетыцыі — да спектакля", што расказвае пра класканцэрт студэнтаў кафедры тэатральнай творчасці. У "Кнігапісе" прадстаўлены выданні па тэатры, якія з'явіліся апошнім часам, а гумарыстычная падборка "Пасля спектакля" — гэта творы І. Стадольніка "Іконка", Р. Грыбовіч "Акцёрская замова", У. Цвяткова "Карысныя парады". Ёсць у нумары "Крыжаслоў", "Летапіс", "У друку", "Хроніка".

## З роднай песняй

Чацвёртую змену сёлета працуе педагогам у шостым атрадзе летніка "Зялёны бор" Мінскага завода халадзільнікаў, што недалёка ад сталіцы, старшы выкладчык Белпедуніверсітэта імя М. Танка Антаніна Жыновіч, дачка вядомага музыканта народнага артыста СССР Іосіфа Жыновіча. Яна аўтарка (сумесна з Елізаветай Дышлявой і кампазітарам Мар'янай Марозавай) "Хрэстаматыі па беларускай музыцы", якая ў гэтым годзе выйшла ў свет. У гэты падручнік для студэнтаў увайшло шмат песень вядомых беларускіх кампазітараў І. Лучанка, Ю. Семянякі, П. Падкавырава, Я. Цікоцкага і іншых.

Выхаванцы Антаніны Іосіфаўны штодзень спяваюць песні з гэтага выдання. Выконвалі іх на ўрачыстым канцэрце, прысвечаным 25-годдзю летніка, якое нядаўна адзначалася.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

*23 ЖНІЎНЯ НАРОДНАМУ ПАЭТУ БЕЛАРУСІ ПІМЕНУ ПАНЧАНКУ СПОЎНІЛАСЯ Б — 80...*

# Кніга, якую возьмуць у дарогу

У сваім вершы "Кнігі" У. Караткевіч пералічвае тых пісьменнікаў, чые творы чалавек возьме з сабою ў дальнюю дарогу, нягледзячы ні на якія неспрыяльныя абставіны. З беларускіх пісьменнікаў у гэты лік увайшлі Купала, Колас, Багдановіч, Танк і Панчанка. Я не веру, што Караткевіч мог "уставіць" у верш нечае імя для рыфмы ці рытму.

Хто быў паэт Пімен Панчанка для моладзі другой паловы 80-х гадоў, што ведалі толькі яго сучасную ім творчасць? Публіцыст, паэт з "яскрава выяўленай грамадзянскай пазіцыяй", які піша-адгукаецца на ўсе заганы сучаснага жыцця, прарокуе, вяшчуе, бічуе.(Школьная праграма не ўлічваецца. Вершы са школьнай праграмы заўсёды ўспрымаюцца адчужана, як мусовае...) Тым больш не прыходзіла ў галаву маладым максімалістам перачытваць паэтычныя зборнікі "застойнага" перыяду... Бо сапраўды ўзяцца за вылучэнне з іх жамчужын сапраўднай паэзіі можна толькі дакладна ведаючы, што яны там ёсць.

Паэт-публіцыст, за адраджэнне выступае, за мову... Спахапіўся, бач, на старасці гадоў...

Не ўсе, напэўна ж, верылі ў яго шчырасць.

Але — незалежны ад афіцыйшчыны Караткевіч узяўся б ратаваць яго кнігі...

Прачытаем жа паэзію Пімена Панчанкі непрадузятымі вачыма. Божа ж мой, якія шчодрыя, аказваецца, ёсць у яго вершы! Пульсуючая напружаная інтанацыя, узнёслая лірыка, горкі рамантызм, светлы рамантызм... Так, Караткевіч меў рацыю! І меў што ўзяць ад паэзіі старэйшага сябра.

Дарэчы, сам Панчанка рамантыку як паняцце высмейвае — хто, маўляў, гэта казак наплёў? Ён, напэўна, баяўся быць рамантыкам — "не ў нагу з эпохай". Асабліва "антырамантычнымі" мусілі быць "замежныя вершы"... Але рамантыка б'е з твораў паэта крынічным струменем. І там, дзе аўтару не ўдалося яго прыдушыць пляскатым каменем надзённай патрэбы — вірує Паэзія... Хаця могуць яшчэ і паспрачацца са мной, дзе сапраўдная паэзія... Бо творчасць Пімена Панчанкі — якраз той класічны палігон, дзе вядзецца спрэчка між "чыстай красой" і "набатным звонам"... Спрэчка, якой не павінна быць, таму што ўзнікла яна не ва ўнутранай прыродзе паэзіі, а ад "рацыё", ад соцыуму, ад усяго, што чужароднае ёй...

Быць з народам, заўсёды, падкрэслена, стаяць на надзейнай пляцоўцы пралетарскасці і зямных інтарэсаў... Нібыта паэзія можа нараджацца на адной абгароджанай пляцоўцы! Паэт сам гэта ўсведамляе.

Я пагарджаў агульшчынай, а сам
Бяздумных вершаў многа напісаў.

Напэўна, падчас напісання і тых "бяздумных" вершаў паэт верыў, што "так трэба", што без такога — нельга... Але...

Усведамленне сябе няздзейсненым, "недакапаным да вады калодзежам", сум па "званах жыцця" ў вершах — нялёгкі крыж.

Але паэт усведамляў сябе і магутнай гарой, што нарэдка "горбіцца ад адзіноты і смутку", і нейкім экзістэнцыяльным цірам, "куды кожны можа забегчы і выстраліць куляй насмешкі". Але можа і атрымаць здачы... І сапраўдным дэміургам, які здольны "ад вялікай любасці" выстраіць перад вакном каханай усе воблакі...

Шкада толькі, што каханая дзяўчына хацела б звычайнага "добрага хлопца"...

Так, ідэалагічная машына, у нетрах якой паэт працаваў большую частку творчага жыцця, сапраўды хацела мець яго за добрага хлопца, а не нейкай там стыхіі...

Прыйдзе час, даты напісання вершаў страцяць значэнне. Як кропелькі ртуці добрыя, "жывыя" вершы розных гадоў сцякуцца ў адно бліскучае цэлае. Тады выявіцца сапраўдная вага кожнага паэта.

Ясна ўжо цяпер, што кнігу Пімена Панчанкі возьмуць з сабой у дарогу гіпатэтычныя нашчадкі беларусаў — дай Божа ім застацца беларусамі.

Прынамсі, народны паэт Пімен Панчанка рабіў для гэтага што мог...

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**



*Пімен Панчанка ў Каралішчавічах. 1955 г.*



*Юбілейная вячэра. 1977 г.*



*З Кандратам Крапівой. 1975 г.*

# "Каб не гнулася шабля-пяро..."

Глыбокае сяброўства і высокае калегаванне народных паэтаў Беларусі Пімена Панчанкі і Максіма Танка — асобная старонка ў гісторыі нацыянальнай паэзіі. Розніліся яны, так бы мовіць, сугестыўнай прыродай верша і вобраза, стылёва-эстэтычнымі асаблівасцямі мастацкіх пошукаў, аднак яднала іх і спакорлівала асноватворнае — падкрэсленая праўдамоўнасць, грамадзянска-патрыятычная адмабілізаванасць, настроенасць на выяўленне надзённа-вострых праблем жыцця і часу.

Як сведчаць архіўныя матэрыялы, памрочліва-тужлівымі былі пад захад жыцця старонкі ліставання паэтаў. Дашчэнту знясіленыя шматлікімі хваробамі, яны, наколькі дазвалялі абставіны, пасабілялі адзін аднаму, саграваллі адзін аднаго клапатнай увагай і падтрымкай. Вось толькі два з тых лістоў.

"Дарагі мой дружа Максім! — звяртаўся да М. Танка 15 верасня 1992 года П. Панчанка. — Як я ні стараўся цябе дагнаць, ты ўсё роўна на 5 гадоў бяжыш наперадзе. Мне 75 — табе 80! Ад усяго сэрца віншую цябе са слаўным юбілеем! Дарагі мой, таленавіты, выдатны, вялікі — абдымаю цябе моцна, па-сяброўску! Здароўя табе, многа гадоў жыцця, творчай радасці! Нізкі паклон Любе, тваім дзецям, унукам і праўнукам! Учора вечарам прыехаў з бальніцы. Прывітанне табе ад Яўгеніі Віталеўны! Паклон табе ад Зоі Кірылаўны і маіх дзяцей.

*Абдымаю — Пімен Панчанка",*

А перад гэтым, 21 жніўня 1992 года, былі таксама ўсчуленыя радкі — Максіма Танка: "Дарагі дружа Пімен!

Я даўно прадчуваў, што і мы з табой набліжаемся да небяспечных юбілейных рубяжоў, за якімі ўсё больш звужаецца кола нашых родных, блізкіх, знаёмых.

Вось і сёння, прыкуты хваробай, не можам сустрэцца і, як некалі, пагаварыць не толькі на высокія тэмы — пра дзяўчат, літаратуру, палітыку, ці хоць бы перакінуцца ў дурня.

А так хацелася б вярнуцца да беззваротна мінулых дзён, як казаў А. Міцкевіч, нашай "górnej і durnej" маладосці.

Прымі, дружа, разам са шматлікімі віншаваннямі, якія атрымаеш у свае слаўнае 75-годдзе, і маё віншаванне і пажаданні здароўя і шчасця, і каб далей заставалася і не гнулася твая шабля-пяро ў бітвах за праўду, за светлую будучыню нашага народа!

Шкада, што недзе згубіліся нашы старыя, прапахлыя дымам кастроў шынялі, якімі з табой накрываліся ў суровыя дні вайны на Бранскім фронце. У іх салдацкіх кішэнях літаратуразнаўцы змаглі б яшчэ з крошкамі сухога хлеба і тытуню знайсці нікому невядомыя і забытыя намі вершы.

Моцна цябе абдымаю. З нязменнай любоўю

*Максім".*

**Мікола МІКУЛІЧ**

# З самых глыбінь душы...

"...У той не такі ўжо даўні час, калі ён болей пісаў і часцей друкаваўся, кожны ягоны верш або падборка вершаў адразу ж пасля выхаду ў свет рабіліся паэтычнай з'явай, студэнты іх вучылі на памяць, іх чыталі з эстрады, перадрукоўвалі ў розных выданнях. Мусіць гэта таму, што вершы Пімена Панчанкі, як правіла, былі выразнікамі дум і спадзяванняў эпохі, неслі ўвесь напал яе творчага пафасу, і не адно пакаленне чытачоў захаплялася імі. У гэтых вершах не толькі не было месца фальшу, прыблізнасці або ашуканства, але кожнае слова гучала, як звон, бо выказвала ўсеагульны боль ці ўсеагульны клопат."

**Васіль БЫКАЎ**

"Чытаючы і перачытваючы Панчанку, нельга не здзіўляцца вось гэтаму таленту першаадкрывальніка, незвычайнай засяроджанасці на матэрыяле сучаснай яму рэчаіснасці; адсюль як выдатная паэтычная публіцыстыка, падораная ў прыклад і добрае навучанне нашым паэтам маладога і сталага ўзросту, так і праніклівая, без ахоўнай засені так званага "лірычнага героя", споведзь не чужога ўсяму чалавечаму мудрага майстра, які не страхуецца ад біды і памылак, а па-салдацку, па-сялянску разумее жыццё як абавязак, як пошук ісціны, як шлях да другога чалавека-аднадумца."

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

"І для яго будучыня - не ружовая утопія, не манілаўскі лужок і не гучныя словы "языкачосаў безадказных", аматараў "бадзёра каркаць". Яна для паэта — зямное жыццё, дзе пасплываюць да чалавека "раней за гора на дзве хвіліны", дзе ведаюць "сінюю радасць", дзе няма "рабства чаркі, паперкі, блату, біркі званняў і крэслаў чынуш", дзе людзі пазбавіліся "ад шаблонных слоў, ад папугайных паўтарэнняў", дзе ў пашане "ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці"."

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

"Панчанка — выдатнейшы майстар верша як цэласнага і закончанага паэтычнага твора, у якім усе кампаненты жывуць і рухаюцца, маюць нагрузку і сэнс. Вершы паэта, здаецца, ніколі не маюць прадвызначанай формы: жывое і зменлівае пачуццё быццам само падказвае і адпаведны рытм, і сінтаксічны рух, і страфічную будову — такія, каб у іх як найпаўней выявіўся і кожны душэўны жэст, і настраёвы зрух, і паварот думкі, і сэнсавы акцэнт".

**Варлен БЕЧЫК**

"Хрэстаматыйнасць Пімена Панчанкі не звычайная, не традыцыйная. Ён хрэстаматыйны сваім майстэрствам, сваёй ранняй сталасцю, сваёй неабходнасцю ў роднай літаратуры. Бо і ў побыце, у штодзённасці не любіць сядзець на покуцях, у прэзідыумах, калі перавесці гэтае паняцце ў афіцыйна-пратакольны рад. Як ні парадаксальна гучыць, Пімен Панчанка ніколі не ішоў у нагу з часам, у нагу з падзеямі, паэт увесь час ішоў і ідзе толькі на чырвонае свята, зялёнае пакідае ён для сваіх абачлівых і ўдачлівых у жыццёвых турботах калег..."

**Рыгор БАРАДУЛІН**

"Асаблівы склад таленту ў П. Панчанкі. Гэта паэт, верш у якога "падступае да горла", вырываецца як боль, гнеў ці як радасць, любоў з самых глыбінь душы.

Надзвычайная паэтычная шчырасць, грамадзянская страснасць, якая арганізуецца моцным талентам, — вось паэзія П. Панчанкі".

**Алесь АДАМОВІЧ**

"Многае даруецца сацрэалісту Панчанку за адно толькі адчуванне паэтычнай свабоды і стылявой раскаванасці, дзе не заказаны любыя шляхі і формы, дзе гучыць мноства галасоў і "чужое маўленне".

Бытавы Панчанка, паэт, які жыве ў рэальным асяроддзі "сацыялістычных адносін", ведае, што "інжынеры чалавечых душ" павінны пісаць летапіс эпохі. А тым больш калі ён — Пімен: "Не, гэта не апошняя аповесць, і летапіс яшчэ не скончан мой"."

**Міхась ТЫЧЫНА**

"Перачытваю вершы Пімена Панчанкі й згадваюцца радкі Б. Пастарнака: "Сто слепящих фотографий Ночью снял на память гром". Так мне бачыцца панчанкаўская манера: успышка бліца, імгненная фіксацыя й уштукаванне гатовага твора ў дыхтоўную раму. Нездарма адна з кніг Панчанкі гэтак і называецца — "Пры святле маланак"."

**Міхась СКОБЛА**

"У сваёй грамадзянскасці Пімен Панчанка не быў кан'юнктурным. За свайго паэтычнага бога ён найперш уважаў Ісціну ("ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці"). Што ён любіць — тое любіць, што ненавідзіць — ненавідзіць. А як жа інакш паэту? Інакш — стылае, панылае вершапляценне... Зрэшты, паслухаем і самога Пімена Панчанку: "Я глыбока перакананы, што паэзія без страснасці, без грамадзянскага гучання — непаўнацэнная паэзія...""

**Васіль ЗУЁНАК**

"Пімен Панчанка — адзін з буйнейшых беларускіх паэтаў XX стагоддзя, які пражыў жыццё, напоўненае інтэнсіўнымі маральнымі і мастацкімі пошукамі, глыбокімі эмоцыямі і страсцямі, імкненнем да высокіх ідэалаў і сумненнямі ў іх, зазнаўшы пры гэтым немалыя страты і супярэчнасці.

Гэта — паэт еўрапейскай традыцыі: творчасць была для яго спосабам духоўнага далучэння да жыцця праз лірычнае перажыванне свету. Тэматычныя абрысы гэтага перажывання, яго змястоўнасць, эстэтычная накіраванасць і інтэнсіўнасць даюць уяўленне пра аблічча лірычнага героя, яго тэмперамент. Р. Шкраба на гэты конт заўважыў дакладна: "П. Панчанка піша толькі пра тое, што ўскалыхнула яго самога, прымусіла мацней біцца сэрца, вывела яго з раўнавагі. Неабыякавасць, пачуццё асабістай зацікаўленасці, імкненне давесці свой погляд, падзяліцца самым патаемным з другім чалавекам — у гэтым і ёсць адзнака сапраўднай паэзіі..."

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

*Фота Уладзіміра КРУКА*



*Паэт у рабочым кабінеце. 1983 г.*



*Гэта яшчэ не ўсе сябры Пімена Панчанкі. 1977 г.*



*У Доме літаратара з Алесем Адамовічам, Васілём Быкавым і Нілам Гілевічам. 1979 г.*



*З Аркадзем Куляшовым. 1975 г.*



*На лузе з Янкам Брылём. 1967 г.*

Пімен ПАНЧАНКА

## *Развітанне*

*Вялікая дзяржава —*
*Вялікая ідэя.*
*І ўсё ж, тавaрыш мой,*
*Мазгамі шавяльні:*
*Каля агню братэрства*
*Растуць і ліхадзеі*
*І расцвітае*
*Вялікадзяржаўны шавінізм.*

*Малыя народы —*
*Як грошы разменныя ў касах.*
*На бронзавых конях*
*Усюды сядзяць палкаводцы:*
*То пакарэнне Каўказа,*
*То высяленне Каўказа,*
*То Беластоцкая вобласць,*
*То ваяводства.*

*Якія б войны*
*У нас ні пракатваліся,*
*І як бы акупанты*
*Ні дратавалі зямлю,*
*Рана ці позна*
*Народы распраўляліся з катамі,*
*І зноў аралі і сеялі,*
*І гаварылі: "Люблю".*

*Пахлі нашы пожні*
*Мятаю і рутаю,*
*А цяпер*
*Пасля аграхімічных праполак*
*Пахне глеба гербіцыдамі,*
*А вада атрутаю.*
*У рацэ — ні плотак, ні язёў,*
*Ні ў жыце перапёлак.*

*А нашы псеўдаасветнікі,*
*Сабраныя на канцылярскіх*
*сметніках,*
*Магутныя бюракраты*
*Уласным сцвярджэннем рады:*
*"Гаворыш па-руску —*
*Інтэрнацыяналіст;*
*Гаворыш па-беларуску —*
*Нацыяналіст.*
*Вучы дзяцей французскай,*
*Англьскай, эсперанта,*
*Але не беларускай..." —*

*Палохаюць піраты,*
*І адвучылі*
*Дзяцей і бацькоў,*
*І адлучылі*
*Ад родных народных слоў.*

*Вучоны невук*
*Ці дурнаваты крытык,*
*Якія паэзію*
*Не разумеюць і не адчуваюць,*
*То ў жанры даносу,*
*То пагардліва адкрыта*
*Мяне з году ў год*
*Ушчуваюць:*

*"Каму патрэбна*
*Тваіх маніфестаў*
*рыторыка?*
*Трэба пра шчасце пісаць*
*І далі прасторныя".*
*А я журуся:*
*Мала ў Беларусі*
*Разумных гісторыкаў,*
*Якія любяць і ведаюць*
*Родную гісторыю.*

*Закрэслілі б невукі*
*Мары усе залатыя:*
*"Знікае ўсё:*
*І вучэнні, і мовы, і веры.*
*Сёння Рым размаўляе*
*Не на латыні,*
*А Афіны гавораць*
*Не на мове Гамера".*

*Мы спазніліся*
*На сотні, напэўна, гадоў,*
*А можа,*
*На цэлае тысячагоддзе,*
*Мы забылі пра вольнасць*
*Старажытных сваіх гарадоў.*
*Наш цягнік адышоў.*
*Знікла родная мова*
*У народзе.*

*У кожнага ёсць*
*Свае рэкі —*
*Ці Дняпро, ці Нёман,*
*Ціхі Дон, ці раз'юшаны*
*Енісей.*
*У сваіх парадзелых лясах*
*Я не чую*
*Ўсхвалёваны гоман,*
*А рака памутнелага часу*
*Нас нясе, і нясе, і нясе...*

*Пастаю я самотна*
*Каля полацкай белай Сафіі,*
*Паблукаю ў Гародні,*
*Пажуруся ў турава-пінскім*
*Палессі,*
*А вочы мае ўжо не плачуць —*
*Сухія-сухія:*
*Не чутно мне з былога*
*Ні грому, ні звону,*
*Адны толькі казкі*
*Ды песні...*

*Родны Янка Купала,*
*Вы пісалі:*
*"Я веру — настане..."*
*Дарагі мой*
*Іван Дамінікавіч,*
*Не, не настане!*
*Гэта ўжо не світанне,*
*Гэта наша настала змярканне,*
*Гэта з мовай маёй,*
*Гэта з песняй маёй*
*Развітанне.*

## Плён супрацоўніцтва

Цэнтральная гарадская дзіцячая бібліятэка г. Мінска абслугоўвае амаль 18 тысяч чытачоў, якія жывуць у мікраараёне "Паднёвы Захад. Сярод іх шмат дзяцей, якія разам з бацькамі пераехалі ў сталіцу з раёнаў, блізкіх да чарнобыльскай зоны. З шэрагу мерапрыемстваў бібліятэкі можна вылучыць тыдні выдавецтва "Юнацтва", якія праходзяць кожны месяц.

У часе тыдняў у бібліятэцы праводзяцца выставы кніг, заўсёды працуе кіёск, дзе чытачы могуць набыць неабходныя выданні. Прытым танней, чым у кнігарнях. А самым галоўным мерапрыемствам тыдня з'яўляецца прадстаўленне навінкі — кніжкі, якая толькі што завезена з друкарні.

Ужо прайшлі прэзентацыі кніг М. Пазнякова "Шые вожык кажушок", Р. Баравіковай "Дзве аповесці пра міжпланетнага пажарніка і казка пра жабяня Квыш-Квыш", І. Шамякіна "Вялікая княгіня", двухтомніка В.Лукшы "Лебядзіная вернасць" і "Покліч лёсу", І. Навуменкі "Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва". Яны сталі сапраўднымі святамі беларускай кнігі.

Аб кнігах расказвалі і мастакі, якія аздобілі яе, і рэдактары, якія давялі яе да ладу, і канечне ж, выступалі самі аўтары. Дзеці задавалі аўтарам кнігі і выдаўцам пытанні, прычым такія, якія патрабуюць глыбокіх разваг і ацэнак. Ішла гаворка не толькі пра канкрэтны твор, але і пра стан беларускай літаратуры наогул.

Мы вельмі ўдзячны супрацоўнікам выдавецтва "Юнацтва" і, у першую чаргу, яго галоўнаму рэдактару Міхасю Пазнякову за дапамогу ў арганізацыі гэтых важных і карысных мерапрыемстваў. Былі ў нас у бібліятэцы і дырэктар выдавецтва Валянцін Лукша, і Уладзімір Карызна, і Уладзімір Марук, і Міхась Зарэмба, якія таксама працуюць у "Юнацтве".

Вельмі спадзяёмся на такое ж плённае супрацоўніцтва і ў далейшым, бо гэта ўсё робіцца дзеля будучыні, дзеля пашырэння ведаў аб нашай нацыянальнай літаратуры, дзеля адчування нашай адметнай нацыянальнай культуры.

Калі гэтая інфармацыя выклікала цікавасць іншых выдаўцоў беларускай літаратуры, то звяртайцеся да нас.
*Тэлефоны для сувязі: 271-29-19; 234-11-88.*

Л.МАКАРАНКА,
загадчыца аддзела цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэкі г. Мінска

## Дзякуй спонсару

Магілёўскі паэт Васіль Карпечанка выдаў нядаўна ў абласной друкарні дзве свае новыя кнігі. У першай — "Вярхом на ўрагане" — змешчана аднайменная вершаваная аповесць, а таксама апавяданні і замалёўкі, у якіх аўтар, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, апавядае пра сваю франтавую маладосць.

Другая — зборнік для самых маленькіх чытачоў мае назву "Загадкі ў калядкі". Кожная вершаваная загадка ў ім падмацавана каляровым малюнкам-падказкай. Афармленне кніжкі зрабіла магілёўская мастачка Вера Купрына.

Спонсарам кніг стала аграгандлёвая фірма "Днепр" Магілёўскага раёна. наклад жа "дарослага" і "дзіцячага" зборнікаў — па тысячы асобнікаў.

Уладзімір ДУКТАЎ,
сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў

## Юбілейная выстава



У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася юбілейная выстава жывапісу Віктара Аляксандравіча Андросава, прысвечаная яго 60-годдзю. На суд гледачоў аўтар прадставіў каля 60 жывапісных палотнаў, на якіх можна ўбачыць і рыбака, і даярку, і механізатара, і блакітныя азёры Прыдзвінскага краю.

*На здымку: на выставе.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ПАЭЗІЯ

Юрась СВІРКА



# "Адкрытасць, давер і сардэчнасць..."

## Жаданая мроя

*На свята народаў і моў,*
*Калі свет варожасць забудзе,*
*Прыедуць і нашыя людзі*
*З-пад Слуцка, Гародні,*
*З-пад дзвінскіх бароў...*

*І будуць хваліцца яны*
*Сваёй каласістай пшаніцай,*
*Лагодным напевам сасны*
*І пахам гаючай жывіцы;*

*Мядовым цвіценнем лугоў,*
*Разлівамі рэк і рачулак,*
*І песнямі тых песняроў,*
*Што сэрцы кранаюць прачула;*

*Красою азёраў лясных,*
*Ільнамі пад колер блакіту,*
*Спакоем будоў векавых*
*І хвалістым подыхам жыта;*

*І трасамі роўных дарог,*
*І бегам машын адмысловых,*
*І тым, хто каму дапамог*
*І справай, і песняй, і словам.*

*Тады ўжо нашчадка майго*
*Пазнаюць па моўных прыкметах,*
*І звонкае "дзе" і густое" чаго" —*
*Не будзе гучаць дыялентам.*

*І будзе паўсюль гаварыць*
*Адкрытасць, давер і сардэчнасць.*
*А тых, што не ўмелі дружыць,*
*Успомняць, нібы недарэчнасць.*

*І верныя роднай зямлі,*
*Паедуць да мілага краю.*
*Пра тое, што войны былі*
*Забудзецца памяць людская.*

●

*Доўгім бывае рубель,*
*Які несумленна дастаўся.*
*Доўгай здаецца дарога,*
*Калі ты здалёку вяртаўся.*
*Доўгай здаецца разлука,*
*Калі не пагасла каханне.*
*Доўгім бывае чаканне,*
*Калі не ўсчалося паўстанне.*
*Доўгай бывае*
*Зімняя ночка у снежні.*
*Доўгім бывае*
*Чэрвеньскі дзень у праменні.*
*Доўгім бывае...*
*Ды тут*
*Даказала жанчына (пярэчыць):*
*"Я нічога не знаю даўжэйшым,*
*Чым з нямілым сустрэча".*

## Не апошняе вяртанне

*Здаецца, тут я цэлы век не быў.*
*Вядзе дамоў сцяжынка між таполяў.*
*Такія ж тэлеграфныя слупы,*
*Такое ж неба і такое ж поле.*

*Як некалі, як у маленства час,*
*Ды на аселіцы ўжо не пасуцца коні.*
*Агонь начлежны назаўжды пагас,*
*І ручайком бяжыць рачулка Поня, —*

*Сястры Бярозы правая рука,*
*Яе прыток бярозава-крынічны.*
*Над лугам чутна песня жаўрука.*
*Пясок-сыпун там, дзе быў бор сунічны.*

*І дзеці ўжо не пазнаюць мяне.*
*Я блытаю, чые яны нашчадкі.*
*Іх "добры дзень" прыемна так кране,*
*Найлепшыя ў душы збудзіўшы згадкі.*

*І аднагодкі тройчы ўжо дзяды*
*(О, Божа мой, як пасівелі рана!)*
*Пра грозныя ваенныя гады*
*Расказваюць, нібыта ветэраны.*

*Як добра мне дарогай той ісці,*
*Якой у горад правяла матуля.*
*Шкадую: мае словы пры жыцці*
*Не ўсе пяшчотай сынавай кранулі.*

*Любуюся радзімай стараной,*
*Калі і быў, дык толькі тут, з удачай.*
*Прывыкнуць не магу, што тут не свой,*
*Дзе гэты свет перад вайной убачыў.*

*Нібы жывую гладжу мураву.*
*За ўсе гады хачу тут нахадзіцца.*
*Няўжо да той пары я дажыву,*
*Калі мне родны кут і не прысніцца?*

## Пасля асушэння

*Стол уяўляецца мне хірургічны,*
*Белы, даўжэзны, балюча-трагічны.*

*Быццам драмалі балоты і рэкі,*
*І не чакалі яны небяспекі.*

*Птушкі маўчалі, і рыба маўчала,*
*Рэха спагаднае не закрычала.*

*Што з вамі сталася, добрыя людзі,*
*Хто вам паздаўліваў глоткі і грудзі?*

*Ты ж чалавек-цар магутны прыроды.*
*Хто на разбой даў маўклівую згоду?*

*Можа паскардзіцца лесу сівому?*
*Ды... разанулі зямлю па жывому.*

*Лес уздрыгнуўся, рэкі звузелі,*
*Нават балота і луг паніжэлі.*

*Рыба вільнула ў глыбейшыя ямы,*
*У пушчу звяры сіганулі таксама.*

*Ім даравальна: прырода нямая —*
*Жыўнасць рачная і жыўнасць лясная...*

*Рукі дрыжэлі. Воля змаглася.*
*Кроўю іржа на лязе запяклася.*

## Перад эмблемай Бярэзінскага запаведніка

*Калі ехаць на Лепель, то злева і справа*
*Паабапал Бярозы-ракі*
*Разляглася лясная Дзяржава.*
*Жыхары там — мядзведзі, дзікі,*
*І ласі, і бабры, і касулі,*
*І алені з'яднаны сям'ёй.*
*Царства птушак (яно не ў мінулым)*
*Некранутай прыроды жывой.*

*І прызнанне ў яе і павага.*
*Так прыдумаў, напэўна, тварэц:*
*Замест Герба ляснога і сцяга*
*Над балотна-лясістым прасцягам*
*Перапоўнены песняй Глушэц.*

## Наталля

*— Адпачні ты, Наталля, на сонцы пагрэйся.*
*Ды не вельмі і хіліць Наталлю да сну.*
*Тупаціць каля хаты, даходзіць да лесу.*
*— Вось на пенсію выйду, — тады адпачну.*

*Весялііца ў жыцці давялося ёй рэдка:*
*Абшывала, карміла, цягала траву.*
*— Пажыві для сябе, — спачувалі суседкі.*
*— Пагадую дзяцей, а тады пажыву.*

*— Па гасцях пахадзі, адаспіся уволю.*
*У старой галаву пабялілі гады.*
*Ды яна пра спакой і не ўспомніць ніколі.*
*— Пагадую унукаў і, можа, тады...*

*Уздыхае:*
*— О, як мае бегалі ногі, —*
*Калі ўбачыць, як дзеці гуляюць гурмой.*
*А пра тую старую не скажа нічога,*
*Што жывых падпільноўвае з вострай касой.*

## Найўзнагон хваласпеву

*А верылі, сонейка нашае — ён.*
*Хвалілі, цярпелі балючыя раны.*
*І трыццаць гадоў, заглушаючы стогн,*
*Спявалі асанну праpоку-тырану.*

*Пад вейкі схаваны вачэй халадок,*
*За кожнаю думкаю — злоба і слежка.*
*Пад вусы глыбока схаваў крывасмок*
*Зларадпай нянавісці жорсткую ўсмешку.*

*Надзеяй ён быў неабсяжнай зямлі*
*І шчасцем вялікай Савецкай Дзяржавы.*
*Паскрыпвалі боты яго па Крамлі,*
*Адсвечвалі глянцам балюча-крывавым.*

*Зямля будзе помніць яго праз вякі,*
*І ён застанецца страшылішчам свету.*
*Адзіны (не меў падабенства ні з кім)*
*Дзяржаўны злачынец з чырвоным білетам.*

*Вядома, куды ён краіну давёў,*
*Чаму насядала, душыла навала...*
*Пад гэтымі ботамі трыццаць гадоў*
*Зямлі нашай шостая частка стагнала.*

## І людзі, і дрэвы...

*Людзі і дрэвы пазначаны доляй адною.*
*Навекі яны паяднаны з зямлёю.*

*І людзі згараюць (часцей ад няшчасця),*
*І дрэвы, — калі ім даводзіцца ўпасці.*

*Людзі цяплом саграваюць, пяшчотай,*
*А дрэвы — агнём рукатворнай работы.*

*Іх вабяць вышыні, іх вабяць аблокі,*
*Бывае ад іх застаюцца абломкі.*

*Ад дрэваў, калі перуны адгукнуцца,*
*І ад людзей, калі крылы самкнуцца.*
*Жывуць і растуць незгінальна, прамыя.*
*І разам кладуцца ў глыбінкі зямныя*
*І людзі, і дрэвы...*

●

*Букет валошак вырасціў мне дол.*
*О, як яны аздобілі пакой.*
*Акно — у лета спелае адкрыта,*
*І кветкі быццам перайшлі на стол,*
*Каб гаварыць у цішыні са мной*
*На мове поля, сонца і блакіту.*

*Я так удзячны водару зямлі*
*І тым рукам пяшчотным, дарагім,*
*(Як я да іх жадаю дакрануцца),*
*І тым вачам, што памяць зберaглі,*
*Што для мяне не зніклі праз гады*
*І ўмеюць мне валошкамі ўсміхнуцца...*

●

*На балоце задушліва, змрочна.*
*Запяклася іржа на лісце.*
*Тут усё быццам чэзне і квокча,*
*А лілея бялютка цвіце.*

*Твань пялёсткі яе не ўсмактала,*
*І лілея ад самай зары,*
*Нібы зорка, што з неба упала,*
*Не астыла і белым гарыць.*

*Высыхаючы, смягне балотца.*
*Тут не хоча і бусел хадзіць.*
*Азярынка, як вока-ваконца,*
*У блакіт развітальна глядзіць.*

*І ва ўсім адміранне нязгода.*
*Над чаротам паветра трымціць.*
*Так адна можа толькі прырода*
*І ў скананні прыгожаю быць.*

●

*Не забяру з сабой нічога:*
*Ні рэк, ні сосен, ні крыніц.*
*У цёмны свет звядзе дарога,*
*Якой нікому не спыніць.*

*Хоць і не ўбачыш, ды ўсё роўна*
*Перад табой — блакіт нябёс*
*І цішыня, дзе так чароўна*
*Хадзіць пад засенню бяроз.*

*Ды ўжо не зможаш захапляцца*
*І па красе іх уздыхаць...*
*Няхай мне ТАМ яны прасняцца,*
*Як тут жывому мне шумяць.*

●

*Мне хочацца,*
*Каб час такі прыйшоў,*
*Як прасвятленне памяці народнай,*
*Каб дома ў нас*
*Так, як і за мяжой,*
*Загаварылі ўсе*
*На мове роднай.*

*Каб дзеці ўнукаў*
*Моваю сваёй*
*З сусветам гаварылі незалежна.*
*І каб над мовай*
*Матчынай, святой*
*Не моршчылі ілбы,*
*Як над замежнай.*

ПРОЗА

# ТРАГІКІ І КОМІКІ

Георгій МАРЧУК



**Завершана шасцігадовая праца над зборнікам навел “Хаос”, які рыхтуе да друку выдавецтва “Полымя”.**

**Падчас работы нарадзіўся і эпіграф да будучай кнігі: “Жыццё — мажлівасць кожнаму выбраць сабе людзей, з якімі хацелася б прадоўжыць існаванне і на тым свеце”.**

**Прапаную чытачам “ЛіМа” адну з фінальных навел зборніка.**

**АЎТАР**

СЯРОД тэатральнай грамадскасці кожны ведае распаўсюджаную ў тэатры хваробу: “хто каго з’есць” — ці галоўны рэжысёр трупу, ці трупа галоўнага рэжысёра. Прычым рэжысёр (на думку акцёра) заўсёды самаўпэўнены, чванлівы і бяздарны, а трупа (на думку рэжысёра) непрафесійная, праалкагольная і прадажная. Не абмінуў гэты вірус і адносна малады па часе ўтварэння тэатрык буйнога індустрыяльнага гарадка на Беларусі. Тэатр гэты мала чым адрозніваўся ад іншых тэатраў, але ж быў знакаміты тым, што толькі ў ім (а не ў якім-небудзь абласным) тварыў адзін з апошніх народных артыстаў Савецкага Саюза сямідзесяцітрохгадовы ўкраінец Іван Сільвестравіч Грыва.

Таленавіты самародак асеў у гарадскім тэатры гадоў з трыццаць таму і пераіграў на сцэне ўсё: ад качагара да Леніна. Прывяла яго ў горад юная актрыса, з якой ён “прелюбодействовал”, як пасля хваліўся, на борце самалёта. Мясцовыя ўлады песцілі сваю знакамітасць, гледачы любілі, а жонкі з ім не ўжываліся. Любіў Іван Сільвестравіч пакрасавацца ў розных прэзідыумах, на сходах піянераў, камсамольцаў, пажарнікаў, міліцыянераў, настаўнікаў. Звычайна ён сваім густым, прыемным барытонам чытаў у фінале які-небудзь патрыятычны верш. Голас яго сапраўды зачароўваў. Якую б лухту ён ні нёс, яго ўсё роўна ўсе з замілаваннем і захапленнем слухалі. Асабліва жанчыны. Дзівіліся, адкуль у гэтага хударлявага, сярэдняга росту рабога мужчыны (а з гадамі рыжая капа валасоў на галаве не пасівела і не паменшала) такі “заваражальны барытон”.

Сам жа Іван Сільвестравіч пасля такіх сходаў, мітынгаў, банкетаў казаў наступнае: “Альбо я старэю, альбо народ драбнее. Паверце, за год у мяне сотні сустрэч розных. Сяджу на сцэне, углядаюся ў залу і не знаходжу прыстойную кабету, каб учыніць з ёй “прелюбодеяние”. Пад гэтым словам ён звычайна разумеў і любоўны раман, і лёгкі флірт, і адносіны палюбоўнікаў. У самога Івана Сільвестравіча за яго акцёрскую кар’еру былі чатыры афіцыйныя жонкі. Пра неафіцыйных ён казаў: “Давайте умолчим, дабы не разжигать зависть у молодежи”. У самы разгар аптымістычнага адраджэння капіталізму і песімістычнага пахавання сацыялізму Міністэрства культуры валявой рукой, па-даўнейшаму яшчэ, прызначыла ў тэатр Грывы новага галоўнага рэжысёра Марата Варашылава, якога адкапалі недзе аж у Петрапаўлаўску-на-Камчатцы. Свае мясцовыя карыфеі ў закулісных інтрыгах пасварыліся і праспалі гэтую пасаду. Перш-наперш трупа прадузята глянула на жонку галоўнага — будучую “прыму-балерыну”, выканаўцу галоўных роляў, — і ахнула... “Не будуць на яе хадзіць гледачы, як ходзяць на Грыву. Не будуць!” “Знешнасць для акцёра — яшчэ не ўсё, галоўнае — талент!”, — спрабаваў нехта абараніць пухленькую, невялічкага расточка, з кірпатым носікам і маленькімі вочкамі жонку галоўнага — галоўнае ж талент.

— За такім бюстам я не бачу душы. У наш час для гераіні трэба сексуальнасць, рост, страсць, энергія. А гэтай толькі хіба Пульхерыю гогалеўскую і іграць: — зрабіў вывад Грыва, — гэта першы крок да смерці тэатра.

Пасля першага ж спектакля, які паставіў новы галоўны па малавядомай, але амерыканскай п’есе (была татальная мода на ўсё амерыканскае), усе згадзіліся з прароцтвам Івана Сільвестравіча — не цягне жонка галоўнага на гераіню, і ўсё тут, але ж голас пратэсту ніхто з трупы не падаў. Кожны баяўся патрапіць пад скарачэнне штатаў, трымаўся за свой невялічкі заробак. На хлеб, малако, кільку, бутэльку піва на тыдзень хапае, і гары яно, мастацтва гэтае, гарам.

А хочаш мяса, фруктаў, віна, абнову якуюсь — шукай заробак па-за межамі тэатра. Смельчакі некаторыя грыміраваліся і вазілі хадавы тавар на базары Магілёва, Гомеля. Бадай толькі Грыва, новы галоўны ды яго пухленькая жонка, якая яшчэ больш раздабрэла на беларускім сале, жылі адным тэатрам.

Дык вось, Іван Сільвестравіч у звычнай для яго манеры, з іроніяй і з сарказмам, ушчэнт разнёс пастаноўку новага рэжысёра і выканаўцу галоўнай ролі. Жонка рэжысёра ўсю ноч праплакала. Там, у Петрапаўлаўску-на-Камчатцы за гэтую ж ролю ёй калісьці далі званне лаўрэата прэміі абкома камсамола. Муж пакляўся люта адпомсціць нахабнаму старцу. Хітры і вопытны матадор закулісных інтрыг вырашыў на працягу сезона замяніць амаль увесь рэпертуар, асабліва тыя спектаклі, у якіх “блистал” Іван Сільвестравіч, любімец горада. Сам галоўны адначасова рэпеціраваў дзве п’есы, дазволіў аднаму маладому артысту самастойна паставіць спектакль для дзяцей і запрасіў на пастаноўку яшчэ аднаго рэжысёра са сталіцы. Эксперыментатар і наватар, Марат Варашылаў, які заікаўся толькі тады, калі хваляваўся, цяпер лётаў па тэатры, як дэман, і заікаўся пастаянна. Але ж і Грыва, раскусіўшы подласць прышлага, не думаў здавацца.

Апошняя па часе яго “прелюбодейка”, з якой ён ужо гадоў пяць не падтрымліваў сувязі, касцюмерка Ірына Анатольеўна, вярнулася да яго, каб падтрымаць маральна і хлебна свайго былога кавалера і куміра. Сэрца ў яе ўсё ж было добрае. Прыемныя ўспаміны, салідарнасць у барацьбе з культам асобы новага рэжысёра, пачуццё старасці (якая падточвала аптымізм, калі жылі паасобку, значна больш) нанова зблізілі фанабэрыстага народнага артыста і сціплую, раўнівую, некалі заядлую курыльшчыцу, касцюмерку.

— У раённым музеі, на стэндзе, які прысвечаны мне, папрашу пакінуць толькі тваё фота, Ірэн, — казаў невясёлым вечарам сваёй кампаньёнцы Іван Сільвестравіч.

— А можа, памірыся з ім, Ваня, — прапанавала Ірына Анатольеўна, — ён жа дурнаваты і трохі маньяк. У кожнай п’есе прымушае актрысу альбо голую задніцу, альбо грудзі выстаўляць усім напаказ. Кажа, мы адстаём ад еўрапейскай цывілізацыі. Без эротыкі ніхто, кажа, не пойдзе на спектакль. Але ж сваю кікімару не раздзявае.

— Падонак, — зацягнуў Грыва, — што ён ведае аб вялікім мастацтве? Пакаленне калек. Каго выхоўваюць, такіх дэгенератаў, як і сам. Шэкспір у труне перавярнуўся б, каб ведаў.

Тут касцюмерку і асяніла:

— Ваня, падай заяўку на “Караля Ліра”! Ты ж дваццаць гадоў марыш аб гэтай ролі. Ён не пасмее адмовіць!

— Ідэя геніяльная, але ж... скажа, дзе ўзяць мільёны — гэта ж дарагая пастаноўка, — ажывіўся Грыва.

— Пойдзем на шынны завод. Мой брат там у аддзеле маркетынгу. Добра гандлююць... долары нават маюць.

— Начорта тады Ліра іграць, давай возьмем даляраў дый будзем спакойна дажываць, — пажартаваў Іван Сільвестравіч.

— Не, ну я сур’ёзна. Усе падтрымаюць. Мэр горада... Гэта ж будзе сенсацыя.

— Сілы ўжо не тыя. Я з гэтым падонкам, так нервуюся, усё цела б’ецца ў канвульсіях... Мача, панімаеш, не выходзіць. Стаю ў туалеце па паўгадзіны.

— Тэатр для горада — гэта найперш Грыва. Ты перад гісторыяй не маеш права распараджацца так сваім талентам, ён належыць народу.

— Я пакуль не думаў пра сваю лебядзіную песню.

- Не хадзіць жа на плошчу і не адганяць галубоў ад помніка правадыру. Падавай заяўку, — рашуча настойвала Ірына Анатольеўна, — каб гэтая таўстазадая верціхвостка забірала твае лаўры. Для чаго ты тады аддана служыў сцэне, каб з ганьбай яе пакінуць?

— Добра. Не даві на псіхіку. — Грыва апрануў на галаву свой каўбойскі брыль з вельмі шырокімі палямі. — Дуй, вецер, дуй! Назаўтра ж дырэктар падпіша загад аб рэпетыцыях Ліра. Хопіць пралюбадзейнічаць, час і аб вечным падумаць!

Шчаслівая Ірына Анатольеўна, нават не абуўшы ад хвалявання туфлі, пайшла з Іванам Сільвестравічам у тэатр у хатніх пантофлях на босую нагу. Здзіўленню жанчыны не было канца. Дырэктар даў згоду, больш таго — галоўны рэжысёр сам узяўся за пастаноўку трагедыі. Гэта пахла сенсацыяй яшчэ да падняцця заслоны. Яны ненавідзелі адзін аднаго, не віталіся нават, адклаўшы работу над п’есай “Прыгоды Швейка ў гарэме”. Навалiліся на спектакль усёй грамадою, каб абавязкова выпусціць прэм’еру ў канцы сезона. У Івана Сільвестравіча быў намер запрасіць на свайго караля прадстаўніка еўрапейскага тэатра. Быў свой намер і ў галоўнага, але ён яго пільна хаваў ад усіх. Прымірэння не адбылося. Іван Сільвестравіч рыхтаваў сваю ролю амаль самастойна. Галоўны працаваў з астатнімі,а найболей з выканаўцай ролі Кардэліі — сваёй жонкай.

— Я — акцёр школы Станіслаўскага-Грывы. Авангард, сюррэалізм, поп-арт, паўзучы тэатр (Грыва ніколі не качаўся на сцэне) пакіньце іншым, а Ліра будзем ставіць узнёсла, традыцыйна — рэалістычна, — папярэдзіў ён усіх, у тым ліку і рэжысёра.

Марат, не хаваючы сваю лісіную ўсмешку ў каротка падстрыжаныя вусы, адказаў:

— Не адступім ад тэксту ні на ёту, абяцаю.

— Нахабная ліса. Ён лічыць, што калі мне за семдзесят, дык я не адолею вывучыць на памяць увесь тэкст, — злаваў Іван Сільвестравіч. — Ды я ў піўной гадоў дзесяць усе маналогі чытаю.

Рэпетыцыі ішлі і раніцою, і ўвечары. Усе працавалі апантана, з падвоенай энергіяй, а калі ўведалі, што прыедзе на прэм’еру прадстаўнік Еўропы нейкі пан Дэмарка, дык гатовы былі начаваць у тэатры.

Але тут назіральная і асцярожная Ірына Анатольеўна, якая не верыла ў добрыя намеры галоўнага, зрабіла адкрыццё і ахнула.

— Ваня, ты чытаў фінал трагедыі?

— Ірэн, гэта што — такі жарт?

— А ты пачытай, Ваня, — яна адкрыла кнігу, — вось... Лір выносіць на руках цела мёртвай Кардэліі і яшчэ гаворыць маналог. З целам на руках!!

— Ну і што? А што ж яму спяваць?

— Наіўны! Хіба ж табе пад сілу ўтрымаць кабету вагою ў семдзесят кіло? Ачомайся! Сёння ж папрасі, каб замянілі актрысу. Я ведаю, што і Алекаева недаядае, і Шык схуднела. Альбо прасі, каб змяніў мізансцэну.

— Я? Мілачка, ты мяне не за таго прымаеш. Ён хутчэй задушыцца, каб Грыва прасіў, — завёўся Іван Сільвестравіч.

— Вось яго каварны намер. Я раскусіла. Ты надарвеш грыжу, альбо бухнеш з інфарктам.

— Ціпун табе на язык, — трохі пацішэў народны.

— Паспрабуй. Вазьмі мяне на рукі і данясі... да ложка.

— Ірэн. Не жартуй.

— Тады... хоць да дзвярэй.

— Давай!

Іван Сільвестравіч лёгка так падхапіў былую палюбоўніцу, зрабіў некалькі крокаў і прыпыніўся.

— Ну, што?.. Што? А я ўсяго шэсцьдзесят пяць кілаграм. З трагедыі будзе трагедыя. Смех... Ён Яга, каварны Яга!

Іван Сільвестравіч збялеў увесь, сеў, усё яшчэ не мог аддыхацца. Даўно ён не насіў жанчын на руках. Адвык.

— Нічога. Мяне голымі рукамі не возьмеш. Буду трэніравацца. Падкачаю мышцы.

— Каб які хітры дамкрат прыдумаць ці што? І чаго ты адмовіўся ад авангарда. Так бы вывезлі Кардэлію на электракары, — разважала паніклая духам Ірына Анатольеўна.

Раніцою Іван Сільвестравіч, як звар’яцелы, кінуўся падмацоўваць свае сілы: бегаў, качаў у спартыўнай зале мышцы схуднелых рук і ног, кінуў на мяса апошнія дзвесце даляраў, якія бярог на самы, самы, самы чорны дзень. Цягаў на руках Ірэн па кватэры штодня.

— Не ўсё вырашаюць мышцы. Вазьму на прэм’еры сілаю духу, — суцяшаў ён і яе і сам сябе. У дзень апошняй генеральнай рэпетыцыі ўсе ахнулі.

Будаўнікі прывезлі новую дэталь дэкарацыі — лесвіцу і подыум, на які па задуме рэжысёра, кароль Лір мусіць занесці Кардэлію і адтуль з-пад нябёсаў кінуць у залу Філіпіні “вскрывающие язвы и пороки гнусного общества”. Такі апафеоз усяго спектакля. Гэта была жорсткая, ювелірная помста трагіку. Іван Сільвестравіч палічыў прыступкі: іх аказалася роўна трыццаць.

Хітры рэжысёр падчас генеральнага прагону далікатна папярэдзіў:

— На самую верхатуру не трэба несці. Пакажам усё на прэм’еры, а пакуль данясіце на адну трэць лесвіцы.

Грыва нічога не адказаў, паспрабаваў дацягнуць мажную Кардэлію на гэтыя дзесяць прыступак.

“Прелюбодейка”. Відаць, чорную ікру месяц ела”, — падумаў ён, цяжка дыхаючы, але адступаць было не з рукі. Усе білеты на прэм’еру былі даўно прададзены. Увесь горад жыў маючай адбыцца прэм’ерай. Хадзілі чуткі, што прыязджае нехта “з НАТА, з Іспаніі”, каб ацаніць нас: ці варты мы гэтай установы. Тэлевізіёншчыкі са сталіцы бралі інтэрв’ю на вуліцах. Усе хвалілі і ганарыліся народным, верылі ў поспех. Ірына Анатольеўна пазычыла ў знаёмай акушэркі бандаж свайму куміру, каб хоць не надарваўся. І вось, нарэшце, дзень прэм’еры. Час пік! Іван Сільвестравіч, кіруючыся талентам і магутнасцю Шэкспіра, забыў пра сваю нелюбоў да жонкі галоўнага і яго самога, іграў з такою сілаю страсці, як ніколі ў жыцці. Вось і апошняя сцэна. І тут рэжысёр выдаў сюрпрыз, прыдумаў смяротную знаходку для свайго крыўдзіцеля. Апрануў Кардэлію ў кальчугу. Маўляў, усё па тэксце, яна з Францыі на вайну прыехала. “Божа, гэта ж лішнія дваццаць кілаграмаў! — толькі і паспеў прыкінуць Іван Сільвестравіч. — Калі жыць застануся, прыдушу гада!”

Зусім побач, за кулісамі, стаяў галоўны і здзекліва ўсміхаўся. Зала прыціхла. Здавалася, было чутно, як барабаніць з кожным новым крокам сэрца Ліра. Недзе на пятнаццатай прыступцы Іван Сільвестравіч адчуў, што не дацягне да подыума. Ногі яшчэ трымалі яго з цяжкай ношай, а рукі зацяклі. Схапіла паясніцу. Пракляты радыкуліт.

Ён на нейкую секунду, дзве прыпыніўся. Усе адразу адчулі, што дзеду Кардэлію несці цяжка. І тут адбылася метамарфоза. Нехта з залы, вялікі прыхільнік таленту Грывы, гучна крыкнуў:

— Трымайся, Іван Сільвестравіч! Не здавайся!

Гэты кліч паслужыў сігналам для гледачоў, якія ахвотна ў знак салідарнасці пачалі апладзіраваць і скандзіраваць:

— Іван Сіль-вес-тра-віч! Іван Сіль-вес-тра-віч! Да-вай! Да-вай!

Скандзіравалі, як на хакейным матчы. І ён, акрылены бурнай авацыяй панёс “металалом” да верхатуры. Дваццаць восем, дваццаць дзевяць, трыццаць! Закрычалі: “Ура!”. Эдгару не далі дагаварыць апошнія словы. Іван Сільвестравіч паклаў Кардэлію на подыум і ўпаў побач з ёю сам. Кардэлія ціха спытала: “Можа, вам выклікаць “хуткую”?” “Пасля, дзетачка, пасля. Няхай дадуць заслону”. Усіх артыстаў, ашаломленага Марата разоў пяць выклікалі на біс, а Іван Сільвестравіч

*(Працяг на стар. 12)*

ве чалавек новы, але, відаць, практычны і разважлівы. Думаю, яна змагла б перакапаць іншых уплывовых, пры ўладзе, асобаў. Пераканаць у відавочным. У тым, што неадэкватнае стаўленне кіраўніцтва (на ўсіх узроўнях) да міжнароднага свята духоўнай музыкі, якое нарадзілася і з поспехам праводзіцца на нашай зямлі, стварае светламу святу пакутніцкую славу нялюбаганяроднага дзіцяці. Зразумела, якія меркаванні гэткае афіцыйнае становішча фестывалю можа выклікаць. Асабліва ў хрысціянаў-іншаземцаў, гасцей, як той казаў, цывілізаванага культурнага грамадства ў цэнтры Еўропы...

А "дзіця" ж у Магілёве нарадзілася цудоў-на-е!

## "МАГУТНЫ БОЖА" ДЗІВОСЫ ТВОРЫЦЬ

Цудадзейную сваю сілу фестываль захаваў, і тры яго дні поўніліся радаснымі нечаканасцямі.

"Сціплы камерны варыянт", як аказалася, — гэта каля 300 гасцей. Калектывы, індывідуальныя выканаўцы, журналісты. Плюс аматары харавых спеваў, якія штогод прыязджаюць у Магілёў прыватным шляхам, распавядаюць потым пра свае ўражанні на радзіме і нават заражаюць гэтым захапленнем новых цікаўных турыстаў.

Адкуль госці?

З Германіі, Францыі, Украіны, Польшчы, Анголы, Грузіі, Расіі, Камеруна...

Спалучэнне ў сёлетніх канцэртных праграмах знаёмага і новага надавала ім асаблівую разнастайнасць і вабнасць. А тое, што не было ўрачыстага адкрыцця ў Палацы культуры, — можа, і да лепшага. Бо ўсё адбывалася ў атмасферы непаўторна прыгожага храма, дзе сама акустыка спрыяе адухоўленасці гучання, дзе ёсць магчымасць пачуць незямны голас аргана.

Дзе, урэшце, няма кантралёраў, мітуслівых "безбілетнікаў" на парозе, няма нумараваных "запрашалак", і ўсім хапае месца, бо ў храме музыку можна слухаць стоячы. Можна адчуць нават, як зліваецца яна з вольным паветрам, — гэта калі пастаяць-паслухаць ля заўсёды шырока расчыненых дзвярэй касцёла.

Між іншым, каторы год здзіўляюся высакароднасці стракатай фестывальнай публікі: у аншлагавай цеснаце — ні штурханіны, ні ўзаемных прэтэнзій, ні раздражнёных позіркаў; гатоўнасць памагчы ўладкавацца суседу. Бачыла ў вачах замірэнне, радасць. Бачыла і слёзы. Бачыла твары засяроджаныя, сур'ёзныя, засмучоныя, нават пакутныя. Людзей з незадаволенымі вачамі ды тварамі на канцэртах чамусьці не сустракала.

Якая ж музыка гучала?

Мужчынскі камерны хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева цешыў слых натхнёным выкананнем заходнееўрапейскай ды старабеларускай музыкі. "Магутны Божа", пяць гадоў таму ганараваўшы міжнароднымі лаўрамі гэты унікальны калектыў, паспрыяў і яго сталай прафесійнай творчасці. Досыць папрацаваўшы саматугам, "Унія" атрымала, нарэшце, стабільны статус — як хор Магілёўскай абласной філармоніі. У прафесійнікаў, вядома, свае праблемы. І, магчыма, нядаўнія змены ў складзе спевакоў перашкодзілі маэстра К. Насаеву выканаць задуму, якою ён падзяліўся год таму пасля захопленага прыёму на магілёўскіх імпрэзах фрагментаў Імшы Аляксандра Літвіноўскага. Задума была — на юбілейным фестывалі выканаць Імшу цалкам. На жаль, падрыхтаваць да годнага канцэртнага паказу ўдалося толькі два фрагменты. Але як уражліва яны прагучалі! Уразіла публіку й тое, што сам аўтар выйшаў на паклон.

Дарэчы, кампазітар А. Літвіноўскі, які апошнім часам вылучыўся як новы лідэр і вельмі самабытны мастак у беларускай харавой музыцы, прыехаў у Магілёў ужо другі раз. І зноў, як летась, звездаў хвіліны ні з чым не параўнаных перажыванняў: невыноснай моцы ўзрушэнне душы і нерваў, выбуховая хваля радасці... Як тут яшчэ сказаць?

А летась, калі хто памятае, у касцёле св. Станіслава адбывалася ўрачыстае набажэнства — кансэкрацыя — з нагоды адраджэння старажытнай беларускай святыні, заканчэння аднаўленчых работ у храме. (Дарэчы, з датай 13 ліпеня звязана-спакроўлена і новае жыццё гэтага помніка нашай гісторыі, духоўнай культуры і мастацтва, і нараджэнне фестывалю "Магутны Божа", і яго далейшае жыццё). Хор "Унія", беручы ўдзел у тым урачыстым рытуале, праспяваў два фрагменты сучаснай Імшы. Якая хвалюючая нечаканасць для аўтара!

Сёлета здарылася нешта падобнае. Урачыстае набажэнства ладзілася з нагоды гадавіны кансэкрацыі. Святочнае шэсце на чале з Апостальскім Нунцыем Ватыкана Даменіка Грушэўскім суправаджалася надзіва ўзнёслай музыкай. Хор, арган, салісты — звыклае для касцельных рытуалаў спалучэнне. А тут — упершыню! — загучаў яшчэ і сімфанічны аркестр!

На хорах размясціўся знаны "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута. Воляю яго чарадзейнай дырыжорскай рукі сустрэліся ў святой прасторы храма гукі Шубертавай Соль мажорнай Імшы і светлага песняспеву "Вітай, Марыя!" з кантаты А. Літвіноўскага "Да Маці Божай" на тэксты Адама Станкевіча...

"Sonorus" таксама, як і "Унія", благаслаўлёны фестывалем. Званне міжнароднага лаўрэата адкрыла яму дарогу на прэстыжныя харавыя імпрэзы ў замежжы. "Sonorus", мо як ніводны іншы з гасцей Магілёва, — сапраўдны ўзор працавітасці, творчага пошуку, відавочных змен і новых мастацкіх вынікаў.

Што я маю на ўвазе?

А тое, што Мінскі абласны камерны хор "Sonorus", які прыехаў на першы фестываль "Магутны Божа" з Маладзечна, зусім юным, безыменным (так, назву калектыў тады не меў), за пяць гадоў ператварыўся ў досыць знаную вакальна-харавую капэлу, якая базуецца ў сталіцы.

Дзякуючы маэстра А. Шуту, хор і аркестр "Sonorus" адраджае колішнія асветніцкія традыцыі старадаўніх беларускіх капэл, імкліва папаўняе рэпертуар музыкай розных часоў і стыляў, ладзіць сапраўднае творчае супрацоўніцтва з айчыннымі аўтарамі. Падчас гастроляў Аляксей Шут сам вядзе канцэрты, распавядае (па-беларуску) пра гістарычнае мінулае беларускіх мястэчак, у якіх сімфанічныя капэлы былі распаўсюджанай з'явай, расказвае пра музыку, якую прапануе паслухаць землякам...

Штогод "Sonorus" прыязджае ў Магілёў з новай праграмай. І якія гэта прэм'еры!

Пазалетась прадставіў "Літургію св. Іаана Залатавуста" Алега Залётнева ды "Усяночную" Сяргея Бельцюкова. Летась — "Літургію" Алега Хадоскі.

Сёлета хор, аркестр ды салісты пад кіраўніцтвам А. Шута пазнаёмілі фестывальную публіку з рэстаўраванай "Нясвіжскай імшой" нашага земляка Шымкевіча, старонкі якой набылі новае жыццё дзякуючы творчай і, калі так можна сказаць, амаль аўтарскай працы Алега Залётнева.

Цалкам прагучала і кантата Аляксандра Літвіноўскага "Да Маці Божай". (Дарэчы, Віктар Уладзіміравіч Роўда, пачуўшы музыку кантаты, досыць настойліва папрасіў кампазітара скапіраваць для яго гэтыя ноты, бо маэстра хацеў бы выканаць і запісаць яе з Акадэмічным хорам і аркестрам Дзяржтэлерадыё). Звярнулася па новыя ноты і мастацкі кіраўнік Полацкага камернага хору Людміла Жукава. А спадар Пікарда доўга дзяліўся сваімі ўражаннямі, даводзіў, што музыка "Да Маці Божай" вельмі беларуская, але разам з тым ёсць у ёй штосьці... ірландскае.

Гучала ў касцёле і новая беларуская кананізаваная праваслаўная музыка — хор Гродзенскай гарадской капэлы пад кіраўніцтвам Ларысы Іконнікавай уключыў у сваю праграму два антыфоны "свайго" аўтара Андрэя Бандарэнкі.

Гучала і вядомая ўсяму свету калядка "Ціхая ноч", літаральна за адну неспакойную магілёўскую ноч аранжыраваная Кірылам Насаевым для "Уніі" і... спявачкі Тацціяны Цыбульскай, якая таксама тут, у Магілёве, здабыла міжнародныя лаўры.

Гучала адкрытая зусім нядаўна малітоўная музыка беларускіх "Планктаў": у суправаджэнні расійскай арганісткі Кацярыны Кафанавай спявалі Тацціяна Цыбульская ды Віктар Скорабагатаў.

Даўнюю беларускую рэлігійную музыку можна было пачуць і ў выкананні Акадэмічнага народнага хору пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага, хору касцёла св. Станіслава пад кіраўніцтвам Эмы Давыдавай, хору мінскай царквы абраза Божай Маці "Усіх Тужлівых Радасце" пад кіраўніцтвам Вольгі Янум. Гэты хор, дарэчы, удзельнічаў у ранішнім набажэнстве ў праваслаўным Саборы Трох Свяціцеляў. А побач спяваў на літургіі яшчэ адзін калектыў. Нетутэйшы. З далёкага грузінскага Кутаісі.

Прыезд мужчынскага камернага хору "Баграці" з Грузіі стаўся сапраўднай сенсацыяй. Не толькі мне давялося ўпершыню пачуць жывы каларытны грузінскі спеў. Што тут доўга казаць... Фантастычнае акапэльнае пяянне. Фальклор усіх рэгіёнаў Грузіі, малітвы, з якімі хлопцы выступаюць у храмах Грузінскай праваслаўнай царквы. Загадкавы прыродны гук. Адкрыты, роўны, нясканчоны. Галасы бязмежнага дыяпазону і невызначальных багатых тэмбраў. Рэзкая дынаміка: "святло" і "цень", зычнае фортэ і пяшчотнае піяна. Перазовы саліста і ансамбля. Спевы, у якіх — паганскі кліч і хрысціянскае пакаянне, россып сонечных промняў над зялёнай далінай і рэха ў гарах, хмельнасць добрага віна і мудрая ўсмешка стогадовага каўказца.



Усё? Не, яшчэ дадам. Пагутарыўшы з кіраўніком Суліко Віртвадзе, я даведалася, што сярод гэтых дзевяці хлопцаў няма ніводнага музыканта: лекары, настаўнікі... Спяваць вучыліся, як водзіцца, з дзяцінства, за вялікім бяседным сталом. Нотаў не ведаюць, рэпецірують "з голасу", выязджаюць у горныя экспедыцыі, па песні да васьмідзесяцігадовых дзядоў. Базуюцца пры Міжнародным цэнтры культуры Баланчына, назву атрымалі ад старажытнага манастыра "Баграці". Гэта іх другі, пасля гастроляў у Азербайджане, замежны выезд. Наступным разам зноў збіраюцца ў Магілёў, падрыхтаваўшы ўжо і штосьці з беларускіх твораў.

Мне падумалася: быў бы сёлета конкурс — Гран-пры паехаў бы ў Кутаісі. Мо гэтак і станецца — праз год? А сёлета галасістыя грузіны праводзілі наш мінскі аўтобус уласнымі песнямі, ды так заўзята, што і Любоў Каспорская далучыла свой голас да папулярнай "Суліко".

## А ПРАЗ ГОД...

Уражанняў магілёўскіх, як гэта бывае, хопіць на добры год. Хтосьці ўспомніць дзіцячы духавы аркестр з вакальнай групай з польскага горада Зволеня. Хтосьці — армянскую малітву, якую спявала ў суправаджэнні аргана львавянка Гаянэ Хасцян. Хтосьці — асветніцкую лекцыю ў ліцэі. Хтосьці дагэтуль абмяркоўвае вечаровыя канцэрты ля Вогнішча сяброўства, куды, адмовіўшыся ад, здавалася б, прэстыжных выступленняў на "Славянском базаре", прыехаў гурт "Палац". Апроч "Палаца", дарэчы, крок насустрач фестывальнай ідэі зрабілі вядомыя мінскія рок-групы "Новае неба" ды "Плато", поруч з якімі спявалі ды танчылі маладзёжныя ансамблі, салісты з Беларусі, Польшчы.

Мне помніцца, як на пачатку заключнага вечаровага канцэрта, калі сонейка яшчэ не схавалася, але неба было ў лёгкіх хмурынках, нібы збіралася на дождж, над горадам раптам зазззялі вясёлкі. Так, дзве вясёлкі: яркая, нібы ў дзіцячай кніжцы, а крыху вышэй — бляклая, ледзь прыкметная.

Пры такім надвор'і вясёлка не бывае! — казалі людзі дасведчаныя. Значыць, звычайны цуд, проста добры знак для фестывалю, — казалі таксама дасведчаныя людзі.

А яшчэ мне помніцца, як пры канцы галаканцэрта маэстра В. Роўда, узняўшыся з касцельнай лавы, ускінуў рукі, нібыта для палёту ці для малітвы, — і загучаў велічны, зліты з дзесяткаў галасоў, гімнічны спеў: "Магутны Божа"! Які ўсеабдымны быў сёлетні зводны хор: упершыню ён гучаў у храме.

"Як добра, як натуральна, што гэта адбылося менавіта ў храме", — заўважыла я тады, апынуўшыся побач з Ганнай Каржанеўскай. "Вядома! — усміхнулася яна. — Гэта ж, як кажуць, **намоленае месца,** усё тут і павінна адбывацца".

Дай Бог, каб і адбывалася. Каб у наступным годзе конкурс усё ж такі правялі. Каб шырылася фестывальнае кола і новыя ўдзельнікі прыносілі новыя ідэі. Дарэчы, а чаму б не зрабіць традыцыяй фестываль новай духоўнай музыкі? Дэлегацыя беларускіх кампазітараў была б тут досыць прадстаўнічай і прымала б калегаў з усяго свету...

Дай Бог, каб нікому больш не ўспадала на думку перанесці свята ўласнага "дзіцяці", спасылаючыся на тое, што побач у гэты час гуляе грашавіта "дзядзька" і шмат каму цікава патрапіць на дармовы суседскі пачастунак ды заадно паслухаць "свецкія базарныя размовы".

Дай Бог, каб людзі пры ўладзе прыслухаліся да развагаў Віктара Уладзіміравіча Роўды. Ён душою хварэе за прапаганду хрысціянскіх каштоўнасцяў і не разумее, чаму культурнае чынавенства гэтак дружна аддае перавагу "Славянскому базару", на якім і так тлумна, не лічачы патрэбным хаця б для прадстаўніцтва камандзіраваць каго-небудзь у Магілёў на гэта сапраўды духоўнае экуменічнае свята.

Дай Бог, каб праз год "Магутны Божа" сабраў сваіх сяброў — і старых, і новых...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: юны ўдзельнік ансамбля з горада Зволеня (Польшча); мужчынскі камерны хор "Баграці" (Грузія).*

*Фота М. ЦІТОВА (БЕЛТА)*

# Нататкі сумесніка

Алесь АСТАШОНАК

## З ДЗЁННІКА ЛІТАРАТАРА



Пісьменнікі запамінаюцца радкамі.

Дантэ: "Земную жизнь пройдя до половины, я очутился в сумрачном лесу, утратив правый путь во тьме долины".

Гогаль: "Скучно на этом свете, господа!"

Багата выдатных радкоў — так і хочацца цытаваць.

А вось з нашай літаратуры, апрача многіх дужа вядомых, чамусьці запомніліся тры.

З Шніпа: "Ядуць рабацягі зжаўцелае сала".

Яшчэ больш захапіў У. Скарынкін:

"Нешта я апошнім часам, бы вядро пустое, грукачу". (Дарэчы, гэты радок, гэтую думку дужа ўхваліў калісь пераборлівы Дубавец.)

Працуючы, чакаю, як заўсёды пасля публікацыі, якогась званка. Не звоняць. Чаму? Тут можа быць некалькі версій:

1. Дрэнна напісаў, дык няёмка званіць.
2. Страціў павагу тых, хто зазвычай званіў.
3. Абышоў, дык зайздросцяць.
4. Перайшоў у іншае вымярэнне. Гогалю ж, мабыць, ніхто не тэлефануе.
5. У кожнага свой клопат.
6. Сінтэз вышэйназванага.

Думай. Чакай...

7. А раптам ніхто й не чытае?

Тут яшчэ больш ёсць над чым падумаць.

Акудовіч — мой забойца.

Напісаў калісь, здаецца, у 88-м, калі я яшчэ лічыўся маладым пісьменнікам, і ім добра было яшчэ мне лічыцца, выгодна, з пункту погляду ўвагі крытыкі, дый я сам сябе ім шчыра і лічыў, мяне гэта не абражала (ну не абражала — і ўсё), напісаў тады Акудовіч, што ніякі я ўжо не малады пісьменнік (было мне тады 34). І ўсё роўна як нешта памерла ўва мне. Больш ужо мяне маладым пісьменнікам ніколі не называлі.

А Галіна Тычка прыблізна тады ж назвала мяне чымсьці пераходным — спаміж маладымі авангардыстамі й традыцыяналістамі. Не ведаю, да каго бліжэй яна мяне бачыла. І да каго я бліжэйшы цяпер?

Дзякуй ёй ужо за тое адно, што яна была апошнім крытыкам, які назваў мяне маладым.

Хоць які ў нас авангардызм?

Як не было ў нас па сутнасці і андэграунду. Колькі б мой сябра Уладзімір Арлоў ні пісаў пра "Мілавіцу" і "Зялёны ліхтар". І колькі б аднаго з найбольш сімпатычных мне нашых сучасных празаікаў Адама Глобуса ні друкавалі ў англійскім антыцэнзурным часопісе.

Але як усё-такі хочацца, каб табе нешта сказалі пасля публікацыі. Адзін толькі Федарэнка колькі пра гэта гаворыць дый піша нават. (Вось я і напісаў.) А яму яшчэ й самому лісты зрэдчас, прыкладам, раз на год, пішуць. Многія расказвалі мне, што маюць лісты ад чытачоў, няхай сабе найчасцей і калег. А я дык ніводнага. Пра мяне толькі крытыкі — тут не скарджуся — у друку, бывае, выказваюцца ці нават разважаюць.

Можа, я чалавек дрэнны й ніхто з тых, хто мяне ўведаў, мне не тое што не піша, але й не тэлефануе?..

А некалі з Уладзімірам Арловым, з Леанідам Галубовічам ліставаліся. Доўгія былі пісьмы, частыя.

Смешна... Не верыцца неяк.

Праўда, смешна цяпер, а не сумна. Хоць павінна быць сумна.

Ці ўсё-такі сумна?..

Лепшы ў нас мастак слова, самы пластычны ягоны майстар, — бясспрэчна, Іван Пташнікаў. Ёсць тут у чым пазайздросціць Адамчыку, Быкаву, але Пташнікаву роўных няма.

"Джукі блажыла. Яму выварочвала нутро і язык, — язык рабіўся доўгі, выцягваўся з рота, чырванеў, як агонь, слаўся на траву і на жоўтыя ў цвеце кунатыя адуванчыкі, і з яго цякла зялёная сліна — пенай. Калі блага адпускала, яго адразу халаў кашаль — сухі, дзяркаты, глыбокі, ад яго падцінала духі, спірала ў вузкіх, маладых яшчэ сабачых грудзях — Джукі не было яшчэ і двух гадоў — і ён тады задыхаўся ад сухой гарачкі, якая паліла ў горле і востра пахла растаптаным палыном і ёдам".

Працытаваў, дарэчы, не шукаўшы — першае, што імгненна ўзгадалася.

Памятаю: чытаў "Ільвы" — і зайздросціў.

Наколькі літаратура можа змяняць людзей, хоць бы ўплываць на іх?

Мала афарызмаў памятаю гэтак выразна, як гэтыя два:

"Не сладок плод бездельного досуга" (здаецца, гётэўскае).

"Cras, cras, semper cras, sic aevadit aetas". — "Заўтра, заўтра, заўсёды заўтра, так праходзіць усё жыццё".

Але ж... Ці не 30 гадоў з сваіх 42 пасюль гэтак жыву.

Ды што там я — са сваімі афарызмамі!..

Чалавецтва — і Біблія. Расія — і Дастаеўскі. Беларусь — і "Тутэйшыя".

Кола чытання... Што я чытаў ці перачытваў, прыкладам, за апошнія месяцы?

Акутагаву, Федарэнку, Пятровіча, Глобуса, Оруэла, Гладзіліна, Купрына, Сэліна, Ж.-М. Карэ, Маэма, Рэмбо, Віктара Ерафеева, Фолкнера, Борхеса, Фітцджэральда, Анатоля Жука, "Слоўнік тэатра" Патрыса Паві, "Слоўнік антычнасці", а таксама Г. Сямёнава і У. Рубанава (вечная ім памяць!), Даўлатава, Валодзіна... Досыць...

Падлічыў і здзівіўся: 22 з'явы згадаў — 2 футбольныя каманды.

Смешна ўсё гэта. Стракатая кампанія.

А нехта назаве ў сваім спісе Сыса і Шэкспіра, Гогаля і Асташонка.

Як радуешся за абдзеленага вялікаю ўвагаю (адсутнага ў "абоймах" пісьменніка і крыўдуеш за яго, калі знаходзіш у ягоным творы вось такое, напрыклад:

"А тут яшчэ і заказ не ўзялі — а піва ўжо дражніцца. Нос як бы сам сабой пачынае ўцягваць паветра, ловячы тыя тонкія пахі, што вакол закружыліся лёгкім воблачкам. Коўцік, пакуль яшчэ змочаны толькі слінаю, што раптам набегла, перапоўніла рот, перакаціўся знізу ўверх, потым зноў уніз, павільгатнелі вочы ад нейкай цеплыні, што разам запалілася дзесь глыбока ўсярэдзіне, і рука, як зачараваная, пацягнулася, узяла гэты посуд светла-бурштынавага колеру і, адчуваючы яго халадок, нібыта лізнуў у яе верны сабака, панесла да губ..."

Ну хто, хто пісаў у нас так пра піва?.. А можа, не толькі ў нас. Хіба што чэхі якія ці немцы, славакі мо... Праўда, не падабаюцца мне — "да губ" і "як бы", — але ўсё роўна. Піва хочацца.

Пра самагонку ў нас пісалі выдатна. І яе ўздзеянне. (Напісаў — і ўсміхнуўся сам сабе весела-сумна: во дзе дух нацыі.) Стральцоў у "Адным лапці, адным чуні" і Наварыч у "Аз адпомшчанне уздам". Наварычаў выдатны твор — мала не трактат пра гэта. Ва ўсёй сусветнай літаратуры не сустракаў больш падрабязнага апісання рыштунку і працэсу самагонагатавання. Як інструкцыю можна выкарыстоўваць.

Дзе яшчэ такое магло з'явіцца? У мексіканцаў з іхняй "Тэкілаю"? У амерыканцаў у 20-я гады з іхнімі бутлегерамі? Цікава ўсё-такі: ці ж адзіны ва ўсім свеце Наварыч?

1984 год. Масква. Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў. Пракураны гасцінічны пакой. Маладая а́ la багемная кампанія. Нейкая прыблуда выгаляе напаказ свае кашчавыя сіняватыя ногі.

Галубовіч: "Закрый свае ногі — я за імі душы не бачу".

Тады ж я даведаўся ад Пісьмянкова пра славутую аднарадковую пазму Брусава.

На той самай нарадзе мяне, неафіта, уразіў сваёй апантанасцю, мэтанакіраванасцю і эрудыраванасцю ў беларушчыне Сяргей Дубавец. Пасябравалі. На жаль, ненадоўга.

Некалькі вузкапрафесійных довадаў не на карысць нашай незалежнасці.

Раней можна было надрукавацца ў "ЛГ", "ДН" — і прачнуцца крыху знакамітым. А як сябе адчувалі, прачнуўшыся пасля "Нового мира", Адамчык і Пташнікаў?

Раскошаю каліфаў успамінаюцца цяпер колішнія маскоўскія Савет па маладой беларускай літаратуры, сустрэча "Крыніцы" з эстонскай "Радугай", памянёная ўжо нарада. Нашыя вялікія дэлегацыі (слова якое: *дэлегацыя* — у дэлегацыі, прыкладам, я ды Сыс), увага не толькі кан'юнктурных, але і не самых апошніх у краіне крытыкаў і літаратараў, скажам, Розава, нябожчыка Дзядкова. "Рафік" ці нават вялікі аўтобус для членаў дэлегацыі (двух-трох, што спазніліся на нараду пасля "ўчарашняга"). ЦДЛ. Тамтэйшая рэстарацыя. Гатэль "Масква". Я з Мінкіным усю ноч у нумары разам з грузінам і морам вінаў з "Сакартвэла". Мінкін чытае вершы, грузін спявае: "Белогрузия!"

Мне, драматургу, можна было купіць за 30 руб. білет (купэ) да Масквы й назад і абысці маскоўскія тэатры. Рэжысёраў і актораў, спектаклі, вядомыя на ўсю краіну, пералічваць не трэба. Можна было абысці "заглітаў" і займець нейкі шанц. У вахтангаўскім тэатры да маёй п'есы паставіліся даволі прыязна і прасілі паказваць новыя, але больш захадаў я не рабіў. Можна было абысці і тэатральныя часопісы й выдавецтвы і таксама на нешта разлічваць. Я, пэўна, надрукаваўся б у "Театре", каб не дапамога аднаго *нашага* чалавека.

Мяне і ў Саюз пісьменнікаў прынялі б на два гады раней, бо меў рэкамендацыю сакратарыята тае самае нарады, каб не дапамога *не аднаго* нашага чалавека, у выніку якой рэкамендацыя прапала са стала нашага саюзаўскага функцыянера. (Але ўсе мае злыя прыгоды, звязаныя з СП, працаю ў Міністэрстве культуры і "выязной" камісіяй ЦК КПБ, — гаворка асобная, вялікая дый наўрад ці патрэбная сёння.)

Згадваецца семінар маладых расійскіх пісьменнікаў на "Іслачы". Я там быў з Ягоўдзікам. Кіраўнікі семінара — аўтар знакамітага тым часам "Імітатара", твора сапраўды адметнага, Сяргей Есін; Глеб Гарышын і Георгій Вітальевіч Сямёнаў, вечная яму памяць, — майстры слова і сябры — падумаць толькі! — Юрыя Казакова.

(Нехта тут пэўна ўсміхнецца. Няхай. Казакоў напісаў "У сне ты горка плакаў", Сямёнаў — "Фрыгійскія валошкі".)На памянёнай нарадзе са мною ў семінары былі: будучы пастаянны аўтар "Знамени" (і даволі вядомы драматург, актор тэатра на Малой Броннай Валеры Маскаленка, мой аднагодак з Наваполацка), Елена Разумоўская, аўтар знакамітай тым часам п'есы "Дарагая Алена Сяргееўна", Ніна Садур, празаік і драматург, якога цяпер ведае ўся Расія. А Расія ў літаратуры, колькі б ні накідваліся на Андрэя Федарэнку (часам "оголтело"), — усё-такі не Галандыя й нават не Бельгія.

Можна было прыехаць у Дом творчасці ў Піцунду ці Юрмалу, папісаць там у дужа спрыяльнай, крыху экзатычнай атмасферы і пазнаёміцца й нават пасябраваць з Янам Круусваалам, Саўлюсам Шальцянісам, Георгіем Кановічам, Пятрасам Бражэнасам, Леанідам Юзэфовічам (гэта мае ранейшыя сябры). Прыехаць потым да іх у госці, прыняць у сябе.

Можна было зайсці ў інтэрнат Літінстытута да "вэказлаўцаў" і, сустрэўшы там прыяцеляў ці нават не сустрэўшы, атабарыцца на нейкі час. З усімі вынікамі — добрымі й благімі.

Спыняюся: надта ўжо багата пераваг.

Ёсць у маіх згадках і смешнае, і сур'ёзнае. Смешная гэтая "плата" за адну толькі ўласную часцінку нашай незалежнасці.

Але што ўзамен, калі незалежнасць становіцца бутафорскай, калі пры дзяржаўнасці мовы шанцы на яе выжыванне — як ніколі на дарослай маёй памяці слабыя?..

Схіляю вінаваты ў імперскай настальгіі галаў. Жыву спадзевам. Выпальваю ў сабе балючае "Оставь надежду всяк сюда входящий..."

Змушаны тут паўтарыць шмат разоў сказанае: як блага, што нашая незалежнасць не здабытая намі, нават не набытая, а падораная нам, падораная знянацку, падораная народу, бальшыні якога яна (у свядомасці гэтай бальшыні) зусім не патрэбная.

На той самай нарадзе ўразіў усіх сваімі паводзінамі Галубовіч.

Мы ўсе яшчэ сапраўды маладыя, наіўныя, рот разявіўшы, за выключэннем Дубаўца, на Маскву, наперадзе — мора жаданняў, планаў, ілюзій, амбіцый, — і тут нашаму Лёньку, як усесаюзнаму рарытэту, паэту-калгаснаму электрыку, даюць ХВІЛІНУ ў праграме "Час". Фантастыка! Лёня ўжываў. Мякка кажучы. Мы яго дзень угаворвалі прыпыніцца, не разумеючы, што гэта за стан (я да таго ў падобным стане яшчэ ні разу не быў), — марна, вядома, назаўтра выцягнулі яго агульнымі намаганнямі на здымачную пляцоўку, нават, па чыёйсьці парадзе, апахмялілі, — зноў марна: у здымачнай групы шок — такую дурню давалі РЭКЛЯМУ. А "дурню", здалося мне, было хоць бы што. Пайшоў адразу далечвацца, каб зноў захварэць.

Смешныя, мусіць, былі тады Лёню нашыя думкі аб славе, як смешныя яны цяпер і мне.

Разгортваю "ЛіМ" з сваім "Домам Творчасці". На перадапошняй старонцы — некралог.

Малавядомы мне дзіцячы пісьменнік Мікола Корзун разам з перакладчыкам Уладзімірам Анісковічам стаў першым чытачом, дакладней, слухачом твора. На "Іслачы" холадна, пуста, толькі нас трох літаратараў і было. Адно працаваць — цяжка, надакучвае. Сабраліся ў камінцай, паслухалі маё апавяданне (я праверыў яго на "слых", а гэта дужа карысна ці нават неабходна рабіць — раман, дарэчы, на слых наўрад ці праверыш). Апавяданне з-за тагачаснай тамтэйшай халадэчы было блізкае й асабліва смешнае кожнаму. Выпілі, прыязна пагаманілі. Зрэшты, гэта й ёсць нармальныя чалавечыя пісьменніцкія стасункі, якія, на жаль, бясследна знікаюць.

Мой твор — і некралог. Тым больш такі. Ніякавата.

Увогуле, за апошні час, дні якога прабаўляў я нярэдка на "Іслачы", памерлі шэсць маіх суседзяў па заўсёды амаль пустой сталоўцы: Васіль Хомчанка, Георгій Колас, Сямён Дорскі, Валянцін Рабкевіч, Мікола Корзун, Яраслаў Пархута. Рабкевіч і Колас некалі дапамагалі мне — рэдагаваннем, словам, спадарожным натхненнем. А я пішу "Дамы творчасці", злуюцца чамусьці, неўразумеўшы сутнасці, некаторыя літфункцыянеры, — я зноў пішу і смяюся. Дыялектыка.

Ішлі мінулым летам з Уладзікам Рубанавым па праспекце Багдановіча. Гаварылі, як заўсёды, найбольш пра літаратуру. У тым выпадку — пра ацэнку і самаацэнку пісьменнікаў. Што, прыкладам, думае Д. ці Г. пра К. і М. і, наадварот, што А. пра сябе ў параўнанні, скажам, з Б., які рэдактар-традыцыяналіст (пісьменнік) прыняў бы "Майстра і Маргарыту" ці "Сто гадоў адзіноты" — у нас, цяпер, — і які не; што, прыкладам, Г. думае пра сябе, што ён геній, — а другі Г. раструшчвае яго ўшчэнт, як нікчэмнасць, што традыцыяналісты ў нас найчасцей недалюбліваюць так званых авангардыстаў і г.д.

Праходзілі якраз міма агароджы. Я прыпыніў Уладзіка і паказваю на дзве калоны, спаміж якімі дванаццаць металічных прэнтаў. Кажу: "Дыяпазон аднаго абмяжоўваецца цэнтральным калом сярод гэтых дванаццаці штыкецін, другога, як гэта ні дзіўна, — калом скрайнім. Нехта можа ахапіць тры-чатыры калы, пяць-шэсць, нехта ўсе дванаццаць, але за іх абсягі ніколі не выйдзе, а нехта можа размахнуцца на ўсе тры тузіны штыкецін. Дык вось: М. далей за любы скрайні кол, колькі ні будзе пнуцца, не выйдзе. А хутчэй за ўсё й не будзе ён пнуцца. А з табою, разумееш, што здарылася, калі ты напісаў апавяданне "Артыстка і пачвара"? Ты выціснуўся з палону сама меней тузіна калоў. Колькі суседніх штыкецін з таго й другога бакоў ты прыхапіў, меркаваць не цяпер і, бадай, не табе, і не мне".

Уладзік ва ўсім згаджаўся, але падсумаваў усё проста.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Зорка Венера над Мышкавічамі

**Хто не ведае "Зорку Венеру" Максіма Багдановіча! У гэтай найпрыгажэйшай зоркі, названай у гонар багіні кахання, у народзе ёсць іншая назва — Мілавіца. Яе і ўзяў сабе ансамбль народнай песні Мышкавіцкага сельскага Дома культуры, што ў Кіраўскім раёне. Стварыў "Мілавіцу" ў 1990 годзе дырэктар мясцовай дзіцячай музычнай школы Уладзімір Барэйша.**

**У ансамблі 18 чалавек. Сярод іх будаўнікі Н. Расолава і П. Бяляўская, настаўніца Н. Худалей, выхавальнікі дзіцячага садка сёстры В. Астроўская і К. Кіпрыянава, *шафёр* А. Шкробаў *і іншыя*. Усе без спецыяльнай музычнай адукацыі, але сэрцам тонка адчуваюць песню, музыку.**

**Праўда, самі музыкі ансамбля — прафесіяналы. У асноўным гэта работнікі музычнай *і агульнаадукацыйнай школ*. У. Каваленка, А. Каранкевіч, Л. Марцючэнка, С. Салановіч, С. Пытаеў, М. Галевіч і ён, Уладзімір Барэйша. Па адукацыі не прафесіянал толькі музыка В. Швачый. Ён трактарыст, але выдатна грае на ўдарных інструментах, на дудцы і жалейцы.**

**Цяпер, калі спыніў сваю дзейнасць па прычыне нястачы сродкаў рассветаўскі хор, разумееш празарлівасць У. Барэйшы, які "засвяціў" над вёскай ды і над усім раёнам "Мілавіцу". У адрозненне ад вялікага хору ансамбль мабільны, лёгкі на пад'ём, таму ён часты госць у прадстаўнікоў не толькі свайго раёна. І на вялікіх сцэнах "Мілавіца" ззяла, апраўдваючы сваю назву. Ансамбль — лаўрэат Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", які праходзіць на Віцебшчыне, дыпламант Міжнароднага конкурсу выканаўцаў народнай песні "Дружба-93" у г. Бранску (Расія). І французам "Мілавіца" з беларускай вёскі Мышкавічы падарыла святло сваіх песень і музыкі.**

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

## Паўвека ў творчасці



**Вышыванымі і тканымі ўзорамі ўласнай работы цалкам упрыгожыла сваё жыллё Еўдакія Цітаўна Серада з вёскі Навасёлкі Петрыкаўскага раёна. Рукадзеллем яна займаецца 50 гадоў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА**

## Як у музеі...



**Кватэра Ядвігі Рыгораўны Песінай з Полацка нагадвае музейную экспазіцыю. Сурвэткі, абрусы, сукенкі, блузкі і іншыя вырабы, звязаныя на прутках рукамі Ядвігі Рыгораўны, упрыгожваюць не толькі яе кватэру.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА**

# Нататкі сумесніка

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Лаканічнасць дыягназу ўразіла мяне. Пазней я працытаваў яго (з ягонага, вядома, дазволу, пры ягоным жыцці), у апавяданні "Рыгор Данадоні, эсквайр": "А *можа, я й* сам гляджу цяпер на прозу толькі з вышэйшага даступнага мне паверха — кожны пісьменнік ці купка пісьменнікаў сядзяць жа адно на дасягальных для іх паверхах".

Так яно й ёсць. Не можа, а менавіта з вышэйшага даступнага мне паверха гляджу я на літаратуру.

Заўсёды ёсць вышэйшы паверх. Нават калі дойлід слова збудаваў гмах на вякі.

Апавяданне "Артыстка і пачвара" прайшло міма бальшыні чытачоў, бо друкавалася ў непрэстыжнай тады "Крыніцы". А гэта быў сапраўды Уладзікаў прарыў. Толькі, праўда, літаратурны. На прарыве вышэйшым, містычным, фантастычным, неўяўляльным нават пры ўсім абдумванні, — спынюся пазней.

Апавяданне друкавалася ў 1994 годзе, годзе Уладзікавай смерці.

Такім самым літаратурным прарывам здзівіў мяне ў "лімаўскім" апавяданні "Генсек і Геній" Алесь Асіпенка, чалавек больш сталага веку, на жаль, таксама нябожчык. Я тады ўвогуле — па парадзе Уладзіка — звярнуў увагу на ягоную творчасць апошніх гадоў. Ён, як мала хто з старэйшых нашых пісьменнікаў, развіваўся, мяняўся, прарываўся, вырываўся...

У дзяцінстве й юнацтве я часта бываў у Міханавічах, маёй мамы роднай вёсцы, што ў пухавіцкім напрамку, за дваццаць кіламетраў ад Менска. (Амаль што побач, дарэчы, малая бацькаўшчына паэта Алеся Бачылы. *І майго таты.*)

Дык, едучы ў Міханавічы ці вяртаючыся ў Менск, я заўсёды дзівіўся: самыя цёртыя, пабітыя жыццём "мужыкі", пракураныя, не затурканыя (з выгляду), на працу заўсёды ехалі ў апошнім вагоне, з працы — *толькі* ў першым. Дым і карты — у абодва канцы. "Чарнілы", зрэдчас гарэлка — па дарозе дамоў. А ў вачах, за зухаватасцю — стома. Ад працы, ад жыцця. І пітво — падман.

Нейкі час, успамінаючы іх, я хацеў напісаць аповед альбо аповесць пад назваю "Усё жыццё ў апошнім вагоне". Чамусьці менавіта так хацелася назваць твор. Хоць дакладней было б, дапусцім: *"Усё жыццё ў скрайнім вагоне"*. Але ж іхні вагон — заўсёды апошні. Так, мусіць, насуперак фармальнай логіцы, правільней.

На пачатку бульвара, дзе я жыў два гады ў Менску, стаіць помнічак Тарасу Шаўчэнку. На барэльефчыку — паэтавы радкі.

Бульвар зялёны, прыгожы. Але, як пажыў на ім колькі часу, дык захацелася напісаць аповед ці аповесць пра яго пад назваю "Шалёны бульвар". Замінаюць ужо напісаныя апавяданні "Шклатара", "Знос", "Дарогаю да дзеда", "Мой школьны таварыш Косцік", аповесць "Дурдунецкі анабазіс" — яны ж пра людзей такога самага кшталту, якіх я так шмат бачыў на бульвары. Ужо самому абрыдлі гэтая вечная ў пісаннях маіх п'янка, бадзянне, неўладкаванасць, апатыя, рэзрух, безвыходнасць. Хочацца нечага іншага. Як выгаварыўся на гэтыя тэмы, пра гэтых людзей. А так шкада — неблагая магла б выйсці аповесць. Толькі рассыпаная яна ўжо па папярэдніх старонках.

Але адно назіранне, так бы мовіць, магістральнае, дзеля якога, уласна, і пачаў гэты запіс, хачу зафіксаваць.

На бульвары — па абодва яго бакі — гастраномы. І там, і там прадаюць "пойла".

Некаторыя людзі доўгімі гадамі жывуць, пераходзячы з аднаго боку на другі, з 7—8 раніцы да 8—9 вечара. Усё некага й некага, часта проста цуда, чакаюць. І, звычай, дачакаюцца. Зрэшты, цудаў тут ніякіх не бывае, ёсць законы тутэйшага жыцця: калі нехта стаіць на рагу крамы, нават позні́м сцюдзёным вечарам, заўсёды прыйдзе нехта *падобны, толькі з грашыма*. Пра гэтых вечных "вахтавікоў" тут трапна заўважалі: "Спіць тры разы на дзень".

Аповесць мусіла пачынацца так: "Сёння ён не выйшаў на працу". Ведама ж, на якую. Далей: "Дык пра яго сказалі: "Першы прагул за ўсю біяграфію. Працоўную кніжку ў яго адбяруць".

*Вагоны ідуць тут не ўздоўж дарогі — упоперак яе.*

З сумам азіраюся на сваю перакладчыцкую дзейнасць.

Перакладаў, перакладаў...

Сіменон, "Дракула", Буль, Хічкок, Элг, Мак Койн, Сігал... А што засталося? Не застанецца — засталося.

Рассыпаныя па перыёдыцы максімы Ларошфуко, дзённікавыя запісы Камю, аповеды Хемінгуэя, Фолкнера, Брэдберы, Віяна. Уільямс, Фрэно дэ Гельдэрод, якіх — у драбнічках - "прывёў" да нашага чытача. Усё гэта ні ў якую кнігу не сабраць. Гэта нават у тыя часы немагчыма было, калі існавала "Кніга перакладчыка". 10 п'ес для тэатраў (Жары, О'Ніла, Гібсана, Вампілава і інш.). 5 гадоў "Крыніцу" з расейскай на беларускуюператлумачваў. Кіламетры ці пуды перакладаў. Спачатку праца была хоць крыху ўдзячная — дзеля *справы*, а потым — як у прорву.

Па сапраўдным рахунку — адна кніга. "Востраў скарбаў", які праляжаў на паліграфкамбінаце ці не 4 гады. Калі-небудзь, можа, выйдуць цудоўна аформленыя "Гісторыі нанач" ("Дракула", Хічкок, Элг, Анры дэ Рэнье). Каму гэта сёння пасля ўсіх Чэйзаў і Стаўтаў на беларускай мове трэба? Хіба што забыты француз — гэта заўсёды некага зацікавіць. Сіменон, "Гісторыя кахання" палеглі на прылаўках. Вынік будзе той самы. Сумна гэта ўсведамляць. Нешта ж сваё мог напісаць...

А не шкадаваў бы, калі б *у свой час* выдаваліся пераклады, прымаліся прапановы. Яны б зрабілі сваю, няхай і маленечкую, справу, — Сіменон і "Дракула" гадоў 6 назад...

Знайшоў у Васіля Віткі выдатнае слова — "сумеснік": саўдзельнік, змоўнік... сатаварыш, аднадумец, кампаньён, *супольнік*, хаўруснік".

Каму я супольнік па месцы ў часе і каму ім *застануся й станюся?*

Пакуль пісаў гэтыя нататкі, дык паспеў зразумець — наконт агульнага вакол маўчання, так бы мовіць, з нагоды маёй апошняй *публікацыі, — што фантазіі мне не* хапіла. Прычыны маўчання могуць быць яшчэ вось якія: 8. Не чытаюць не толькі мяне, але й іншых. 9. Не чытаюць, бо не выпісваюць і не купляюць перыёдыкі: дарага, на самыя простыя патрэбы не хапае.

Знайшоў у Федарэнкі надзвычай, як на маю думку, удалы выраз: "выдаўжыў ногі" — "выпрастаў ногі" заўсёды засмучала двухсэнсоўнасцю.

Чытаю ў сваіх запісах:

"Што б я хацеў перакласці, апрача "малой прозы" для "Крыніцы"?

"Чырвонае і чорнае". "Пані Бавары". "Тры мушкецёры". "Сплін" і "Рай і пекла" Бадлера. "У Германтаў". "Закон" Ваяна. Сучасная амерыканская паэзія. "Ваніты" Сартра. Жэнэ, Іянэска, Бэкет. О'Ніл, Уільямс, Олбі. "Над прорваю ў жыце" і "Віно з дзьмухаўцоў". "Страчаны рай" славака Рудольфа Слабоды. "Шум і шал" Фолкнера. "Манхэтэн трансфэр" Дос Пасаса. Анталогія амерыканскай навелы. "Маленечкі шматок зямлі добрага Бога" Калдуэла. "Тарцілья Флэт" Стэйнбека. "Падарожжа ў канец ночы" Сэліна. "Словы" Сартра. "Першы чалавек" Камю.

Напісаў — і зноў здзівіўся, падлічыўшы: 22, як цяпер кажуць, праекты. Нешта я ўсё незнарок у 22 трапляю. Не ў ачко.

Вядома, спіс настолькі вялікі, што нават утапічны: складзены ён быў на далейшы выбар. Але галоўнае ў іншым.

Чытаю ўвесь гэты пералік, нібыта чыйсьці чужы. Нібыта мёртвы.

Пры такіх тэндэнцыях развіцця нашага грамадства, як сёння, калі мастаку застаецца адно спрабаваць выжыць як мастаку, — нічога з гэтага спіса мною перакладзена ўжо не будзе. Хіба што-небудзь на пенсіі. Калі дажыву да яе. (Пры такіх тэндэнцыях не надта й хочацца дажываць.)

Літаратурныя штампы... Ці штампы жыцця?.. Адзін з заходніх — "Я заказаў віскі з содавай". Я так шмат разоў чытаў гэты сказ, што, убачыўшы ўпершыню ў сваім жыцці, на сорак першым годзе, "Ваду содавую" (не нашую), не сумняваўся ані хвілінкі. Хоць кошт бутэлькі простай (праўда, амаль што *простай і паўтаралітровай) вады і раўняўся* цане, прыкладам, адной пляшкі "Пшанічнай". Жанчыны ў чарзе, што стаялі па муку, дружна абурыліся: "Ваду! За восем тысяч!". Не звярнулі ўвагі ні на мой просты плашч, ні на не самую новую пралетарскага выгляду кепку. Жанчыны не маглі здагадацца, што я літаратар, зацяты чытач ды яшчэ й гурман. Я ўцёк. Непадалёк быў барчык, дзе, ведаў я, ёсць адносна недарагое віскі. Я ўзяў "палцішок", дастаў з сумкі запаветную ваду. Пакаштаваў спярша яе. Усміхнуўся. Простая добрая мінералка, можа, крыху аддае содаю. А можа, і не. Пакаштаваў віскі. Каб можна было параўнаць з "Пшанічнаю", дык не горшае, толькі нязвыклае: нячаста я віскі п'ю. Змяшаў. Выпіў. Пайшоў да стойкі і з усіх наяўных бутэрбродаў наўмысна выбраў: агурок, сала, цыбуля.

Прыйшоў дахаты, разгарнуў любімага Акутагаву — і што? "Я ўліў віскі ў содавую..."

А можа, расчараванне маё праз тое, што содавая была ўсяго толькі чэшскаю?

Яшчэ адзін літаратурны штамп, ужо і наш. Пісьменнікі найчасцей, як хочуць расказаць пра жахі п'янства, алкагалізму, апісваюць жывёльны стан ап'янення, апушчэнне ў паводзінах, неахайнасць у адзежы. Дылетанцкі падыход. (Тут з мяне й пасмяяцца можна.) Вы зусім цвярозага апішыце, назаўтра, пасля чорт ведае якога дня, калі круціць усяго, трасе і г.д., а самае галоўнае, калі чалавек у любога стрэчнага можа папрасіць, нават заплакаўшы, выпіць: "Добры чалавек, не дайце памерці..." Я такое бачыў і чуў, уранку, каля Камароўкі, там, дзе з-пад пахі жанчыны пойлам гандлююць. Адна жанчына прадае, а ў другой, што калоціцца, — на вачах слёзы. Так і хочацца (па-маралізатарску) прашаптаць: "Што робіць з людзьмі гарэлка!"

Шкада Уладзіка Рубанава. Не толькі таму, што так рана памёр. Мне асабіста. як сябра шкада, часта няма так з кім слоўцам перакінуцца, як з ім, — але гэта ўжо і гаворка асабістая. Шкада, што так часта ранілі яго крытыкі. Не шанцавала яму. Слабыя месцы часта заўважалі. Моцныя — мала калі. Памятаю, прыкладам, "лімаўскі" артыкул А. Каўруса, дзе той пісаў пра мову Рубанава.

*Вазьміце адзін толькі пачатак першай* кніжачкі, якая выйшла, калі пісьменніку было 29 гадоў.

"Вясна.

Сонца, нядужа яркае, але ўжо цёплае, *лёгка растапляе снег*, і ён *сплывае мутнай* вадою ў лагчынкі, прарэзаныя колам каляіны. Лужыны зацягваюцца тонкай ружова-фіялетавай плёнкай, якая гусцее і ярчэй пераліваецца. Пагоркі даўно сухія — зляжалы леташні бруд прашылі жоўта-зялёныя іголкі травы, у якіх — і кволасць першага дыхання, і прага новага жыцця".

А якім добрым апавяданнем — "Паляванне" — кніга канчаецца...

Саша Сакалоў піша:

"За нейкі кароткі тэрмін адбылася каласальная эвалюцыя ў сусветным мастацтве: жывапіс абнавіўся некалькі разоў, кіно і тэатр, так сказаць, змянілі некалькі шкур, а нашая літаратура робіць выгляд, быццам усё спынілася на Пушкіне. Пушкіна выкарыстоўваюць замест шчыта бяздарныя людзі. Усе іх праблемы ў тым, што далей Пушкіна яны не чыталі нічога".

Гэта ў велізарнейшай сённяшняй расейскай літаратуры.

А ў нас прыходзіцца яшчэ нешта даводзіць наконт здаровага суіснавання традыцыі й авангарда.

Хоць пра багата якія традыцыі так і карціць сказаць:

"Час традыцыі безнадзейна сышоў".

Асабліва "замілоўвае" замшэлае бытапісанне.

Французскі пісьменнік, румын па паходжанні, Эміль Чоран (нар.у 1914 г.) закончыў Бухарэсцкі інстытут літаратуры ў 1937 г. і, як выдатны выпускнік, быў пасланы ў Сарбону. Замест забяспечанага прафесарства (нават: у Францыі дзеці прафесараў маюць права на бясплатнае навучанне ва універсітэце), ён выбраў гарышча (якое прыгожа называецца мансардаю), падзёншчыну. Каб быць вольным, каб пісаць сваё. Апошні "Вялікі Лярус" адвёў яму ўсяго толькі 6 радкоў. Але ён напісаў некалькі *надзвычай цікавых кніг* — "Спакуса жыць", "Кароткі нарыс распаду", "Падзенне ў час". Яго вывучаюць, ім захапляюцца — вузкія амерыканскія спецыялісты. Слава, дай Бог, яшчэ чакае падзвіжніка.

*Гэты вялікі "дзівак" піша*: "Пісьменнік ці мысляр піша дзеля славы. Але ж і слава — марнасць, як і ўсё жыццё".

Ці можна гаварыць пра гіпатэтычную славу ў свеце якогась самага выбітнога нашага пісьменніка? Менавіта пра славу, а не пра экзатычную да яго цікавасць. Можа, нашыя творы неперакладальныя не толькі з пункту погляду мовы, але і ў сутнасці сваёй сэнсавай?

(Расеец Даўлатаў піша: "Ну як можна перакласці вось такое, напрыклад: "Толкает меня один клиент, а я этому деятелю — не возникай"?)

Як можна, напрыклад, данесці да замежнага чытача не тое што боль, але хоць бы **сэнс** арлоўскага пафасу?

(Напісалі ж у 30-я яшчэ гады амерыканскія крытыкі пра Зошчанку: “Аўтару ўдалося прыдумаць фантастычную гіпотэзу...” Гэта пра камуналкі.)

Пра славу.

Праз 95 гадоў пасля смерці ў Уэстмінстэрскім абацтве ў Лондане з’явілася вітражнае пано з імем Аскара Уайльда. Пісьменнік нарэшце прызнаны вялікім афіцыйна.

І лёс Салжаніцына ў цяперашняй Расіі, і Нобелеўскае нелаўрэацтва Борхеса і Картасара, і ўзлёт Рыбакова ў СССР напрыканцы 80-х гадоў, і літаўры з фанфарамі на імя М. Чарота ў 20-я гады ў нас — гэта таксама пра славу.

Але заходзіў да мяне вядомы мастак і казаў, што “Босыя на вогнішчы” — гэта вялікі твор. А рэпрадукцыю з Босха “кічам” назваў.

Ведаю ў сваім раёне — і візуальна, і бліжэй — некалькі былых “зэкаў”.

Нядаўна бачу малюначак з жыцця. Ідзе здаравеннейшы “амбал” гадоў пяцідзесяці й побач з ім ледзь кульгае згарбелы стары... З былых — колішні “пахан”. Якая пашана да старога ў амбала, якое ветлівае абыходжанне, які добры пяшчотны голас...

І падумалася знянацку, што многія маральныя законы крымінальнага свету, хоць ідэалізаваць іх не трэба, — нашмат лепшыя за пісьменніцкія. Я ў літарацкім асяродку не толькі ўзроставыя адносіны маю на ўвазе. Не толькі чыноўніцкія. Я ўвогуле — пра норавы. Пра ўсе гэтыя тайны мадрыдскага двара, зайздрасць, нядобразычлівасць і г.д.

Дальбог, бывае, нашмат ямчэй пачуваюся з зэкамі былымі, у якойсьці кацельні, за пляшкаю белай і цыбулінаю, чым на “схадняку” ў Саюзе.

Але ж ёсць яшчэ і свет палітычны...

Лёс першага пралетарскага паэта Чарота, перакладчыка “Інтэрнацыяналу” Андрэя Александровіча — і лёс Хадыкі й Дубоўкі...

Лёс на кані не аб’едзеш...

Заканчваю гэтыя нататкі — і ўсё ніяк не магу падступіцца да таго, каб сказаць колькі слоў пра апошні, таямнічы прарыў Уладзіслава Рубанава. Тут не колькі слоў — трактат пісаць трэба таму чалавеку, хто яго й пра яго ведаў. Але: і страшна, і не пра ўсё можна.

Ён пісаў так, усё роўна як ведаў, прадгадваў свой канец, усё роўна як быў у сувязі з *тым* светам.

Не магу... Нельга *туды* ўлазіць... Не ўлазіцца...

Вось канец рамана “Не аднойчы забіты”:

“На Паўночных могілках стаіць сціплы помнік — шар з белага каменю. Ні дат, ні надпісу, ні фатаграфіі на ім няма...

Зусім рэдка я купляю кветкі, саджуся ў аўтобус і еду міма Навінак на Паўночныя могілкі. Стаю перад белым, без намёку на пранікальнасць, шарам, і мне здаецца, што я жыву ў якімсьці новым, таямнічым свеце”.

Усё роўна як я гэта стаю... Толькі ўжо на зусім рэальных Міханавіцкіх могілках, каля Уладзікавай магілы.

Яшчэ пра запамінальныя радкі.

Цяпер пра пачаткі твораў.

Мяне заўсёды ўражвалі тры:

пушкінскі — “Однажды играли в карты у конногвардейца Нарумова”;

булгакаўскі, цяпер ужо адмыслова перакладзены Алесем Жуком, — “У белым плашчы з крывавым падбоем, кавалерыйскай хадою з падшаркваннем на дасвецці чатырнаццатага чысла веснавога месяца нісана ў крытую каланаду, якая злучала два крылы палаца Ірада Вялікага, выйшаў пракуратар 1удзеі Понцій Пілат”; праўда, гэта пачатак другога раздзела, але і, адначасна, адной з галоўных ліній рамана.

Пачатак празрыста-просты і адносна “велеречивый”.

А ў нас?

Як выдатна пачынаецца караткевічаўскі “Хрыстос”:

“Будучы на схіле дзён, рыхтуючыся да агульнай чашы чалавечай — яе ж ніхто не праміне, — ведаючы, што за крэсамі не сустрэнемся зноў...”

Проста фенаменальны пачатак чорнаўскай “Бацькаўшчыны”, узор манументальнай прозы, па-добраму расцягваецца аж на дзве кніжныя старонкі, так што няма й мажлівасці цытаваць.

І ў яго ж:

“Звераватую панурасць Лявону Бушмару перадаў бацька — княжацкі дробны арандатар”.

Магія Слова...

“Міне шмат гадоў, і палкоўнік Аўрэліяна Буэндзія, стоячы ля сцяны ў чаканні расстрэлу, згадае той даўні вечар, калі бацька ўзяў яго з сабою паглядзець на лёд...”

Напісаць бы што такое — і памерці.

ПАМЯЦЬ

# Майстар харавых фрэсак

Чым заўжды быў адметны Акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі, дык гэта ўражлівым гучаннем харавых сцэн. Яскравымі старонкамі гісторыі нашай музычна-тэатральнай культуры засталіся оперныя спектаклі “Арэстэя”, “Хаваншчына”, “Барыс Гадуноў”, “Міндзія”, “Лаэнгрын”, у якіх асаблівая драматургічная нагрузка ўскладалася на хор. І, пэўна ж, не былі б гэтыя старонкі адметнымі, калі б не чарадзейны дотык рукі Майстра. Майстра харавой справы, які браў сапраўды творчы ўдзел у пастаноўцы названых спектакляў. Іх нараджэнне і жыццё на беларускай опернай сцэне звязана з імем Аляксея Кагадзеева.

Летась увесну Аляксею Пятровічу Кагадзееву споўнілася 70. Юбілей знанага маэстра, народнага артыста Беларусі, які без малога чатыры дзесяцігоддзі аддаў працы ў Акадэмічным тэатры оперы і балета, прычым амаль з першых крокаў — на пасадзе галоўнага хормайстра, — юбілей гэты меў досыць сціплы грамадскі рэзананс. Магчыма, таму, што незадоўга да свайго 70-годдзя А. Кагадзееў аказаўся “не пры пасадзе”... Тым не менш, у тэатры наладзілі свята, і шчырыя сябры, калегі, вучні выказалі нямала ўдзячных слоў і пажаданняў добрага здароўя.

Мала хто ведаў тады, што здароўе Аляксея Пятровіча непапраўна пагаршалася. Немагчыма было здагадацца, што гэты сціплы, пунктуальны, шчыры чалавек, даўні аўтар “ЛіМа”, прапаноўваў для публікацыі рукапісы сваіх ужо апошніх рэцэнзій. Ён радаваўся гэтым публікацыям і абяцаў пры нагодзе напісаць што-небудзь яшчэ, а заадно і падумаць наконт успамінаў пра жыццё тэатра оперы і балета...



Мінуў год з часу яго апошняга візіту ў рэдакцыю, калі маэстра з усмешкай сказаў: “Я цяпер на пенсіі, часу маю багата, буду пісаць вам часцей”.

Час гэты спатрэбіўся на змаганне з хваробай. На тое, каб вытрымаць некалькі аперацый...

31-га жніўня будзе сорак дзён, як Аляксея Пятровіча Кагадзеева не стала. На жаль, пра тое, што скончылася зямное жыццё народнага артыста рэспублікі, адметнай асобы беларускага мастацтва, педагога Акадэміі музыкі, чалавека тэатра, — пра тое мы даведаліся са спазненнем. “Афіцыйнае маўчанне” ператвараецца ў непрыгожую тэндэнцыю (так было з народнымі артыстамі Т. Каламійцавай, У. Алоўнікавым).

У творчасці харавога дырыжора ёсць своеасаблівая драма: вынік гэтай творчасці немажліва захаваць для наступных пакаленняў. Нават відэазапіс опернага спектакля не перадасць усёй моцы ўздзеяння на слухача, якой валодалі створаныя Аляксеем Кагадзеевым харавыя фрэскі ў амаль двух дзесятках пастановак. Давайце ўспомнім: “Хаваншчына” і “Лаэнгрын”, “Барыс Гадуноў” і “Арэстэя”, “Джардана Бруна”, “Карміна Бурана”, “Князь Наваградскі”...

*Фота У. КРУКА*

# “Дружа мой, сокале ясны, крылаты...”

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЭДУАРДА САМУЙЛЁНКА

Такімі словамі развітваўся Янка Купала са сваім сябрам Эдуардам Самуйлёнкам. Ацэньваючы чалавечыя і пісьменніцкія якасці свайго сабрата па творчай рабоце, Якуб Колас адзначаў: “Яго выключнае дараванне шырокага мастацкага дыяпазону не паспела разгарнуцца ва ўсю сваю красу і сілу. Гэта быў пісьменнік з ярка акрэсленым, сугуба сваім мастацкім голасам”.

Толькі адно дзесяцігоддзе доўжыўся стваральны шлях Эдуарда Самуйлёнка ў літаратуры. Ён нарадзіўся 5 жніўня 1907 года ў Пецярбурзе, дзе жыў гарадскімі заробкамі яго бацька Людвіг. Але калі ў 1918-м яго мабілізавалі ў армію, Эдуард-падлетак трапіў на Бацькаўшчыну, у вёску Бандзелі, што ля мястэчка Расіца былой Віцебскай губерні. З Бандзеляў ён і даслаў свой першы верш у газету “Чырвоная Полаччына”.

Пазней Э. Самуйлёнак прызнаваўся Кузьму Чорнаму: “Адна толькі вёска, дзе я... вырас, можа даць тыпаў на паўсотню раманаў” з адным з такіх арыгінальных бандзелеўскіх тыпаў — чалавекам цікавага і выбітнага лёсу нам і ўдалося пазнаёміцца на святкаванні ў Росіцы 90-гадовага юбілею пісьменніка. Ветэран вайны Вячаслаў Адамавіч Іжык на чатыры гады маладзей за Эдуарда. Разам працавалі на гаспадарцы, разам танцавалі на вясковых гулянках. “Толькі, — усміхаецца сябрук Самуйлёнка, — дзяўчат праводзілі паасобку”.

Але суравеюць аблічча прысутных, калі мы разам з дзедам Іжыкам падыходзім да падмурка хаты Самуйлёнкаў. 16 лютага 1943 года Бандзелі, як і іншыя вёскі былога Партызанскага краю, былі спалены карнікамі разам з людзьмі — за супрацўленне гітлераўскаму нашэсцю.

Народ, народжаны ў кальчузе і з лірай у руках, чуйны да гора і радасці. Быў паўнюткі росіцкі клуб, далікатна аздоблены самуйлёнкаўскімі памяткамі. Танцавальна-музычныя гурты Росіцкай школы “Купалінка” (кіраўнік Любоў Кухтарская), “Непаседы” (кіраўнік Алена Мінчанка) былі галоўнымі ўдзельнікамі юбілейнай літаратурнай гасцёўні. Вядучай Алене Мінчанцы дапамагалі Тамара Маслоўская, Вольга Баранаева і іншыя росіцкія таленты. А каб свята, прысвечанае земляку Эдуарду Самуйлёнку, удалося на славу, школьнаму калектыву дапамагалі Бігосаўская бібліятэка (Тамара Гендзік, Любоў Жарнасек), бігосаўская народная майстрыха Галіна Тушкіна, старшыня Бігосаўскага сельскага савета Анатоль Баранаеў. Мясцовую ініцыятыву апекавалі старшыня Верхнядзвінскага райвыканкама Уладзімір Петрашкевіч, Народны клуб цікавых сустрэч пры Цэнтральнай раённай бібліятэцы, які ўзначальвае Валянціна Крук.

І вось у літаратурнай гасцёўні пры запаленых свечках слова даецца самому Эдуарду Самуйлёнку: чытаюцца ўрыўкі з яго твораў. Згадваюцца імёны сяброў і блізкіх, гучаць успаміны Ядвігі Усялёнак, Арнольда Клагіша, стрыечнага брата Даната Самуйлёнка. Дачка пісьменніка Марына Эдуардаўна не змагла прыехаць на ўрачыстасць: яна перадала прывітанне і падзяку за памяць.

Напрыканцы жнівеньскай сустрэчы ў Расіцы (такое ўсё ж гістарычнае імя старажытнага мястэчка) выступілі паэты з Верхнядзвінска Антон Бубала, Эдуард Зубрыцкі і Аляксандр Мядзюта, Навум Гальпяровіч з Наваполацка. Землякам Самуйлёнка ў аддзяку за хлеб-соль былі перададзены кнігі, у тым ліку і выдадзеныя “Юнацтвам”, — падарункі ад літаратурнага музея Янкі Купалы.

У 1939 годзе Янка Купала ў памяць Эдуарду Самуйлёнка пісаў:

***Восенню кветкі завянуць у полі.***
***Кветкі засохшай ізноў не свісці, —***
***Думкі твае не завянуць ніколі,***
***Думкі аб нашым прыгожым жыцці.***

А прыгожае жыццё ствараюць прыгожыя людзі. Так думалася на зваротным шляху з Росіцы-Расіцы.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

ЗАМЕЖЖА

# За што расіяне паважаюць летувісаў

Цэнтр міжнародных сацыялагічных даследаванняў у Маскве правёў цікавае (пэўным чынам і для беларусаў) масавае апытанне расіян аб іхніх адносінах да Летувы і летувісаў. Апытана 4200 чалавек з ліку розных катэгорый насельніцтва (лічыцца, што для дакладнага выяўлення грамадскай думкі дастаткова апытаць каля 1600 рэспандэнтаў) у буйных населеных пунктах з шырокім геаграфічным дыяпазонам — у Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Мурманску, Туле, Новасібірску, Хабараўску, Паўднёва-Сахалінску, Аляксандраве, а таксама ў цэнтрах аўтаномных рэспублік Расійскай Федэрацыі Казані і Уфе.

Галоўным вынікам, паведамляюць расійскія сродкі масавай інфармацыі, было тое, што апытанне разбурыла прапагандысцкі міф аб тым, што нібыта расійцы недалюбліваюць сваіх заходніх суседзяў, якія ніяк не хацелі ціха сядзець у імперскіх абдымках і ўрэшце аднымі з першых зрабілі ўсё, каб вырвацца з Савецкага Саюза. “Дыпламаты і палітолагі, — заўважае карэспандэнт “Известий” Максім Юсін, — трэба думаць, моцна здзівяцца, даведаўшыся, што 30 працэнтаў расіян лічаць адносіны паміж Масквой і Вільнюсам дружалюбнымі, 49 працэнтаў — нармальнымі і што ніводзін з апытаных (!) не назваў іх напружанымі”.

Мала таго, 40 працэнтаў удзельнікаў апытання ставяцца да летувісаў з павагай, а 24 працэнты — нават з сімпатыяй і толькі 6 працэнтаў абыякава. На пытанне: “Што вам падабаецца ў летувісах?” — 42 працэнты назвалі працавітасць, 25 працэнтаў — імкненне да прыгажосці і ўтульнасці, 24 працэнты — адчуванне стылю, 9 працэнтаў — прадпрымальнасць.

На пытанне — ці стабільная Летува дзяржава, 78 працэнтаў расіян адказалі станоўча і ўсяго 7 працэнтаў выказалі процілеглае меркаванне. Вялікі працэнт і тых, хто хацеў бы наведаць Летуву, — 61. Праўда, перазджаць туды назаўсёды не пажадаў ніхто, тут галоўным момантам стаў, відаць, не характар летувісаў,а абавязковае вывучэнне іх мовы. Калі хто з расіян і шкадуе аб “страце Летувы”, то хутчэй як “недарагой курортнай зоны”. Толькі 10 працэнтаў лічаць, што развіццю расійска-летувіскіх адносін перашкаджаюць “псіхалагічныя наступствы аддзялення Летувы і іншых прыбалтыйскіх дзяржаў”. Яшчэ меней тых, хто лічыць такой перашкодай імкненне Летувы ўступіць у Паўночна-Атлантычны саюз (НАТА)

**Падрыхтаваў У.А.**

АБ’ЯВЫ

БЕЛАРУСКАЯ
АКАДЭМІЯ МАСТАЦТВАЎ

## аб’яўляе конкурс

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу.**

- загадчык кафедры кінатэлемастацтва, прафесар — 1
- загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры, прафесар — 1
- загадчык кафедры інтэр’ера і абсталявання — 1
- прафесар кафедры малюнка — 1
- прафесар кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры — 1

*Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб’явы.*

Заявы і дакументы, згодна палажэнню аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас:

**220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў. Тэл. 2-32-77-34.**

**Белдзяржмузей народнай архітэктуры і побыту выказвае глыбокае спачуванне намесніку дырэктара музея па навуковай працы Валянціну Валянцінавічу КАЛНІНУ з прычыны напаткаўшага гора — заўчаснай смерці роднай сястры.**

ПРАБЛЕМА

# У атачэнні шэрых сцен...

Дастаткова слушным падаецца сцвярджэнне, што гарады і вёскі мусяць аздабляцца і ўпрыгожвацца паводле крытэрыяў мастацкасці, рацыянальнасці і сэнсавай ідэйнасці. Так, найбольш спрыяльнае выйсце пры ўзвядзенні таго альбо іншага архітэктурнага збудавання ці скульптуры — спалучыць названыя складнікі ў адно, аднак здзейсніць гэта часам бывае немажліва: мяняюцца норавы і ўлады, у прафесійных колах майстроў існуюць розныя падыходы, не стае грошай і г. д. Цяжка пазбегнуць і крайніх праяў, часта заснаваных на дзяржаўных палітыцы і ідэалогіі. Узгадайма хаця б савецкія часы, калі па ўсёй камуністычнай імперыі ўзвышаліся канвеерныя помнікі правадыру пралетарыяту. Ды і цяпер жыхары Мінска няўцямна паціскаюць плячыма, пазіраючы на сталічную плошчу Незалежнасці, хаця, напэўна, гэты помнік Леніну мае пэўную эстэтычную і культуралагічную каштоўнасць. А пагутарыце з нашымі майстрамі, і яны назавуць вам шэраг скульптур і помнікаў, якія, паводле іхняга меркавання, увогуле не павінны былі ўзводзіцца ў Мінску. Розных поглядаў нямала. Вось таму тыя ці іншыя помнікі дэмантуюцца, на іх пішуцца непрыстойныя надпісы, а да паасобных па-ранейшаму ўскладаюцца кветкі. Іншым жа лёс працяглы час не рунчыць з'явіцца перад людзьмі. А з гісторыі мастацтва вядома, што цярпелі праз нядбайнае стаўленне, цкаванне ды праз іншыя перашкоды нават агульна прызнаныя шэдэўры.





Хіба ж дастаткова аздоблена помнікамі сталіца Беларусі? І наколькі ўзведзеныя помнікі ствараюць атмасферу гістарычнасці і беларускасці?

У двары Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Мінску стаяць два помнікі. Яны там не размешчаны, не ўзведзеныя — яны проста стаяць (трэба спадзявацца, часова). Помнікі, зыходзячы з майго далёка не прафесійнага меркавання, неблагія. Уражанне ад іх такое, што помнікі вось-вось пагрузяць на платформы і павязуць, каб паставіць дзесьці ў цэнтры Мінска. Але знаходзяцца тут медны Мікола Гусоўскі і бронзавы Францішак Скарына даволі доўга. З'явішча, пагадзіцеся, сумнае. Няўжо ніхто не звяртае ўвагі на самотныя, у атачэнні шэрых сцен, постаці вялікіх асоб беларускае мінуўшчыны?

Ёсць, аказваецца, людзі, якія намагаюцца зрабіць так, каб памянёныя вышэй помнікі ўвайшлі ў сталічны гарадскі краявід. Старшыня гістарычнага клуба "Спадчына" Анатоль Белы распавядае:

— Помнік Гусоўскаму, аўтару славутай паэмы "Песня пра зубра", стварыў Уладзімір Панцялееў, які жыве ў Гродне. Гэта была ягоная дыпломная праца, і дзяржаўная экзаменацыйная камісія ацаніла яе на "выдатна" з рэкамендацыяй помнік паставіць. А выява Скарыны ў бронзе выканана вядомым беларускім майстрам Сяргеем Адашкевічам. Гэты ягоны помнік Ф. Скарыну, як адзначаюць спецыялісты, ці не найлепшы ў краіне за апошняе дзесяцігоддзе.

— Дык чаму ж тады, калі гэтыя помнікі маюць належную мастацкую вартасць, яны стаяць тут?

— Дзеля гэтага неабходна адпаведная пастанова Савета Міністраў і дазвол мінскіх гарадскіх уладаў. Аднак пакуль анічога не атрымоўваецца. Помнікі, у такім вось гатовым, як кажуць, выглядзе існуюць ужо два гады. Бяры і ўзводзь...

— Чаму справа не варушыцца з месца?

— Не ведаю. Гэтыя помнікі зроблены на грошы прыватных фундатараў. Значыць, дзяржаве выдаткоўвацца амаль не трэба. Адно што — на само ўзвядзенне...

— Цікава, а дзе мяркуецца паставіць помнікі?

— Прапанавана шмат месцаў: і каля Дома літаратара, і каля Нацыянальнай бібліятэкі... Была ідэя стварыць пантэон прыкладна з дваццаці помнікаў нашым вядомым гістарычным асобам у цэнтральным скверы, што на Кастрычніцкай плошчы. Трэба насыціць горад помнікамі. Напрыклад, тую ж кнігу прачытаюць некалькі тысяч чалавек, а помнік будзе бачыць увесь горад. Так людзям лягчэй успрымаць гісторыю, далучацца да мінуўшчыны.

Спадар Белы паведаміў, што зараз ствараецца аргкамітэт, які будзе займацца, умоўна кажучы, аховай помнікаў. Ствараецца, трэба меркаваць, на доўгі час, бо падобных праблем дастаткова многа. Плануецца, што ў аргкамітэт увойдуць В. Зуёнак, А. Марачкін, Л. Шчамялёў, У. Гніламёдаў і іншыя досыць вядомыя ў творчых колах людзі. Даў папярэднюю згоду ўзначаліць аргкамітэт Іван Шамякін. Мажліва, гучныя імёны і зрушаць справу з месца.

А што да помнікаў Гусоўскаму і Скарыну, дык варта адзначыць некалькі момантаў, якія, хутчэй за ўсё, і сталіся прычынамі непаразуменняў. Па-першае, як нам паведамілі ў Міністэрстве культуры, дзеля таго, каб паставіць той альбо іншы помнік, неабходна паводле закона прайсці пэўную працэдуру. Так, экспертны савет, своеасаблівае журы, што складаецца з прафесіяналаў, павінен папярэдне разгледзець макет помніка альбо гатовы помнік і ацаніць яго мастацкую вартасць. А спадар Анатоль Белы гэтую ўсю працэдуру ігнаруе, спрабуючы вырашыць пытанне прыватнымі гутаркамі і лістамі да прэзідэнта, якія Адміністрацыя кіраўніка дзяржавы пераадрасоўвае ў Міністэрства культуры. З другога боку, гэтыя помнікі (асабліва Ф. Скарыну) сапраўды высокай якасці, што і засведчылі незалежныя спецыялісты. Да таго ж, яны перадаюцца творцамі бясплатна. А вось калі б гэта было не так, можна было б сцвярджаць, што, маўляў, патрацілі грошы і цяпер з мэтай кампенсаваць выдаткі ціснуць на дзяржаву...

Так, Мінску не стае добрых помнікаў, якія б стваралі ўяўленне, што мы насамрэч жывём у незалежнай краіне, якія б кампенсавалі нам наяўнасць у нашай сталіцы розных "ленінаў" ды "калінінаў". Здавалася б, вось нядаўна гэтак рашуча і даўгачасна ўпарадкоўвалі Мінск, і гэтыя ж самыя помнікі Гусоўскаму і Скарыну мелі выдатны шанц быць узведзенымі. Але — шанц так і застаўся шанцам. А ідэя з пантэонам досыць шыкоўная.

**Кірыла ПАЗНЯК**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Наспелі сур'ёзныя змены ў архітэктуры гарадоў. Перад адміністратыўнымі будынкамі трэба мець пляцоўкі для пікетаў, галоўныя вуліцы пашырыць, каб адначасова маглі рухацца дэманстранты і транспарт, адвесці асобныя плошчы пад масавыя выступленні і мітынгі, павялічыць колькасць вязніц і калоній. Лічыце, спатрэбяцца грандыёзныя выдаткі, і прасцей даць людзям свабоду? Яно-то так, ды хто ж яе дасць?

Цыган прадаў каня, набыў папугая. — Што ты выйграў, цурбан? — На кармах паашчаджаю.

Дзе ў Мінску збіраюцца дзяўчаты і юнакі? У скверы Янкі Купалы, ля опернага, дзе Максім, на плошчы, ля "дзядзькі Якуба". Бачылі, класікі нешта гавораць ім, у статуй шаволяцца губы.

Шэпт у страі. — Чулі, у Ерэване абвешчаны сатырычны конкурс на лепшы генеральскі асабняк. — Дзіва што, у іх там "новых армян" стусы. — А ў нас ці не так, хіба нашы генералы не "новыя беларусы"?

Бачаць адны заганы ў мужыцкім жыцці руцінным. А вёскі ж — тая туманнасць, з якой паўстала айчына. Няхай мы сялянская нацыя, і ўсё не так проста, ды дзе яны, дысертацыі пра лёс беларускай вёскі? Сялянскія дзеткі даўно штурмуюць космас боскі, а на зямлі, занядбаныя, гінуць нашы вёскі.

Пазванілі з ваенкамата: — Чаму не клапоціцеся аб воінскім званні, надарыцца вайна, будзем плаціць вам зарплату. — Дзякую, — адказаў на званок, — высылаю на сябе некралог.

Паводле Фрыдрыха фон Лагау. Што значыць быць цяпер надзвычай смелым? Зваць чорным чорнае, а белае зваць белым, душою не крывіць, хай нават пад прымусам, не хлусіць проста так і не за так не хлусіць.

З "мерседэса" выскачыў "новы беларус", уварваўся ў магазін віхрам: — Хуценька кейс на пяць пляшак каньяку і каб замок з шыфрам. — Улічыце начынку, — сказаў прадавец, — пераблытаеце лічбы пасля першага "дрынку". — Тады, — на хвілінку застыў пакупец, — кейс і каньяку скрынку.

Конкурс прыгажунь прайшоў паспяхова — усе рэкламуюць цяпер шампунь ці пракладкі на новай аснове... "Каму ты зайздросціш?" — правялі ў школе кантрольную. "Фотамадэлям", — адказала палавіна школьніц. Прагматычны, кажаце, век, усё нармальна? А конкурс за 100 чалавек у Тэатральным?

Легендарная асоба: паведамленне аб ягонай смерці падвярсталі да падборкі "Доля праўды", а ён вазьмі аб'явіся ў рэдакцыі. Доля праўды ўсё ж была: пахавалі аднафамільца.

Законы руху, як іх спасцігаеш? Прымаеш сэрцам, нібы грэшнік веру. Няхай на мытні літасці не знаюць, даішнікі бяруць усё ж у меру. Рубеж дзяржавы ці блок-пост ДАІ — і там і тут адзін дэвіз: даі.

Чулі, праўда гэта ці не, можа, лухта, можа, байка, бульба вырасла ў цане, калі за мундзір прызналі лушпайку. Гультайка, кажа цяпер пра бульбу мундзір, адны блізіры, калі ёсць у ёй нейкая чэсць, дык яна ў мундзіры. А што мундзіраў на Беларусі болей ужо, чым бульбы, дык скуль бы?

Не блукае здань па Еўропе, ні табе рэвалюцый, ні фарсаў, абанкруцілася звышутопія Карла Генрыхавіча Маркса. Пахераны без каментарыяў ілюзорны дэвіз пралетарыяў, што да новага, дык лепшага не знайсці: "І на Марсе будуць яблыні цвісці".

Адарвалі ад варкі і скваркі, пасадзілі на прастольную лаву, і вось ужо тая кухарка ці не кіруе дзяржавай. І дровы сячэ добра, і рэбры ламае як трэба. Датла разваліла гаспадарку, а якая была б кухарка!

Калі ў ім нехта памёр, дык гэта найперш акцёр. Не абы-які, не нейкі, дар яго не раўня капейцы. Можа, усё жыццё кіраўнік іграў у батлейцы? Час сваё слова скажа, аплача акцёра жалейка, кіраўнік застанецца... персанажам батлейкі. Уладаром закулісся? А іншыя ці прыжыліся б?

У замку гніль, дзьмуць скразнякі, нешта трашчыць пад нетрамі. — Зрабіць рамонт? Вы што, мужыкі, замак у нас паветраны. Сусед прапануе — "арандую". Хай ён і рамантуе.

Хваробы пісьменнікаў — ціск і інфаркты, як аддзяліць іх ад літаратуры факта? Факт літаратуры — ад пісьменніцкіх турбот, пісьменніцкія турботы — ад лёсу народа? Напісанае без болю — чаго яно варта, я б да аўтарскага болю аднёс і кварту.

Эпітафія (з англійскай). Тут ляжыць кавалер ордэна Залатога руна, узнагароджаны пасмяротна. Жыў, выходзіць, недарма, гаротны. Лепш, канешне, каб яму пры жыцці ўручылі той знак ганаровы. Можа, быў бы яшчэ жывы і здаровы. Але так ужо надараецца, што ўзнагароды ў нас спазняюцца.

Эканамічны адбыўся цуд: долару вынесены прысуд. Ён цвёрдай цаною цяпер забяспечаны, не можа з'яўляцца прадметам камерцыі. Мне не палегчала, вам палегчала?


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 21.8.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4875/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12